ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

27 чэрвеня 1997 г. № 26/3902 Кошт 3 000 руб.





## Досвед, даражэйшы за поспех

**Акцёра Гарадзенскае драмы Сяргея КУРЫЛЕНКУ мы чакалі з рэпетыцыі разам — я і ягоная дачка Ксеня. Перамаўляліся: пра Ксеніну школу з англійскай мовай, пра маму ды тату, якія ўсё ў тэатры ды ў тэатры, пра тое, што, рэпеціруючы, бацьку лацвей трымаць свайго героя на адлегласці, а не пераўвасабляцца ў яго літаральна кожнай сваёй тканкай: "Ведаеце, як да сістэмы Міхаіла Чэхава, але Станіслаўскага ён не адмаўляе, наадварот..." За дваццаць хвілін, Ксеня выявілася амаль што тэатральным менеджэрам з веданнем англійскай мовы; сярод спектакляў Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра безумоўнае першынство аддала "Дацкай гісторыі" паводле казкі Андэрсена, дзе бацька ступае па сцэне адметным Пеўнем...**

*(Працяг на стар. 11)*

# Школа дзён

***Чым болей у краіне святаў — тым бядней жыве народ. Чым больш грандыёзныя і пампезныя святы — тым меней у краіне свабоды... Гэта даўняе назіранне, якое тычыцца любой краіны, а не канкрэтна былога СССР ці сённяшняй Беларусі. Але наўрад ці нехта будзе аспрэчваць яго ісціннасць. Асабліва паглядзеўшы штовячэрнія перадачы-справаздачы БТ пра тое, як у Мінску ідзе падрыхтоўка да Свята горада — Дня вызвалення Беларусі — Дня рэспублікі — Дня незалежнасці, — што адбудзецца на пачатку ліпеня. Што-што, а святкаваць мы яшчэ не развучыліся. І свет пераканаецца ў гэтым...***

## СТЫХІЯ ТЫДНЯ

Ціхмяная і памяркоўная Беларусь заўсёды вызначалася гэтакім самым кліматам. Прыродных катаклізмаў на тэрыторыі нашай краіны амаль не бывала. Паводка ці град, што адбываліся сям-там сяды-тады — запаміналіся надоўга і ўспаміны пра іх пераказваліся з пакалення ў пакаленне. Канец гэтага стагоддзя і тысячагоддзя ўнёс свае карэктывы і ў нашае надвор'е. Сёлета на Беларусі ўжо адбылося столькі стыхійных бедстваў, што хапіла б іх на дзесяткі ранейшых, спакойных, гадоў. Ураган ідзе за ўраганам, як дзе-небудзь у Казахстанскім стэпе. Апошні, што здарыўся ў гэты панядзелак, быў наймоцным. Ёсць чалавечыя ахвяры, нанесены значныя страты народнай гаспадарцы. Ураган разбураў дамы і абыходзіў святыні. Міжволі бачыцца ў гэтым напярэджанне, знак нябёсаў...

## ЗДЗІЎЛЕННЕ ТЫДНЯ

Некалі Беларусь здзівіла вынікамі свайго другога ўсенароднага рэферэндуму ўвесь свет: што ж гэта за народ, думалі ў еўропах ды амерыках, калі ён сам, добраахвотна, адмаўляецца ад народаўладдзя — дае правы прэзідэнту не толькі адбіраць дэпутатаў у Нацыянальны сход, але і прызначаць органы мясцовага самакіравання... На мінулым тыдні адбылося яшчэ адно дзіва: Нацыянальны сход аднагалосна прыняў Закон "Аб прэзідэнце Рэспублікі Беларусь": паводле якога наш прэзідэнт надзяляецца выключнымі правамі, у тым ліку і правам распускаць Нацыянальны сход... Што ж гэта за прэзідэнт такі, думаюць у еўропах ды амерыках, якому так бязмежна давараюць усе: і народ, і дэпутаты, якія загадзя згодныя з тым, каб быць разагнанымі.

## СКАНДАЛЬЧЫК ТЫДНЯ

Як вядома, прымірэнчыя перамовы між прадстаўнікамі кіраўніцтва краіны і апазіцыі з удзелам дэлегатаў ад Еўрапарламента і Савета Еўропы перанесена на 15 ліпеня. Але падчас іх і пасля ў беларускіх СМІ разгараўся невялікі скандальчык у сувязі з удзелам у гэтых перамовах Юрыя Малумава. Атрымалася двухсэнсоўная, нават абсурдная сітуацыя: Ю. Малумаў не прызнае Вярхоўны Савет 13-га склікання, але ў перамовах прымаў удзел нібыта на баку ВС — прадстаўляў прапрэзідэнцкую фракцыю "Згода".... Відавочна, што ў перадперамоўным запале рашэнне аб удзеле ў перамовах прадстаўнікоў фракцый ВС было не пралічана да канца, было чарговым "экспромтам", "імправізацыяй"... Цяпер вось даводзіцца "тлумачыць сваю пазіцыю".

## АРЫШТ ТЫДНЯ

Напярэдадні з'езда БНФ, ноччу, проста з дому, быў забраны і адвезены ў спецпрыёмнік за краты в.а. старшыні БНФ, вядомы перакладчык і літаратар Лявон Баршчэўскі. Як высвеілася, некалькі месяцаў таму ён быў завочна асуджаны на пяць сутак арышту за ўдзел у адным з мітынгаў ці шэсцяў. Увесь гэты час Л. Баршчэўскі не хаваўся, быў на віду і пры жаданні ўлады ў любы момант маглі яго арыштаваць. І вось такі "момант" наступіў... Улады хутка зразумелі, што зноў наступілі на граблі, і праз 16 гадзін Л. Баршчэўскага выпусцілі. Праўда, з умовай, што пасля з'езда ён усё ж адбудзе пакаранне... (Каментарый да 5-га з'езда БНФ чытайце побач).

## НАМЕР ТЫДНЯ

На мінулым тыдні заявіў пра сябе Камітэт па адраджэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. У складзе яго вядомыя палітыкі, эканамісты, сацыёлагі, а таксама дзеячы культуры і літаратуры. У прыватнасці, заяву падпісалі Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Быкаў, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, С. Законнікаў, В. Іпатава, У. Конан і многія іншыя. Прыкра, вядома, што БСДГ, якая так добра пачынала колькі гадоў таму, раздваілася, растраілася, аб'ядналася... і стала трохі не той Грамадой, якой задумвалася, якой была ў гісторыі Беларусі. Час страчаны. Але прызнаць памылкі і паспрабаваць выправіць іх — ніколі не позна.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

Ад 2 да 5 мільярдаў долараў ЗША знаходзіцца зараз, паводле розных падлікаў, "на руках" у жыхароў Беларусі. Пра гэта паведаміў дэпутатам палаты прадстаўнікоў Нацсходу Беларусі намеснік міністра эканомікі А. Тур. Беларусы захоўваюць свае грошы (калі яны ёсць) у "панчохах", а не ў банках, бо ў нас няма гарантый, што гэтыя грошы, паклаўшы ў банк, можна будзе атрымаць па першым патрабаванні, а не пасля таго, як іх "з'есць" інфляцыя.

## ПРОСЬБА ТЫДНЯ

Нядаўна народжаны Беларускі патрыятычны саюз моладзі патроху падрастае і становіцца ўсё больш патрабавальным да сваіх "бацькоў". Газета "Свабода" 25 чэрвеня г.г. надрукавала цікавыя дакументы, што трапілі ў рэдакцыю з Савета Міністраў. У іх кіраўніцтва БПСМ просіць урад і прэзідэнта выдзеліць на гэты год 12 мільярдаў 337 мільёнаў рублёў для развіцця новага аб'яднання (3,7 мільярда — на зарплату). У лісце гаворыцца і пра шэраг ільгот для "патрыётаў". У адказ новыя камсамольцы абяцаюць, што "БПСМ пойдет правильным путем — пойдет туда, куда укажет наш лидер, президент Лукашенко".

## ПАГРОМ ТЫДНЯ

18 чэрвеня невядомыя людзі ў міліцэйскай і камуфляжнай форме зрабілі напад на рэдакцыю газеты "Здравый смысл". Злачынцы збілі вартаўніка рэдакцыі, звязалі яго, абшукалі памяшканні і зніклі... Рэдакцыйныя камп'ютэры і іншую каштоўную тэхніку не кранулі. Старшыня Партыі здаровага сэнсу, якая выдае газету, І. Каравайчык лічыць, што напад не быў "справай рук звычайных разбойнікаў". Узбуджана крымінальная справа, распачата следства.

З нагоды

# Ці ёсць у "Фронту" тыл?

Для характарыстыкі палітычнай сітуацыі ў Беларусі я дазволю сабе такое параўнанне. Уявіце, што група марскіх пехацінцаў, высадзіўшыся сярод ночы на варожым беразе, захапіла плацдарм. Кажуць, што ў страха вялікія вочы. Вораг напалоханы, разгублены, больш за тое — панікуе. Дзёрзкасць атакуючых стварыла ілюзію наступу вялікай арміі. Дзякуючы гэтай акалічнасці, дэсантнікі значна пашыраюць плацдарм, але для шырокага наступу сіл відавочна не хапае...

Раніцою гэта становіцца зразумелым і тым, хто толькі што здаваў пазіцыі. Цяпер ужо наступаюць, дакладней — контратакуюць яны. І вось ужо рэшткі дэсанта прыціснуты да мора. Але на гарызонце ўжо дыміць эскадра. Перамога будзе за намі. Адно турбуе: перамога — з намі альбо ўжо без нас?

Менавіта ў такой сітуацыі апынуўся сёння Беларускі народны фронт. Азіраючыся назад, можна толькі здзіўляцца, колькі зрабіў за гэты час БНФ адносна малымі сіламі, маючы працаўнікам згуртаваную наменклатуру і аб'ядналых інстынктам непрымання перамен люмпенаў! БНФ рабіў рэальную палітыку ў парламенце і на вуліцах, адцягваў на сябе асноўныя сілы памянёнай вышэй згуртаванай пры ўладзе старой наменклатуры, даваў такім чынам магчымасць стаць на ногі іншым дэмакратычным арганізацыям.

Сёння Фронт перажывае далёка не лепшы час. Можна нават сказаць, што вярнуўся да таго, з чаго пачынаў. Але калі напачатку БНФ быў менавіта фронтам, які аб'ядноў усіх, хто быў супраць бальшавіцкай дыктатуры — ад памяркоўных "русскоязычных" інтэлігентаў да беларускіх нацыяналістаў; ад камуністаў, што не да канца разуверыліся ў камуністычнай ідэі, да звычайна апалітычных (пакуль не прыпякло) "пралетарыяў", — дык зараз Фронт фактычна з'яўляецца партыяй, якая трымае толькі пэўны сегмент палітычнага спектра беларускай апазіцыі. Учарашнія "дачэрнія" партыі БНФ, што выйшлі ў свет з фронтаўскіх структур, самі прэтэндуюць на лідэрства. Разборкі ў дэмакратычным лагеры — гэта сёння проста падарунак уладам. Хацелася б верыць, што няздольнасць дэмакратаў дамовіцца — усяго толькі "дзіцячая хвароба", але "дзяцінства" відавочна зацягваецца.

Апошні з'езд БНФ не прынёс сенсацыі. Ды, зрэшты, іх не варта было і чакаць. Аўтарытэт лідэра Фронту Зянона Пазняка па-ранейшаму непахісны. І хоць сітуацыя, калі ён кіруе з эміграцыі, не зусім нармальная, змена лідэра адзначала б раскол у шэрагах БНФ. Вярнуцца на радзіму Зянон Станіслававіч не можа. Не надышоў яшчэ час.

Адкрытым сёння застаецца галоўнае пытанне: ці ёсць у Фронту тыл? Ці стануць пад фронтаўскія сцягі рабочыя, ці прыйдзе ў БНФ моладзь? Адносна моладзі большменш зразумела: "Моладзь за незалежнасць!" — ці не галоўны лозунг "Мінскай вясны-97". Іншая справа — рабочыя. Сённяшняя ўлада сямутаму навучылася. Прынамсі, не здольная справіцца з эканамічным крызісам, яна тым не менш рупіцца, каб колькасць незадаволеных не дасягнула крытычнай масы, калі сітуацыю не выратуе ні ОМОН, ні нават танкі. То аднаму, то другому заводу-гіганту аказваецца "целевая помощь" дзяржзаказам альбо доўгачаканай зарплатай. Разумеюць: калі спыняцца адначасова Мінскі трактарны, Гродзенскі "Азот", Магілёўскае "Хімвалакно", Бабруйскі шынны — гэта будзе катастрофа. Улада сабе не вораг, гэтага яна ў бліжэйшы час не дапусціць. Грошы намалююць, выцыганяць у Расіі, пазычаць "пад рэформы" на Захадзе, але патэнцыяльны выбух будзе патушаны.

Ды заўжды ёсць нейкая верагоднасць... цуду. Нечаканага падарунка лёсу. З 1991 годзе такім падарункам для дэмакратаў стаў няздарны жнівеньскі путч, пасля якога адхіленне КПСС ад улады і дэмантаж СССР было ўжо толькі справаю тэхнікі.

Я не вазьмуся прагназаваць палітычнае надвор'е ў нашай краіне на "бліжэйшыя суткі". І ўсё ж, думаю, варта рыхтавацца да "адлігі". Дакладней, рыхтаваць адлігу. А мо і паводку...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Уражанні

# Пленэр напярэдадні "Базара"

20 чэрвеня ў Віцебску распачаўся II Міжнародны Шагалаўскі пленэр і VII Міжнародныя Шагалаўскія Дні. Мерапрыемствы прымеркаваны да 110-х угодкаў з дня нараджэння вялікага майстра. Гэтым разам у пленэры бяруць удзел 24 мастакі з 8 краін — Беларусі, Ізраіля, Францыі, Расіі, Швейцарыі, Германіі, Летувы і Латвіі. Чакаецца прыезд мастака з Грэцыі. Найбольш шырока прадстаўлена, зразумела, Беларусь — 13 чалавек. Па два — з Германіі, Летувы і Францыі, з астатніх краін — па адным удзельніку. Пленэр "памаладзеў". З беларускіх мастакоў старэйшы па ўзросце Мікалай Кірэеў, а ён мастак хутчэй сярэдняга, чым старэйшага пакалення.

З 21 чэрвеня па 3 ліпеня мастакі будуць працаваць, а 4 ліпеня мае адкрыцца справаздачная (так бы мовіць) выстава. Назаўтра, 5 ліпеня, мяркуецца адкрыццё выставы літаграфій Марка Шагала з музея ў Ніццы, выставы, з якой ужо паспелі азнаёміцца мінчукі. Таксама плануецца "круглы стол" удзельнікаў пленэра і мастацтвазнаўцаў; свята на вуліцы Пакроўскай (цырымонія адкрыцця Дома-музея Марка Шагала, шэраг выстаў, кветкі на магілу настаўніка М. Шагала — Ю. Пэна). На заканчэнне, 6 ліпеня, адбудзецца тэатралізаваная дзея "Прысвячэнне майстру".

Адкрыццё пленэра і Дзён адбылося ў тэатры імя Якуба Коласа. Атрымалася даволі ўрачыста. Пад гукі музыкі мастакі-ўдзельнікі падняліся на сцэну. Іх віталі ад імя кіраўніцтва горада і вобласці, было зачытана віншаванне прэзідэнта РБ. Потым слова бралі самі мастакі. Ад гаспадароў — Мікалай Кірэеў з Мінска і Сяржук Цімохаў з Полацка. Ад гасцей — Сюзана Баўман са Швейцарыі, Маціяс Вільд з Германіі, Аляксандрас Вазбінас з Летувы. Госці дзякавалі краіне і народу за цёплы прыём і магчымасць працаваць на зямлі вялікага майстра. Спадарыня Баўман сказала нават некалькі спецыяльна вывучаных дзеля такой нагоды слоў на рускай мове. Потым, па традыцыі, адбыўся канцэрт, у якім прынялі ўдзел Дзяржаўны Камерны хор Рэспублікі Беларусь (кіраўнік Ігар Мацюхоў) і і Дзяржаўны ансамбль салістаў "Класік-Авангард" (кіраўнік Уладзімір Байдаў).

Ёсць усе падставы спадзявацца, што сёлетні пленэр атрымаецца не горшым, чым папярэдні. Мастакі пакінуць у падарунак гораду па адным творы, да друку падрыхтуюць новы альбом-каталог твораў Шагалаўскага пленэру. Пастулова з прэцэдэнта (І пленэр) утворыцца традыцыя (І, ІІ, ІІІ і гэтак далей). Вяртанне Шагала на Радзіму, здаецца, набыло неабарачальны характар.

Гэты пленэр сведчыць і пра пэўную змену культурніцкіх арыенціраў Беларусі: наяўнасць, акрамя афіцыйнага ("славянскага", "інтэграцыйнага") мастацтва, яшчэ і мастацтва, якое дзяржава вымушана падтрымліваць, каб мець хоць нейкае падабенства еўрапейскага іміджу. Мабыць, невыпадкова на пленэры па адным мастаку з Расіі і Польшчы, але па два з Германіі, Францыі і Летувы. Я нават чуў меркаванне, што сярод польскіх мастакоў не тое што непрэстыжна браць удзел у культурніцкіх акцыях у Беларусі, але і небяспечна: пра іх кепска падумаюць калегі і ўвогуле польская публіка. Што ж да Расіі, дык тут справа іншая. Там не ўспрымаюць словаспалучэнне "Шагал і Беларусь", там дагэтуль упэўнены, што "Шагал родился в России на ее западной окраине". Сёння Расія імкнецца мець прыстойнае аблічча ў вачах Захаду, і таму ёй вельмі выгадна нагадаць пра той уплыў, які зрабілі на сусветнае мастацтва Малевіч, Шагал. Суцін. А значыць, не стане яна "дзяліцца" з намі тым, што звыкла лічыць сваім, што складае яе не толькі духоўны, але сёння і палітычны капітал. Ды нас гэта, зрэшты, не павінна цікавіць, мы проста вяртаем тое, што нам належыць.

Віцебск, між тым, рыхтуецца да "Славянскага базара". Часам у мяне ўзнікала ўражанне, што мы "са сваім Шагалам" спадарам з Дырэкцыі фестываляў проста "перашкаджаем працаваць". Карыстаючыся журналісцкай лексікай, назаву Шагалаўскі пленэр для Віцебска "падвёрстачным матэрыялам", матэрыялам не для "асноўных палос".

Мастакоў і прэсу пасялілі ў гатэлі "Віцебск" абы-як, замест абяцаных аднамесных нумароў — у двухмесныя. З гэтай прычыны нават меў месца лакальны скандал, бо не кожны мастак у часе працы (а пленэр — суцэльная праца) здольны і згодны цярпець каго-небудзь побач, нават свайго калегу (а мо і тым болей — калегу). У гатэлі няма гарачай вады. Журналісты не атрымалі акрэдытацыйных пасведчанняў і неабходнай для працы падборкі матэрыялаў (буклеты, альбомы, рэпрадукцыі, зборнікі Шагалаўскіх чытанняў атрымалі толькі мастакі). З Мінска ў Віцебск журналістаў прывезлі на спецыяльным аўтобусе — а вяртацца дадому прапанавалі самім. Дзякуй богу, што для нас яшчэ знайшлося месца ў аўтобусе ансамбля "Класік-Авангард".

Хацелася б думаць, што гэта было выпадковасцю, што памылкі будуць выпраўлены ў наступны прыезд — на закрыццё пленэра.

**П. В.**

Давід СІМАНОВІЧ

## "Засталася душа мая там..."

*І Шагал, як біблейскі Адам,*
*мовіў сумна,*
*з жыццём развітваючыся:*
*"Засталася душа мая там"...*
*Зноў зрабіліся вочы блакітнымі.*

*Можа, яблынь забытых кара*
*нагадала той дом, што туліцца*
*да самоты гаспадара*
*на Вялікай Пакроўскай вуліцы.*

*Сохнуць на платах гарлачы,*
*вокны ў свет —*
*вачыма яўрэйскімі,*
*асядлалі дах скрыпачы,*
*козы скачуць*
*рагатымі фрэскамі...*

*І ступаюць забытыя сны*
*па зямлі, спавітай дарогамі.*
*З Бэлай светла ляцуць яны*
*па-над цэрквамі, сінагогамі.*

*Незабыты ўсміхаецца край*
*даваеннай Дзвіной*
*незахмаранай,*
*І крычу я праз пекла, праз рай:*
*"Дык з вяртаннем Вас,*
*Марк Захаравіч!"*

*Ёсць мяжа жыцця і пакут,*
*неўміручасць узнагародаю, —*
*засталася душа яго тут,*
*неразгаданая, першародная.*

*Пераклад Рыгора БАРАДУЛІНА*

НАДЗЁННАЕ

Фелікс БАТОРЫН

# Хіт-парад эпітафій

НА ПУСТОЙ МАГІЛЕ

*Тут спачывацьме рэдкі чалавек,*
*Які пакуль яшчэ гадуецца ў палацы.*
*Чужому боту ён не кланяецца век,*
*Бо перавагу аддае чужому лапцю.*

НА МАГІЛЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

*Спі, маці, сні спакойна вечны сон.*
*З табой не ўзлезці*
*на расійскі трон.*

НА МАГІЛЕ "ЗАЙЦА"

*Люлі-люлі, звераняткa.*
*Шчасна ўцёк ты ў дол:*
*Ані голаду, ні звадкі,*
*Ні ваўкоў наўкол.*

НА МАГІЛЕ СЕЛЯНІНА

*Дарэшты дні ўсе злічаны,*
*Памёр — і Бог з табой.*

НА МАГІЛЕ БЕСПРАЦОЎНАГА

*Круціўся ён і сяк і так,*
*Не знаў, куды падацца.*
*Памёр не з голаду бядак —*
*Знудзіўся ён без працы.*

НА МАГІЛЕ НАВУКОЎЦА

*Тут спіць самааддаены*
*муж вучоны.*
*Адкрыццяў важных*
*ён зрабіў нямала.*
*Дзяржава спажывала плён ягоны,*
*Даваць самому ж есці забывала.*

НА МАГІЛЕ ЎРАЧА

*Да сфер паслугаў прыраўняны,*
*Ледзь не ануча бый для ног.*
*Ім шмат людзей уратавана.*
*Сябе ж уратаваць не змог.*

НА МАЁЙ МАГІЛЕ

*Тут труна таго,*
*хто выйшаў з дому*
*І згубіўся недзе паміж зор.*
*Ці ён жыў — дакладна невядома,*
*Але і невядома, ці памёр.*
*Распяты, размужчыны,*
*Нарэшце ты з зямлёй!*

НА МАГІЛЕ НОВАГА БЕЛАРУСА

*Ён ужываў звычайна словаў пяць,*
*І тыя не зусім прыстойнай масці.*
*Ды і навошта ўменне размаўляць*
*Таму, хто ўмее махляваць і красці.*

НА МАГІЛЕ "ЧАЎНАКА"

*Зямлю не раз ён абагнуў,*
*Шукаючы "навару",*
*І не памёр, а матануў*
*У пекла па тавары.*

НА МАГІЛЕ ПРАСТЫТУТКІ

*З кім — было табе не важна,*
*Дзе і як — фігня.*
*Ды палітыкам прадажным*
*Хіба ты раўня?*

*Выкрытасаў дасканалых*
*Не злічыць у іх.*
*Вось таму ты і сканала,*
*А яны ў жывых.*

АНОНС

# Прыгорнемся да веры Паэтавай...

Напярэдадні 115-ай гадавіны народзін Янкі Купалы 4-га ліпеня, у 13 гадзін, каля помніка Паэту ў парку Купалы звернемся, народзе, да нашага Прарока малітоўна і годна — Купалавым радком, што тулім у чуйных сэрцах, і словам сённяшняй паэзіі ды бардаўскай ускрыленай песні.

Збіраймася ж "на сход, на вялікі сход — па Бацькаўшчыну", па Свой шлях і Свой голас у бязмежнасці, сагрэтай продкамі, прасвечанай Творцамі.

# Каб служыць радзіме не толькі ў войску

Пікет, які днямі быў выстаўлены моладдзю каля Мінскага абласнога ваенкамата, можна назваць пікетам у падтрымку дзеючай Канстытуцыі. Юнакі патрабавалі, каб на справе выконвалася адно з яе палажэнняў: аб альтэрнатыўнай службе. Права на альтэрнатыўную службу радзіме ў нас ёсць, але няма адпаведнага закона, які рэгламентаваў бы яго. Каля 10 юнакоў і дзяўчат, якія прадстаўлялі грамадскае маладзёжнае аб'яднанне "Грамадзянскі форум" пратэставалі супраць усеагульнай воінскай павіннасці. Служыць радзіме можна не толькі ў войску — сцвярджалі яны. І цяжка з гэтым не пагадзіцца.




ІМПРЭЗЫ

# "Якія ж у нас таленавітыя хлопцы!"

Не пашанцавала тым, хто прыпазніўся і не паспеў увайсці ў залу да пачатку канцэрта. Даваліся слухаць спеў кларнета, далучыўшыся да купкі гэткіх жа "штрафнікоў" ля прыадчыненых дзвярэй. Калі ж нарэшце пачуліся апладысменты і ў публіку рушыла палаўненне, знайсці вольныя крэслы новым гледачам аказалася не надта лёгка.

Аншлаг у партэры канцэртнай залы Беларускай акадэміі музыкі — з якой нагоды?

Граў Аляксей Вакуленка — лаўрэат міжнародных конкурсаў, саліст аркестра Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета, асістэнт-стажор акадэміі (творчы кіраўнік — прафесар Уладзімір Скараходаў).

Імпрэза для музычных гурманаў міжволі выклікала ў памяці лацінскае "clarus" (ясны), ад якога паходзіць французская назва інструмента. Голас кларнета нібы струменіў праменіўся яснасцю, чысцінёй. Яснасць маўлення. Чысціня інтанацыі. Выразнасць фразіроўкі. Пранікнёная вобразнасць выказвання... Было і сапраўднае мастацтва вобразнага пераўвасаблення, — дастаткова згадаць, як пераканальна гучалі ў выкананні Аляксея Вакуленкі, напрыклад, вальсавая трэцяя частка ды імклівы жанравы фінал Санаты Брамса, эфектная, найвіртуозная Фантазія Бінэ на тэмы Беліні...

Так, голасу кларнета падуладнае ўсё: ад скарамоўкі да бельканта. І як жа ўзбагачаецца гэтае "ўсё", калі яго дапаўняе, адцяняе, падтрымлівае гучанне іншых інструментальных галасоў! Аркестра ў той вечар на сцэне не было. Але сапраўды багатае, шматгалосае, шматтэмбравае атачэнне стварыў для саліста яго творчы партнёр — дыпламант міжнародных конкурсаў піяніст Сяргей Тургель. Гэта адзін з тых рэдкасных высакакласных канцэртмайстраў, да якіх цалкам пасуе азначэнне "чалавек-аркестр".

Аляксей Вакуленка ды Сяргей Тургель адыгралі складаную праграму. Сціпла пакланіліся зале...

Недачакаўшыся, пакуль аціхнуць воплескі, знаны музыкант, заслужаны артыст Беларусі, мастацкі кіраўнік Камернага аркестра Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі Уладзімір Перлін "падараваў" мне першую і самую кароткую рэцэнзію: "І якія ж у нас таленавітыя хлопцы ёсць!"

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

РЭПЛІКА

# Мо лепей памаўчаць?..

"Узнёслае і зямное" — так называлася радыёперадача, што прагучала на дзень Усіх Святых у мінулую нядзелю. Перадача належыць да праваслаўнага цыкла, які звычайна я слухаю з цікавасцю і карысцю для сябе. Часта іх рыхтуюць святары нашых цэркваў, вучаць захоўваць душу ў чысціні, не пускаць у яе нядобрага.

І што ж я чую на гэты раз? З аднаго боку тут кляймяць "багаборцаў", якія 70 год праследавалі царкву, з другога — уздыхаюць па Савецкім Саюзе, створаным тымі самымі багаборцамі і нехрысцямі. "Народное тело рассечено нелепыми границами" — чытае мілагучны жаночы голас, а я думаю: пра які народ гаворка? Каго з кім збіраецца аб'ядноўваць праваслаўная царква? Хіба не дух аб'ядноўвае людзей незалежна ад усялякіх межаў— дзяржаўных і недзяржаўных?

Далей аўтар перастае "цямніць" і ўжо не хавае ні сваёй ментальнай прыналежнасці, ні ідэйнай заангажаванасці: "святая Русь", "русская жизнь", "русская мощь", "всенародное единство"....

Значная частка эфірнага часу была аддадзена выкрыццю Захаду, які даўно марыў "ослабить и поработить" вялікую Русь. (Як на маю думку, дык ён проста заўсёды яе баяўся, і цалкам справядліва.) Звыкла выкрылі секты, абазвалі уніятаў ерэтыкамі. Убрыкнулі не называючы іншыя канфесіі хрысціянства — "ложные учения", якія хоць і ўпамінаюць імя Хрыста, але пастаўлены на службу чалавеку.

Служыць чалавеку, рабіць яго лепшым — не самая горшая місія на зямлі. А вось служыць імперскай ідэі, служыць "почившей в Бозе" мілітарысцкай, антычалавечай дзяржаве — гэта сапраўды страшна. Тут ужо не ўзнёслым і не зямным папахвае — інфернальным...

...Неяк мне расказалі пра адзін момант з пропаведзі пастара Евангелічнай царквы Мінска. Ён жадаў міру і дабрабыту народу, "среди которого мы живем". Ці не той самы феномен назіраем мы і ў адносінах да большасці праваслаўнага кліра Беларусі? Яны праводзяць службы, яны хрысцяць і адпяваюць, але не лічаць сябе часткай нас (г.зн. беларускага народа), нават не **з намі** ў нашых радасцях і выпрабаваннях, а толькі **сярод**!

Паважаныя айцы беларускай праваслаўнай царквы! Можа, вы і не маеце непасрэдных адносін да злашчаснай перадачкі, якая прагучала раніцай 22 чэрвеня. Аднак мне даводзілася шмат такога ж і падобнага сустракаць у вашых публічных выступленнях, друкаваных і вусных. Дазвольце напомніць: мы не варвары, не язычнікі пачатку стагоддзя, не падданыя Расійскай кароны. У нас ёсць свае светачы духа, свае святыя і свае мучанікі за веру. Будуць, абавязкова будуць і свае свяшчэннаслужыцелі. А пакуль — не трэба несці да нас жывое слова Божае з такім брыдкім даважкам. Лепей памаўчаць. У цішыні, у згодзе з сабою мы хутчэй пабачым "свет истинный", лягчэй народзіцца светлае літанне і гонар Яго.

**ВЕРНІЦА**

АД РЭДАКЦЫІ

Гэты матэрыял быў падрыхтаваны да друку, калі да нас прыйшоў даволі нечаканы ліст. Чалавек, які не захацеў — не пасмеў? — назвацца, расказвае пра непарадкі ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры.

Увогуле мы і не думалі, што манастырскае жыццё павінна быць лёгкім: там і малітоўнае правіла строгае, і пасты, і фізічная праца, аднак, як вынікае з ліста, выпрабаванні тамтэйшых манашак, мабыць, не столькі нябесная, колькі зямнога паходжання. У святым месцы, дарагім для ўсіх беларусаў, творацца беззаконні, кіпяць нездаровыя страсці. Пры наяўнасці зямлі і немалой гаспадаркі, манашак кормяць у асноўным бульбай і кіслай капустай, між тым з манастырскага двара машынамі вывозяцца яйкі, тварог, сыр, масла. Сёстры хварэюць, спрабавалі скардзіцца, але без поспеху.

Дасюль не адрэстаўравана царква, дзе знайшлі супакой святыя костачкі, куды прыязджаюць і паломнікі, і турысты, і тэлебачанне, і сам Філарэт.

"Манастыр, — пішацца ў лісце, — гэта схема таталітарнай дзяржавы". Бяспраўныя і палахлівыя сёстры не вытрымліваюць такога жыцця, некаторыя хацелі б пакінуць манастырскія сцены, але баяцца праклёну, які нібыта насылаецца ў такім выпадку на адступніц.

Чаму мы пераказваем гэты SOS "у мір" і якая тут сувязь з афіцыйнай пазіцыяй царкоўных уладаў Беларусі? — спытаеце вы. А мы адкажам так. Царква ў нас аддзелена ад дзяржавы, але ж чалавек не аддзелены ад чалавека і — усе разам і паасобку — мы не аддзелены ад Бога. Чым клапаціцца пра аб'яднанне міфічнага "славянскага народа", варта было б засяродзіцца на ўнутраных праблемах: навесці парадак у манастырах, "пачысціць кадры" ў прыходах, пракантраляваць размеркаванне гуманітарнай дапамогі. (Ёсць звесткі, што падчас яна і па царкоўнай лініі паступае не бедным, а "патрэбным" людзям.)

Мянялы ў храме?.. Мы верым, што Усявышні пачуе малітвы паслушніц з Полацка, а яшчэ спадзяёмся на мудрасць і велікадушша царкоўных іерархаў. Ужо хто-хто, а яны не павінны нікому помсціць за смецце, вынесенае з хаты. Тым болей, што без смецця ўсё-такі чысцей.

ЭКСЛІБРЫС

# Пад стрэхамі прашчураў

*Аляксандр Лакотка. Мінск, "Полымя", 1995.*

**Аляксандр Лакотка — адзін з самых дасведчаных спецыялістаў па беларускай народнай архітэктуры, які пэўны час працаваў у музеі народнай архітэктуры і побыту, выпусціў кнігу, дзе дае рэтраспектыўную карціну драўлянага будаўніцтва на Беларусі, пачынаючы ад старажытных часоў да нашых дзён.**

**Аб'ём даследавання, а гэта каля 400 старонак са шматлікімі фотаздымкамі і схемамі, не дазваляе аўтару падрабязна спыняцца на нейкіх канкрэтных галінах драўлянага дойлідства. Што можна распавесці, напрыклад, пра "шляхецкае гняздо" — так называецца адзін з раздзелаў даследавання на 25 старонках? І таму аўтар літаральна тэлеграфным стылем са шматлікімі "і д.т.п. і г.д." паказвае агульную карціну ўладкавання жыцця беларуса, тым не менш выдаючы шмат цікавага абагуленага матэрыялу.**

**Кніга з'яўляецца неацэнным дапаможнікам для музейшчыкаў, якія займаюцца рэстаўрацыяй сядзібных комплексаў, а ў звычайнага чытача, які жыў ці бываў у беларускай вёсцы, фотаздымкі прычолкаў, падрубаў, пералазаў, азяродаў, брамаў і студняў выклікаюць настальгічныя і сентыментальныя ўспаміны.**

**Аўтар мае добрую ўласцівасць ушляхетняць, здавалася б, зусім бытавы і някідкі, на першы погляд, матэрыял, які ўспрымаецца як сапраўдны скарб матэрыяльнай культуры беларусаў. А ў мяне адны толькі назвы гэтых філёнгаў, трамаў, шалёвак, штандараў, светачаў і мастоў выклікаюць ціхае задавальненне.**

**Карыстаючыся выпадкам, хачу дапоўніць матэрыялы А. Лакоткі цікавым матэрыялам, пра які ні ў водным даследаванні па беларускай народнай архітэктуры чытаць не даводзілася. Ён захоўваецца ў музеі М. Багдановіча. У лісце сасланага на той час у Саратаў Вацлава Ластоўскага да Адама Багдановіча ад 16 чэрвеня 1934 года ідзе размова пра "жалезныя хаты" на Беларусі. В. Ластоўскі піша: "Я сцвярджаю, што той са старажытных пісьменнікаў, які распавядаў сваім землякам, сучаснікам сваім пра вісячыя сады на поўначы і пра жалезныя пабудовы, быў правы. Кожны з нас, убачыўшы падобныя пабудовы і падобныя сады, будучы на ягоным месцы, унёс бы ў сваё апісанне падобную цікавостку. Пра старажытнасць жалезных пабудоў дакументальна вядома, што ў 15 ст., як і цяпер, адно з прадмесцяў Вільні насіла назву "жалезная хатка". Я не думаю, што віленская жалезная хатка была першай прарадзіцельніцай падобных хатак на ўсёй прасторы краю. Наадварот, мне здаецца, што гэты будаўнічы матэрыял мог быць вядомы чалавеку раней ужывання жалеза для вырабу з яго прыладаў. Гэтая старажытнасць адносная, як і ўсё пад месяцам..."**

**Да гэтага ліста В. Ластоўскім быў прыкладзены фотаздымак такой "жалезнай хаты", на адвароце якога напісана: "Від хаты з балотнай руды. Сяло Тарасаўка Веткаўскага раёна. 8 чэрвеня 1929 г. Фота М. Жэлахоўцава. У гэтай мясцовасці такія пабудовы не рэдкасць. Ёсць вёскі, дзе напалову жалезныя пабудовы".**

**І яшчэ дапіска: "Просьба вярнуць". Па нейкай прычыне Адам Багдановіч гэты здымак гаспадару не вярнуў, дзякуючы чаму ён і захаваўся. Так што поле дзейнасці для даследчыкаў беларускай народнай архітэктуры яшчэ цікавае і вялікае.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## "Вязынцы" — 25

З творчай паездкі па Галандыі вярнуўся народны ансамбль танца "Вязынка" Мінскага палаца культуры ветэранаў. Не ўпершыню наведалі самадзейныя артысты гэтую краіну, дзе іх ужо чакалі прыхільнікі народнага мастацтва. Зноў прайшліся па старадаўніх вулках Амстэрдама хлопцы і дзяўчаты, зноў падзівіліся на незлічоныя каналы, магутныя сярэднявечныя вежы, безліч цюльпанаў на прыгожых і ўтульных плошчах.

Выступленняў было шмат, выпадала на дзень і па тры канцэрты. Выступалі на днi нараджэння каралевы, муніцыпальных святах, у тэатрах і канцэртных залах Зэйста, Эйндховена, Цілбурга, Утрэхта...

Добры настрой, смех, жарты дапамагалі вытрымаць нялёгкія гастролі. Калектыў дружны, усе разумеюць адно аднаго. І не дзіва — нядаўна "Вязынка" адзначыла сваё 25-годдзе.

А тон тут, вядома ж, задае мастацкі кіраўнік Леанід Тушынскі, які калісьці і стварыў калектыў. У гэтым чалавеку цудоўна спалучаюцца высокая патрабавальнасць і юнацкая весялосць, рэдкая адданасць сваёй працы і рэдкае ўменне адпачыць. Усё гэта ўплывае на мікраклімат у калектыве, які невыпадкова вызначаецца пераемнасцю пакаленняў. Пасля бацькоў сюды прыходзяць іх дзеці, а на падыходзе ўжо і ўнукі. Усё — як у добрай сям'і, дзе ёсць любоў і ўзаемадапамога. Вось і на юбілеі ансамбля самымі пачэснымі гасцямі, якіх першымі запрасілі на сцэну, былі яго пачынальнікі, сталыя ўжо мужчыны і жанчыны, якія з вялікім хваляваннем успаміналі той далёкі 72-гі.

Шмат падзей адбылося за гэтыя 25 гадоў. Нямала было перамог, і на рэспубліканскіх, і на міжнародных конкурсах, атрымана ганаровае званне "народны", мноства дыпломаў і ўзнагарод. Былі і нягоды, калі, напрыклад, "вязынкаўцам" адмовілі ў падтрымцы і ў прытулку — у клубе Мінскага маторнага завода, дзе яны пачыналі. Але прага творчасці, моцнае сяброўства, неўтаймаванасць кіраўніка заўсёды дапамагалі калектыву адраджацца.

Не злічыць і канцэртаў, якія "Вязынка" дала за гэтыя гады. Сярод іх выступленні ў розных краінах свету: Францыі, Румыніі, Італіі, Іспаніі. Нездарма на юбілеі было столькі іншаземных сяброў ансамбля — спецыяльна прыехалі яго павіншаваць.

Творчыя поспехі "Вязынкі" адзначылі намеснік міністра культуры РБ В. Гедройц, загадчыца аддзела культуры Мінскага райвыканкома Р. Рэут, намеснік дырэктара Мінскага цэнтра народнай творчасці Л. Карыпанава, прадстаўнікі федэрацыі прафсаюзаў, вядучых устаноў культуры, вучэбных творчых устаноў. Павіншаваць калег па мастацтве прыйшлі многія харэаграфічныя ансамблі Мінска, прыбылі госці з Барысава і з Ліды (убачыўшы іхні падарунак, зала выбухнула апладысментамі: гэта быў велізарны бачурок лідскага піва!). Сцэна Палаца ветэранаў патанала ў кветках, і разам з сённяшнімі ўдзельнікамі ансамбля адчувалі сябе імяніннікамі і яго былыя танцоры ды музыканты.

Цяпер у "Вязынкі" кароткі перадых, але неўзабаве пачнуцца рэпетыцыі. Бо сёлета нашых самадзейных артыстаў яшчэ чакаюць у Грэцыі і ў Францыі. І зноў загучаць у далёкіх краінах цудоўныя беларускія мелодыі ў выкананні аркестравай групы пад кіраўніцтвам Аляксандра Макарава, зноў зайграюць фарбамі жыццярадасныя беларускія танцы.

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ**

## Запрашае "Змена"

1 ліпеня ў кінатэатры "Змена" адбудзецца вечарына, прысвечаная 115-й гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы. У праграме вечарыны — мастацкі фільм кінастудыі "Беларусьфільм" "Раскіданае гняздо", выступленне фальклорнага ансамбля "Арэлі", слова пра Купалу пісьменніка Уладзіміра Содаля, а таксама — выстава "Сцэнічнае жыццё п'есы Янкі Купалы "Раскіданае гняздо". Пачатак а 18-й гадзіне.

2 ліпеня ў гасцях у кінатэатра "Змена" будзе тэатр "Зніч", які пакажа паэтычны монаспектакль "Не праклінай, што люблю..." па вершах народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Выканаўца — Мікола Лявончык, рэжысёр пастаноўкі — Галіна Дзягілева, музычнае суправаджэнне (цымбалы) — Людміла Чысціліна. У сустрэчы прыме ўдзел Ніл Гілевіч. Пачатак а 15-й гадзіне.

Запрашаем усіх аматараў беларускага слова, кіно і тэатра на сустрэчы ў кінатэатры.

ВІНШУЕМ!

# Прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў

**БЯЛЯЦКІ Аляксандр Віктаравіч.** Крытык, літаратуразнаўца, празаік. Нарадзіўся ў 1962 годзе ў п. Вяртсіля Сартавальскага раёна (Расійская Федэрацыя). Скончыў Гомельскі дзяржаўны універсітэт, аспірантуру Інстытута літаратуры АН РБ. Дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча. Аўтар кніг "Літаратура і нацыя" (1991), "Антон Луцкевіч — літаратурны крытык" (1990).

**БЯЛЯЧЫЦ Рычард Станіслававіч.** Паэт. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў в. Стаўбуры Астравецкага раёна. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут. Дырэктар Дудкоўскай школы ў Шчучынскім раёне. Аўтар калектыўнага зборніка паэзіі "Лагодны промень раніцы" (1988), паэтычнай кнігі "Прасветлінка" (1995).

**ЗАЛОСКА Юрый Іванавіч.** Крытык-публіцыст. Нарадзіўся ў 1968 годзе ў в. Навасады Свіслацкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт, вучыцца ў Люблінскім каталіцкім універсітэце (Польшча). У 1995 годзе выдаў дзве кнігі: "Версіі" і "Дыялогі з Васілём Быкавым".

**КОГУТ Васіль Рыгоравіч.** Празаік. Нарадзіўся ў в. Драганаўка на Украіне. У 1958 годзе скончыў Гарткоўскі сельскагаспадарчы тэхнікум, у 1969 годзе — Львоўскі дзяржуніверсітэт імя І. Франка. Начальнік Салігорскага аддзялення "Белсаюздруку". Выдаў кнігі прозы для дзяцей і юнацтва "Цвіце верас" (1988), "Невидимая нить" (1990), "Копия Афродиты" (1994).

**КРЭЙДЗІЧ Анатоль Мікалаевіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў в.Заверша Драгічынскага раёна. Скончыў Ржэўскі саўгастэхнікум (1984) і Белдзяржуніверсітэт (1992). Працуе журналістам у Іванаўскім раёне. Выдаў кнігу прозы "Права на ўсмешку".

**МАРОЗ Уладзімір Вікенцевіч.** Паэт, кінадраматург. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў г. Косава Івацэвіцкага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут у 1975 г., завочнае аддзяленне Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага ў Маскве (1983). Вядучы рэдактар студыі "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм". Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка паэзіі "Крыло" (1984), паэтычных кніг "Голас" (1993), "Рэй" (1993). Аўтар літаратурных сцэнарыяў навукова-папулярных фільмаў "Кірыла Тураўскі" (1990), "Роздум ля палітры" (1990), "Іван Насовіч" (1991) і інш.

**САНЬКО Валерый Аляксеевіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1939 годзе ў в. Вялікая Сліва Слуцкага раёна. Скончыў Баранавіцкае медвучылішча (1958), Белдзяржуніверсітэт (1967), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1978). Дырэктар "Беларускага выдавецкага таварыства "Хата". Мастацкая проза выдадзена асобнымі кнігамі "Усё скончана: мы прайшлі па Маскве" (1993), "Не плач, маці" (1995).

**ЦЫБУЛЬСКІ Канстанцін Пятровіч.** Паэт. Нарадзіўся ў 1956 годзе ў в. Забалоцце Маладзечанскага раёна. Скончыў Белдзяржуніверсітэт (1982). Інспектар па справах непаўналетніх Слуцкага аддзела ўнутраных спраў. Адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў паэзіі "На крылах душы", "Вёсны", "Пошук". У 1995 годзе выдаў зборнік паэзіі "Ноч маладзіка".

**ПЕТРУЧУК Васіль Уладзіміравіч.** Празаік. Нарадзіўся ў 1926 годзе ў в. Грабавец на Беласточчыне (цяпер Польшча). Скончыў эканамічны тэхнікум (1961). Член беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа", Саюза польскіх літаратараў. Аўтар аповесці "Пожня" (Беласток, 1987).

АДГАЛОСКІ

# Ці галасаваў народ за "беларускі аншлюс"?

Сваёй публікацыі ў "ЛіМе" "Над бездданню, або Прытча пра незалежнасць" Алесь Гібок-Гібкоўскі даў падзагаловак: "Слова да сябра, які страціў надзею". Вобразна напісанае пасланне з трапнымі экскурсамі ў гісторыю карысна прачытаць і тым, каго яшчэ не пакінула надзея на лепшае будучае Беларусі. Адным, накшталт таго сябра, яно дапаможа хоць крыху развеяць іх "змрочны і амаль безвыходны настрой", а другім (мяркую па сабе) дабавіць сілы, каб лепш "зразумець свой уласны кошт, сваю годнасць". Дужа актуальную тэму аўтар прадоўжыў і ў артыкуле "Пасьянс без нас", таксама цікавым і змястоўным. Неўразуменне выклікае адно толькі, што ў абодвух матэрыялах ёсць, на жаль, радкі, якія фактычна паўтараюць міф аб нібы неадназначным галасаванні большасці беларускага народа супраць суверэнітэту сваёй дзяржавы. Факты, аднак, сведчаць аб іншым.

На Беларусі, вымушаны нагадаць, рэферэндумы праводзіліся тройчы: 17 сакавіка 1991 г., 14 мая 1995 г. і 9—24 лістапада 1996 г. І на кожным з іх было пытанне, станоўчы адказ на якое 70—80 працэнтаў выбаршчыкаў пэўныя колы падаюць зараз як жаданне беларусаў жыць пад адным дахам з Расіяй, а дакладней увайсці ў яе склад.

У сапраўднасці, пытанне аб інтэграцыі з усходнім суседам (але не палітычнай, а эканамічнай) ставілася толькі 14 мая 1995 г. На апошнім жа рэферэндуме людзі выказаліся не за аб'яднанне з якой-небудзь краінай або далучэння да яе, а, наадварот, за суверэнную Рэспубліку Беларусь, якая "самастойна ажыццяўляе ўнутраную і знешнюю палітыку", "абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць", "у сваёй знешняй палітыцы зыходзіць з прынцыпаў роўнасці дзяржаў... не парушнасці межаў... неўмяшання ва ўнутраныя справы" і г. д. Гэтыя фразы з Канстытуцыі 1994 г. даслоўна ўвайшлі ў праекты абедзвюх Канстытуцый, што выносіліся на плебісцыт. Такім чынам, незалежна ад таго, за які праект аддалі свае галасы выбаршчыкі, усе яны хочуць будаваць уласны дом, сваю дзяржаву. Безумоўна, супраць "беларускага аншлюса" і ўсе прыхільнікі Асноўнага Закона 1994 г. (без змяненняў і дапаўненняў). У суме — гэта пераважная большасць дарослага насельніцтва краіны.

Цяпер пра самы першы рэферэндум. Так, там было пытанне пра захаванне СССР. Але з таго часу прайшло больш за шэсць гадоў, шмат што змянілася і ў свеце і на Беларусі (нягледзячы на спробы вярнуць старыя парадкі), не існуе і самой савецкай дзяржавы. Дык як можна захаваць тое, чаго няма? Галоўнае, аднак, мне здаецца, вось што: у тым доўгім пытанні гаварылася пра "абноўленую федэрацыю раўнапраўных суверэнных (падкрэслена мной. — **Г. Л.**) рэспублік", а гэта нічога агульнага не мае з сённяшнімі планамі інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі.

Акрамя таго, памятаючы шматлікія парушэнні заканадаўства пры правядзенні леташняга рэферэндуму, нельга не згадаць і аб некаторых юрыдычных акалічнасцях арганізацыі ўсенароднага галасавання ў 1991 г. А яны такія, што тадышняя апазіцыя небеспадстаўна трактавала яго вынікі як незаконныя і лічыла, што іх можна апратэставаць праз гады (пытанне аб рэферэндуме нават не было ўключана ў парадак дня сесіі парламента, а адпаведная пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР прымалася з грубымі парушэннямі парламенцкага рэгламенту).

Кажуць яшчэ, што падчас прэзідэнцкіх выбараў электарат падтрымаў ідэю аб'яднання з усходнім суседам. Але давайце перачытаем тэзісы праграмы кандыдата ў прэзідэнты А. Лукашэнкі, надрукаваныя ў дзяржаўнай прэсе. Адна з трох галоўных мэт сфармулявана так: "Аднаўленне на раўнапраўнай і ўзаемавыгаднай аснове знішчаных сувязей з дзяржавамі, якія раней уваходзілі ў састаў СССР, перш за ўсё з Расіяй і Украінай". Пра адзіную дзяржаву тут, на мой розум, ні слоўца не сказана.

Інтэгратары любяць выстаўляць яшчэ адзін, на іх думку, козыр: маўляў, Белавежскія пагадненні з'яўляюцца незаконнымі. Між тым, і ў дагаворы аб утварэнні Саюза ССР 1922 г. і ва ўсіх Канстытуцыях СССР і саюзных рэспублік, у тым ліку БССР, падкрэслівалася, што за апошнімі "захоўваецца права свабоднага выхаду з СССР". У часы камуністычнай дыктатуры пра гэта, зразумела, нельга было і заікнуцца. Напрыканцы ж 1991 г. развал велізарнай ядзернай імперыі фактычна ўжо адбыўся і аб'ектыўны працэс выхаду з яе складу рэспублік стаў рэальнасцю.

Як можна не згаджацца з заканамернасцю дзеянняў у тых умовах кіраўнікоў дзяржаў-заснавальніц Савецкага Саюза? Тым больш, што адпаведныя пагадненні, у якіх канстатавалася спыненне яго існавання і аб'яўлялася аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў, былі падтрыманы тагачаснымі вышэйшымі органамі дзяржаўнай улады Беларусі і большасці астатніх рэспублік-"сясцёр". Тым самым пагроза ўзнікнення магчымых буйнамаштабных канфліктаў была прадухілена.

Цяпер, калі, крый Божа, Расіі ўдасца паглынуць нашу Бацькаўшчыну, дык цяжкім шляхам давядзецца нам зноў на волю выбівацца. Бо Канстытуцыя Расійскай Федэрацыі ўстанаўлівае толькі прыняцце і ўтварэнне ў яе складзе новага суб'екта. А выхад адтуль зачынены, ліквідацыя аншлюсаў, інкарпарацый не прадугледжана. Нядаўна гэта пацвердзілася крывавай чачэнскай "практыкай".

...Хто ж палезе добраахвотна ў нерат, пра які кажуць: "Ні ўзад, ні ўперад"?

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

ПОШТА

# Тыгры і мільянеры

Яшчэ не так даўно ўсе абураліся бясконцымі дэбатамі і рознагалоссем у парламенце, дзейнасцю апазіцыі і фракцый у ім, альтэрнатыўнасцю грамадскіх арганізацый, іншадумствам, іншымі "вольнасцямі" так званай дэмакратыі.

І вось, калі ласка, тое, па чым мучылі ўспаміны, вярнулася ў поўным аб'ёме. Ва ўсім запанавалі аднадушнае і аднагалоснае адабрэнне, апладысменты, якія пераходзяць у авацыі. Пад гром авацый не так чуваць, як усё большую хуткасць набірае станок, які друкуе нічым не забяспечаныя грошы. Гара гэтых паперак мае неймаверную вагу, каб даваць ёй і далей расці, дык яна прыдушыць эканоміку дзяржавы непазбежна і канчаткова. Ці на гэта нам, грамадзянам, не звяртаць увагі, абы тых паперак у нас болей было?

І на тое, што не спыняецца крызіс, інфляцыю не ўтрымаць ніякімі "калідорамі", растуць цэны і беспрацоўе, не ўздымаецца вытворчасць, — таксама не трэба звяртаць увагі? На гэта ёсць "дзяржаўныя мужы", ёсць сродкі масавай інфармацыі?

Вопыт і традыцыі недалёкага мінулага сведчаць: калі бесперапынна трубіць пра поспехі, дасягненні, перамогі, а пра адмоўныя і негатыўныя з'явы паведамляць мімаходзь, як пра асобныя недахопы і хібы, то аптымізм і стабільнасць у грамадстве будуць забяспечаны. А большае тады і не патрабуецца.

Знаёмае становішча: былі папяровымі тыграмі, а цяпер становімся папяровымі мільянерамі.

**Я. ІВАНОВІЧ**

*г. Мінск*

# Як дзень пасля начы, як вясна пасля зімы

## ГІСТАРЫЧНЫ ШЛЯХ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

Язэп ЮХО

БЕЛАРУСКІ народ і яго дзяржаўнае жыццё маюць багатую падзеямі гісторыю, якая насычана гераічнымі і трагічнымі ўчынкамі і памылкамі. Шмат падзей нашае гісторыі і іх прычыны не паддаюцца нашаму разуменню, але іх магістральная лінія руху прасочваецца выразна. Зразумела, што прасцей за ўсё вытлумачыць прычыны гістарычных падзей дзеяннямі князёў, цароў, герояў, грамадскіх класаў, саслоўяў, якія нібыта "рабілі" гісторыю, што і намагаюцца даказаць многія гісторыкі да сённяшняга часу. Асвятляючы дзейнасць гістарычных асоб, якія, на іх думку, былі прычынаю падзей, яны не бяруць пад увагу галоўнага накірунку руху гісторыі, што не залежыць ад тых або іншых "герояў". Яшчэ Імануіл Кант выказаў думку, што гістарычнай мэтаю чалавецтва з'яўляецца развіццё і здзяйсненне свабоды і справядлівасці ў адносінах паміж людзьмі і дзяржавамі, незалежна ад волі людзей.

Калі ўважліва прыглядзецца да ходу гісторыі, то можна заўважыць, што гістарычны шлях народаў ідзе ў адным накірунку хвалепадобна, нягледзячы на тое, што розныя народы праходзяць гэты шлях з рознай хуткасцю, а ў некаторых выпадках нават з затрымкаю, але ніколі не наглядалася руху ў адваротным накірунку.

Для XIX і XX стст. характэрным з'яўляецца рух па шляху гуманізацыі і ўтварэння незалежных нацыянальных дзяржаў. Развальваюцца амаль усе імперыі: Аўстра-Венгерская, Іспанская, Германская, Брытанская, Расійская, Французская і іншыя, і ўтвараюцца новыя, ці адраджаюцца старыя нацыянальныя дзяржавы ў Азіі, Амерыцы, Афрыцы, Еўропе. Тыя ж дзеячы, якія разумелі ход гістарычных падзей, або нават выпадкова станавіліся на чале сваіх народаў, абвяшчаліся нацыянальнымі героямі.

Гістарычны шлях беларускага народа пачынаецца з часоў сівой даўніны, хаця народ выступаў у розныя часы пад рознымі імёнамі. Спачатку нас называлі будзінамі (гудзінамі, вудзінамі) і неўрамі (неурамі, нарцамі), славянамі, крэвічамі, драгавітамі, бужанамі, радзімічамі, літвінамі і толькі ў XVIII ст., па загадзе цара Паўла I, з'яўляецца назва "Беларуская" губерня з цэнтрам у Віцебску.

Старажытны грэчаскі гісторык Герадот, які жыў у V ст. да нашай эры, пісаў, што на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў VI ст. да н. э. жылі будзіны і неўры, у якіх былі свае "цары" і якія мелі такі самы грамадскі і дзяржаўны лад, што быў на той час у скіфаў. Аб дзяржавах, што існавалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў пачатку нашай эры, было запісана ў Іаакімаўскім летапісе, што выклаў у сваёй "Истории Российской" В. Тацішчаў.

Адно з найбольш складаных пытанняў аб дзяржаўнасці народаў — гэта пытанне аб вызначэнні, што такое дзяржава. У савецкай навуцы дзяржаву разглядалі, як "палітычную арганізацыю эканамічна пануючага класа для падаўлення супраціўлення яго класавых праціўнікаў". Далей прыводзілася цытата з твораў Леніна: "Дзяржава — гэта ёсць машына для падтрымання панавання аднаго класа над другім". Такое вызначэнне дзяржавы можа быць прыдатным толькі для дыктатарскага рэжыму, а для "дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавы" трэба ўжываць іншае вызначэнне. На думку старажытнага мудраца Арыстоцеля, людзі ўтварылі дзяржаву "дзеля патрэб жыцця, але якая існуе дзеля дасягнення добрага жыцця. Адсюль вынікае, што кожная дзяржава — прадукт натуральнага ўзнікнення".

Зыходзячы з сучаснага стану дзяржавы і ўлічваючы яе гістарычнае развіццё і сучасны стан навукі аб дзяржаве, можна сцвярджаць, што дзяржава — гэта тэрытарыяльны, суверэнны саюз грамадзян, утвораны з мэтай абароны іх жыцця, свабоды і маёмасці. Яе дзейнасць рэгламентуецца прававымі нормамі і правіламі маральных паводзін, выкананне якіх забяспечваецца сістэмай кіравання і выхавання.

Пры такім вызначэнні дзяржавы для яе ўзнікнення неабходны наступныя ўмовы: каб былі на акрэсленай тэрыторыі людзі, лепш сказаць — сем'і, якія былі б у саюзе паміж сабой і меліся паміж імі сходы, соймы, веча або іншыя ўладныя ўстановы: князі, старцы, пасаднікі, якія рэгулявалі б іх узгодненую дзейнасць.

Вядома, што людзі на сучаснай тэрыторыі Беларусі жывуць з далёкіх дагістарычных часоў, мелі сваю тэрыторыю і свае органы кіравання, свой светапогляд і сваё выхаванне. Вядома таксама, што на нашай тэрыторыі каля Краснага Сяла Гродзенскай вобл. у другім і першым тысячагоддзях да н. э. меліся шахты і майстэрні па вырабе крамянёвых прылад працы, што выраблялiся на абмен, а гэта сведчыць аб складаным характары грамадскіх адносін. У VII—V стст. да нашай эры па ўсёй тэрыторыі Беларусі выплаўлялася жалеза і існавала вытворчасць жалезных прылад працы кваліфікаванымі майстрамі, што сведчыць аб значным пераваропе ў вытворчых адносінах і ў грамадстве.

На пачатку нашай эры на гістарычную арэну выходзяць народы, якія жылі ў басейнах рэк Дняпра, Прыпяці, Заходняга Буга, Заходняй Дзвіны і Нёмана, атрымаўшыя ў заходніх аўтараў назвы славян, венедаў, антаў, сербаў. Значная частка якіх сілаю захапіла тэрыторыі на Балканскім паўвостраве і сярэдне-заходняй Еўропы. Яны сілаю выбілі і пацяснілі візантыйцаў і рымлян на Балканах. Грэчаскі гісторык Іаан Эфескі ў 584 г., характарызуючы славян, якія захапілі значную частку Балкан, пісаў: "І да цяперашняга дня славяне жывуць, сядзяць і знаходзяцца ў спакоі ў Рымскіх абласцях без турбот і страху, рабуючы іх і спусташаючы агнём і мячом. Яны разбагацелі, прыдбалі золата, серабро, табуны коней і мноства зброі, якою навучыліся валодаць лепш, чым рымляне".

Візантыйскі імператар Канстанцін VII Багранародны ў сваім апісанні народаў, што жылі ў IX ст. на нашай тэрыторыі, назваў драгавітаў, бужан і крэвічаў. Славацкі гісторык П. Шафарык у кнізе "Славянские древности", выдадзенай у 1848 годзе, сцвярджаў, што "ў дагістарычны час гэтая славянская галіна знаходзілася... у межах губерняў Мінскай, Магілёўскай і Валынскай". Пра палабскіх славян ён пісаў, што яны выйшлі з "таго краю зямлі, што прасціраецца да Одры праз Віслу да самай Заходняй Дзвіны і Бярэзіны... Велеты выступілі з Віленскага краю, частка каторых вядомай была, калісьці, пад імем Ваўкаміра, гэта значыць, зямлі Ваўкоў, Ваўкастана. У гэтым краі або, па крайняй меры, у блізкіх да яго рубяжах, знаходзіліся пасяленні старажытных неўраў або нуран... Веравызнанне і грамадскае кіраванне былі ў іх значна лепш і больш дасканала ўладкаваны, чым у іншых... Дрэгавічы, а больш правільна Драговічы, былі траякія: 1) паўночныя... паміж Прыпяццю і Заходняй Дзвіной, у губ. Мінскай і Віцебскай; 2) паўднёвыя, у двух месцах: а) у Македоніі, у наваколлі горада Селуна... потым злучыліся з Балгарскай дзяржавай, а потым з Сербскай дзяржавай, б) у Фракіі, на рэчцы Драговіцы. 3) Заходнія, паселішчы Палабскіх славян...

Крывічы, Крэвічы першы раз упамінаюцца ў Пталамея пад імем Карвонаў, у суседстве латышоў, потым у Нестара... і Канстанціна Багранароднага... у губ. Пскоўскай, Віцебскай, Смаленскай і часткова Мінскай і Цвярской". ("Славянские древности". Т. 2, кн. 3).

Усё гэта сведчыць аб тым, што перыяд нашай гісторыі ад пачатку нашай эры характарызаваўся значным уздымам у развіцці дзяржаўнасці нашых народаў і актыўным выхадам іх на гістарычную арэну.

Пісьмовыя крыніцы аб дзяржавах на нашай тэрыторыі сведчаць аб невялікіх дзяржавах-княствах, што склаліся вакол гарадоў-замкаў. Ананімны Баварскі географ, які жыў у сярэдзіне IX ст., пісаў, што ў жыхароў Свірскай зямлі было 325 гарадоў, у Бужан — 231 горад, у Турычан — 104 гарады, у Пружан — 70 гарадоў. Наяўнасць гарадоў сведчыць аб акрэсленай палітычнай арганізацыі грамадства, г. зн. аб устойлівым існаванні дзяржаў. З летапісаў вядома, што ў IX-XI стст. на нашай тэрыторыі існавалі ўжо даволі буйныя дзяржавы-княствы, такія, як Полацкае, Менскае, Турава-Пінскае, Гарадзенскае, Навагародскае, Мсціслаўскае.

На працягу XIII—XIV стст. гэтыя княствы аб'ядноўваюцца ў адзіную феадальную дзяржаву — Вялікае княства Літоўскае, якое ў XV—XVI стст. дасягае вяршыні свайго дзяржаўна-палітычнага, эканамічнага і культурнага развіцця. Гэта перыяд пачатку кнігадрукавання, развіцця грамадска-палітычнай, філасофскай і прававой думкі. Асабліва выдзяляюцца выдатныя вучоныя і палітычныя дзеячы агульнаеўрапейскага маштабу Ф. Скарына, С. Будны, А. Валан, вялікія князі літоўскія Альгерд, Ягайла, Вітаўт, Андрэй Казімір; ваенныя і палітычныя дзеячы К. Астрожскі, Р. Хадкевіч, М. Радзівіл Чорны, Леў Сапега. У гэты ж час выдаюцца першыя ў Еўропе зводы законаў, заснаваныя на мясцовым праве — Статуты Вялікага княства Літоўскага 1529, 1566 і 1588 гг. Утвараюцца выбарныя, незалежныя ад дзяржаўнай адміністрацыі суды земскія, падкаморскія і Галоўны суд або Галоўны трыбунал. Намячаецца падзел улад на заканадаўчую, выканаўчую і судовую.

У XVII—XVIII стст. з-за ўнутранага бязладдзя, цяжкіх войн з Расіяй, Швецыяй і Турцыяй, а таксама моравых эпідэмій чумы, воспы і іншых хвароб Вялікае княства Літоўскае і саюзная з ім Польшча прыходзяць у заняпад і знікаюць з гістарычнай арэны як самастойныя дзяржавы, захопленыя Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй.

З сярэдзіны XIX і ў XX ст. умацоўваецца рух за адраджэнне нацыянальных дзяржаў многіх народаў Еўропы, Азіі, Афрыкі, Амерыкі.

У Беларусі ў сярэдзіне XIX ст. таксама пачынаецца рух за адраджэнне сваёй дзяржавы. Найбольш віднымі носьбітамі гэтай ідэі былі К. Каліноўскі, В. Урублеўскі. Пачынальнікамі адраджэння беларускай культуры былі Я. Баршчэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч, В. Сыракомля, А. Кіркор, Ф. Багушэвіч. У перыяд 1905—1907 гг. і ў наступны перыяд у нацыянальна-вызвольны рух уключаюцца дзеячы беларускай культуры і палітыкі, якія разумелі няўмольны ход гісторыі, — Я. Колас, Я. Купала, браты Луцкевічы, В. Іваноўскі, В. Ластоўскі, У. Ігнатоўскі, Б. Тарашкевіч, Я. Лёсік, М. Доўнар-Запольскі, З. Жылуновіч, А. Чарвякоў і многія сотні іншых актыўных змагароў за адраджэнне беларускай дзяржаўнасці.

У снежні 1917 г. адбыўся Першы Усебеларускі з'езд прадстаўнікоў сялян, салдат, рабочых і ўсіх беларускіх дэмакратычных арганізацый, які пастанавіў "вылучыць са свайго саставу орган краёвай улады ў асобе Усебеларускага Савета Сялянскіх, Салдацкіх і Рабочых дэпутатаў, якому ўручыць кіраванне Беларуссю аж да склікання Беларускага ўстаноўчага сходу". З'езд выказаўся за ўтварэнне Беларускай аўтаномнай рэспублікі ў складзе Расійскай Федэрацыі. Такое рашэнне з'езда было непажаданым бальшавікам Заходняга фронту, якія на той час захапілі ўладу ў Мінску,

(Працяг на стар. 12)




*Фота Анатоля Клешчука*

## На зямлі Цютчава

Два дні, 14 і 15 чэрвеня, Бранск выглядаў надзвычай святочна: тут праходзіла Усесаюзнае Цютчаўскае свята паэзіі, якое, несумненна, стала падзеяй не толькі ў жыцці гэтага партызанскага краю, але і ўсёй Расіі. Ды, прынамсі, і Беларусі. Бо светлы талент Фёдара Іванавіча Цютчава саграваe, натхняе, цешыць душу кожнага, хто дакранаецца да дрыготкіх струн яго творчасці.

На свята прыехалі вядомыя пісьменнікі Пётр Праскураў, Валеры Ганічаў, Алег Шасцінскі, Фелікс Чуеў, народны мастак, акадэмік Сяргей Ткачоў, славутыя артысты Людміла Зайцава, Таццяна Фамічова, Генадзь Каменны (ён, дарэчы, запісаў для выканання новую песню Э. Ханка, аб чым прасіў перадаць кампазітару) і іншыя. Гучалі вершы і самога Цютчава, і прысвечаныя яму, а таксама шыроkавядомыя рамансы.

Васіль ТКАЧОЎ

## "Роднае слова", N 5

50-годдзе Р. Баравіковай часопіс адзначае вершамі юбіляркі і артыкулам Г. Кісліцынай "Пад небам кахання". Пра творчасць А. Сербантовіча разважае М. Мішчанчук — "Недапетая песня". Філасафічнасць навел М. Зарэцкага даследуе А. Гібок-Гібкоўскі — "У пошуках гармоніі". П. Вашко ("Неадэкватнасць успрымання смеху ў часе") знаёміць з малавядомым пісьменнікам В. Арлоўскім.

У нумары — працяг артыкула М. Верціхоўскай і В. Цялковай "Зрячий посох", або Спроба прачытаць Ядвігіна Ш.", заканчэнне артыкула М. Саўчук "Гісторыя беларускага тэатра". В. Скарабагатаў далучае да свету рамансаў К. Галкоўскага ("Дазволь цябе любіць...").

А. Ліс ("Песня — мэта і запавет") прасочвае шлях, пройдзены А. Грыневічам, з дня нараджэння якога споўнілася 120 гадоў. Яшчэ адзін юбілей — 90-годдзе з дня нараджэння І. Жыновіча. Пра слыннага цымбаліста-віртуоза, дырыжора і кампазітара прамаўляе слова Н. Янкоўская ("Заспявалі беларускія струны..."). А С. Харэвіч, працягваючы рубрыку "Зямля наша спеўная", запрашае бліжэй пазнаёміцца з вядомым паэтам-песеннікам М. Ясенем: змешчана яго аўтабіяграфія "Пра сябе", вершы і, вядома ж, песні на вершы М. Ясеня.

## Адзін з самых маладых

на сённяшні дзень паэтаў, каму пашчасціла выдаць першую кнігу, — Алесь Дуброўскі: яму крыху больш за дваццаць гадоў. Нарадзіўся 18 лістапада 1976 года ў Навагрудку, а з 1981-га жыве ў Мінску. З залатым медалём скончыў сярэднюю школу, цяпер студэнт беларускага аддзялення філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Кніга А. Дуброўскага называецца "Паміж небам і багнаю" і пабачыла свет у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". Змест яе склалі вершы, а таксама паэма "Вызваленне". Дарэчы, А. Дуброўскі выступае не толькі ў галіне паэзіі, а і піша прозу, не цураецца крытыкі, публіцыстыкі, друкаваўся ў часопісах "Маладосць", "Бярозка", "Першацвет" і іншых перыядычных выданнях.

## То пуста, то густа...

*"За шырокімі палямі,*
*За дрымучымі лясамі,*
*Між узгоркаў і далін*
*Жыў з сынамі селянін"....*

Так нязмушана і спеўна пачынаецца "Канёк-гарбунок" Паўла Яршова ў перакладзе Зінаіды Дудзюк. Не дачакаўшыся выхаду кнігі ў "Юнацтве", пісьменніца знайшла выдаўца ў родным Брэсце. Фундатарам выдання стала мясцовае прамыслова-будаўнічае аб'яднанне (дырэктар М. Гаўрык); аформіў казку мастак Аляксандр Вярышка.

Гэты адзіны твор П. Яршова, на першы погляд, не складаны для перакладу: у ім шмат дзеяслоўных рыфмаў. Існуе яшчэ адзін беларускі варыянт — Паўла Місько, урыўкі з якога друкаваліся ў "Вясёлцы". Даследчыкам літаратуры будзе работа: параўноўваць пераклады і вызначаць, каторы лепшы...

Г. З.

КНІГАРНЯ

# Космас душы, сагрэтай Богам

Ігар Пракаповіч. Гэтае імя ўжо знаёма тым, хто цікавіцца беларускай паэзіяй. У 1993 годзе пабачыла свет першая ягоная кніга "Рэха малітваў" выдадзеная ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". Чакае свайго часу і рукапіс у "Мастацкай літаратуры", ды — ці дачакаецца? А пакуль прыйшлося сабраць энную суму грошай і выдаць невялічкую кніжачку (36 старонак) "Намагнічаны космас" у творчай фірме "Тэмікс" тыражом 500 экземпляраў. Калі ў першым зборніку "Рэха малітваў" было змешчана каля паўсотні вершаў, дык у гэтым — усяго 29.

Аднак жа — ёсць чарговая кніжачка, новая вяха на нялёгкім паэтычным шляху. І ёсць у ёй Душа, неспакойная, часам ахопленая адчаем і ў той жа час не скораная, змагарная, напоўненая верай у будучыню:

***Няма ні вечных кратаў, ні шляхоў.***
***Адбудзецца, чаму ўжо час адбыцца.***
***...З глыбінь касмічных***
***і з вышынь вякоў***
***Ляціць святло,***
***каб думкамі праліцца...***

Менавіта вечнасць, бясконцасць таямнічага Космасу пранізваюць душу паэта, якая баліць за Айчыну. І ў гэтым сэнсе назва зборнічка здаецца ўдалай. Яшчэ ў першай кнізе было смела заяўлена:

***Буду храм будаваць.***
***Рызыкоўная гэта работа.***
***Яго спаляць не раз.***
***І, напэўна, не раз узарвуць.***
***Але што гэта ўсё,***
***калі думкі пра шчасце народа.***
***Вы ці чуеце рух?***
***Гэта людзі да храма ідуць!***

Трэба сказаць, што храм І. Пракаповіч будуе руплівa і настойліва. Ён настаўнік геаграфіі ў СШ N 1 у Паставах, выкладаючы геаграфію, прычым не абы-як, быў пераможцам Віцебскага абласнога конкурсу прафесійнага майстэрства "Настаўнік года", выступае ў друку з артыкуламі па краязнаўстве, падрыхтаваў кніжачку па геаграфіі Пастаўшчыны. Дзякуючы яго апантанасці і ўлюбёнасці ў беларушчыну летась на радзіме Уладзіміра Дубоўкі ў в. Агароднікі непадалёку ад Паставаў, упершыню адбыўся пленэр-семінар па творчасці песняра, пра які "ЛіМ" паведамляў.

Нялёгкая праца — будаваць храм, асабліва сёння, калі ў неспрыяльных умовах беларускае слова і культура:

***Сумна, мой дружа,***
***Як сумна на свеце —***
***Ўсё паўтараецца***
***З веку ў век:***
***Быццам учора***
***Спявалі аб леце,***
***А сёння за вокнамі —***
***Студзеньскі снег.***

І ўсё ж "людзі да храма ідуць...". І ажывае душа паэта: "Досыць сядзець! Паспяшайся да зорнага неба! Шлях у прасторы пакажа духоўны агонь. Толькі вазьмі ты скарынку жытнёвага хлеба, І да цябе зноў падыдзе здзічэлы твой конь...". Паэт верыць, хоць трывожна на сэрцы, у закон вечнасці, закон касмічнай гармоніі, у законы, якія значна вышэй часовых зямных:

***Божа мілы! Мяне не пакінь!***
***Хай удзячнасцю стане трывога...***
***...Адгукаецца мне далячынь***
***І святлее ў цемры дарога...***

Аптымізму надае таксама каханне. Ігар Пракаповіч шырока адкрыў куточак душы, з якога праменіць светлае пачуццё да жанчыны — вершы "Раманс", "...Гляджу на Вас — і спёка на душы", "...Астывае летні дзень у акне...", "Дзіўны танец". А калі ёсць каханне — мацнее дух, прыбаўляецца сіла. Праўда, "Дзіўны танец" некалькі насцярожвае. "І таму твае мяккія словы, як у бездань, у клетку (клетку грудзей. — **Я. М.**) плывуць. Там такія надзейныя сховы, там такая магічная муць...". Ці так ужо ўсё песімістычна? Незразумела, што за "такая магічная муць..."? Інтым інтымам, але ж...

Неяк на пасяджэнні секцыі паэзіі СП Беларусі заходзіла размова аб кнігах, што выдаюцца цяпер у шматлікіх выдавецтвах саматужным спосабам. Наспявае сур'ёзная размова аб якасці гэтых выданняў, бо часам на прылаўкі кнігарняў "прэ" шэрасць і непісьменнасць. Пра кнігу І. Пракаповіча гэтага не скажаш, хаця ёсць асобныя агрэхі. Напрыклад, у першым жа вершы ёсць такі радок: "І б'юць адчайна крыллём да знямогі". Што гэта за "крыллём"? У другім вершы запыняешся на радку: "На цэлікі гразкай дарогі". Што за цэлікі? Цэлік, згодна тлумачальнаму слоўніку, прасцейшае прыцэльнае прыстасаванне на ствале зброі і на гарматных панарамах.

У адным з вершаў чытаем: "Рысачкі кропак працягнуцца крыва Ў снежныя мроі, нібыта ў бяду". Рысачкі кропак... Калі рысачкі, то — пры чым тут кропкі? Ды, мусібыць, усё прасцей, бо ў свой час у дэбютнай нізцы ў "ЛіМе" гэты верш публікаваўся і там было так: "Рысачкі крокаў працягнуцца крыва..."

Хацелася б звярнуць увагу і на такую дэталь ці дэталі. У беларускай паэзіі лічыцца нормай выкарыстоўваць "у" складовае і нескладовае як захочацца, з парушэннем граматыкі, абы толькі памянёную літару ў рытміку тэксту ўпіхнуць. У свой час пра гэта пісаў У. Дубоўка, хаця і сам у вершаваных творах грашыў тым жа. Сустракаецца такая "хвароба" і ў І. Пракаповіча. Часам новы радок пасля кропкі пачынаецца з "ў", а тут ужо нешта блізкае да рускай мовы з яе "В".

У цэлым жа кніжачка цікавая і таленавітая.

**Янусь МАЛЕЦ**

УРАЖАННЕ

# Дом, у якім жыве любоў

Для паэта Міколы Шабовіча мінулы год быў плённым. У "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" выйшаў ягоны паэтычны зборнік "Дом". Сюды, ва ўтульнае і цёплае жытло М. Шабовіч запрашае ўсіх, каму яшчэ вельмі холадна ў жыцці, хто не знайшоў увагі і разумення. Радкі з аднайменнага верша дакладна перадаюць сутнасць кнігі, як бы выступаючы эпіграфам да ўсіх твораў:

***На студзеньскіх заснежаных пагорках***
***Мой светлы дом расчынен для гасцей.***

Прычым, жаданым госцем можа быць кожны — ад школьніка да ўжо сталага чалавека. Адразу хачу зазначыць, што паэт не ставіць перад сабой мэту занадта ўжо глыбока, па-філасофску падысці да пэўнай жыццёвай з'явы, зафіксаваць убачанае і перажытае ў мудрагелістай метафарычнасці. Акцэнт робіцца на пачуцці чытача. Амаль кожны верш зборніка ўспрымаецца лёгка, нязмушана. М. Шабовіч умее адшукаць такія словы, што жыццёвы рух ці нават некаторая статыка быцця набываюць асаблівую прывабнасць. У наш мітуслівы час хочацца спакою і цішыні. Хаця б на імгненне, на адзін вечар. Уявіце: невялікі пакой, утульнае святло настольнай лямпы, а ў руках — зборнік вершаў... Давайце ж пад такі лірычны настрой і завітаем у паэтычны "Дом".

Дом — не проста слова. Дом — пачатак існага на зямлі. Усё пачынаецца з яго, і ўсё заканчваецца ў ім. У "Доме" М. Шабовіча я б вылучыла некалькі адмысловых "пакойчыкаў". Яны і ствараюць унутраную гармонію паэта. М. Шабовіча натхняюць водар роднай зямлі, сяброўская вернасць, каханне, ліст белай паперы, на якім "радкі ўзрастуць і забуяюць вёсны".

Бацькаўшчына, каханне, сяброўства, паэзія — асноўныя дамінанты зборніка. Менавіта з іх складваецца паэтычны "Дом".

***...А ўсё ж цікава, чаму***
***Дата апошняга верша***
***Часцей і часцей супадае***
***З тым днём,***
***Калі быў я дома?***

Прыгадваецца філасафічнасць японскіх танка і хайку, а таксама творчасць Алеся Разанава (асабліва пункціраў). У малыя памеры ўкласці вялікі сэнс — ці не ў гэтым сутнасць таленту? На маю думку, М. Шабовіч мог бы часцей звяртацца да верша-мініяцюры.

Тэма Бацькаўшчыны ў зборніку прасякнута сумам і адначасова светласцю. Возьмем, да прыкладу, верш "У нашай вёсцы — трыццаць тры двары..." Лічба сімвалізуе мяжу паміж жыццём і смерцю. А сляпы дзядуля ("Дзед प्रакоп") увасабляе сучаснае аблічча вясковага побыту. Дзед даўно чакае дзяцей, і ў чаканні гэтым — уся радасць жыцця, увесь ягоны сэнс. Адарванасць ад бацькоўскіх каранёў асацыіруецца ў паэта з апалай бярозавай лістотай:

***Дзесь і ў вёсцы маёй Бадзені,***
***Нібы кропелькі яснаты,***
***Ападаюць з бяроз лісты.***

Лісты — тыя ж дзеці, якія адарваліся ад "маленства берага васільковатa" і шукаюць іншы бераг, больш заможны і прыбытковы. Але для лірычнага героя бацькоўскі кут і дзяцінства нязменна застаюцца "прытулкам шчырасці, святла", вабяць да сябе чароўнай сілай зямнога прыцягнення і матчынай любові. Як прызнаецца паэт у адным з вершаў:

***І думка праўвецца***
***Радком невядомым,***
***І стане на сэрцы***
***Так лёгка,***
***Як дома.***

У вершы "Мае ласкава-сумныя радкі..." М. Шабовіч прасочвае шлях ад нараджэння твора да яго друкаванага варыянта. Паэт не адразу ідзе да чытача, вершы павінны выспець: "Няхай раса астудзіць ім бакі, а потым сонца высушыць ласкава". У гэткай няспешлівасці — вялікая адказнасць за кожнае слова, кожны радок. Адчуваецца праца над рыфмай, рытмам, вобразнымі сродкамі. Нават да бялюткага ліста, на якім некалі ўзрастуць новыя радкі, у паэта трапяткое стаўленне.

У паэзіі М. Шабовіча заўважаецца адна акалічнасць: паэт не адгароджваецца ў сваім, толькі яму вядомым свеце, не будуе паветраных замкаў. Яго хвалюе самае блізкае, зямное: ці паміруюся з сябрам, чаму адзінота ўсё часцей становіцца звыклым станам душы для колішніх сяброў, і толькі агульны вагон становіцца для іх месцам яднання ("Бласлаўляю агульны вагон...").

Значнае месца ў зборніку займае інтымная лірыка. Вобраз жанчыны — светлы, загадкавы — вабіць і зачароўвае паэта. Яна прыходзіць у абліччы і чарнявай дзяўчынкі, і белакосай прыгажуні, і адзінокай незнаёмкі. Іпастасі аднаго вобраза лучыць паэтава захапленне. Нават пасля хвілін тужлівай ростані ў лірычнага героя захоўваецца адчуванне радасці і святла, падораных каханым чалавекам:

***Сама як чысціня,***
***З цяпла і дабрыні.***
***А пацеркі гараць***
***Твае з далечыні.***

Бацькаўшчына, сяброўства, каханне, паэзія — усё гэта аб'яднана гармоніяй паэтычнага ўспрымання Міколы Шабовіча. Завітайце ў яго "Дом", і вам не будзе холадна і сумна.

**Таццяна СТАРАСЦЕНКА**

РОЗГАЛАС

***Кожнае выданне зацікаўленае ў тым, каб яго публікацыі мелі чытацкі водгук. Асабліва прыемна, калі надрукаваны мастацкі твор ці крытычны артыкул натхняе чытача на напісанне ўласнага твора ці артыкула, калі з'яўляюцца новыя думкі і меркаванні на падставе прачытанага. У сённяшнім "ЛіМе" друкуецца падборка такіх водгукаў. Іх аўтары — маладыя навукоўцы, якія спрабуюць сказаць сваё слова ў літаратурнай крытыцы. Алесь Лапата-Загорскі даслаў нам свае развагі на тэму ўзаемаадносін пісьменніка, чытача, якім яго ўяўляе пісьменнік, і чытача рэальнага. Развагі гэтыя выклікала прачытанне ўрыўка з аповесці Івана Навуменкі "Вір", змешчанага ў адным са студзеньскіх нумароў "ЛіМа". Віталь Пятроўскі быў адным з удзельнікаў "круглага стала", прысвечанага праблеме постмадэрнізму на Беларусі, справаздача з якога таксама не так даўно надрукаваная ў "ЛіМе". Сёння малады аўтар выказвае сваё асобнае меркаванне па тэме публікацыі. Вераніка Стральцова разважае над псіхалагічнай дакладнасцю сюжэта навелы У. Сціпана "Пакуль гарыць запалка" з красавіцкага нумара "ЛіМа".***

# Чытач у... віры

У многіх сучасных пісьменнікаў уяўленне аб беларускім чытачы раздвойваецца. Адзін чытач — на яго крыўдуюць, яго абвінавачваюць — не цікавіцца нічым беларускім, пагарджае родным словам, абыякавы да нацыянальнай патэтыкі і адмаўляецца чытаць твор на падставе таго толькі, што ён беларускі... Ці не праўда, падобны вобраз прысутнічае ў прозе і паэзіі апошніх дзесяцігоддзяў і функцыяніе там у якасці адрасата рытарычных зваротаў-павучанняў: не будзь такім, абудзіся! Чытай!

Прыклады! За імі далёка хадзіць не трэба. У нумары "ЛіМа" за 17 студзеня г. г. змешчаны ўрывак з аповесці Івана Навуменкі "Вір". Вось цытата адтуль: "Беларуская літаратура ў асаблівым становішчы. Яна нібыта другарадная. У Мінску ніхто, апрача пісьменнікаў ды невялікай кучкі закаранелых беларусаў-настаўнікаў, па-беларуску не гаворыць. Чаму так? Недаспелая, не сфарміраваная цалкам нацыя? І гэта ёсць. Несцяровіч памятае: ягонаму бацьку, стрэлачніку, было ўсё роўна: беларус ён ці не беларус".

Між тым патэнцыяльнага ўспрымальніка свайго твора наш літаратар чамусьці бачыць ужо іншым: зацікаўленым працэсамі нацыянальнага адраджэння, заміламаным самім фактам сустрэчы з беларускім друкаваным словам, неабыякавым да гісторыі краіны і яе культуры, азнаёмленым з лепшымі ўзорамі нашай паэзіі і прозы, літаратурна падрыхтаваным і г. д. У пералік "гэтак далей" нярэдка ўключаны — наўрад ці хто стане з гэтым спрачацца — нават наступны пункт: чытач павінен спачуваць аўтарскай абуранасці абыякавасцю беларусаў (чытачоў!) да твораў на роднай мове.

Напрошваецца пытанне: калі мы паспелі такога чытача выхаваць?

Другі чытач, як бачым, мала напамінае першага, але менавіта другога нашы аўтары маюць найчасцей на ўвазе, калі бачаць перад сабой канкрэтнага адрасата ўласных твораў. Аналіз тэкстаў, па меншай меры, гаворыць пра зарыентаванасць на такіх, на "дастойных" успрымальнікаў, на іх ацэнку. Рэбус накont "Юнацкага свету", Гулікоўскага і "Красносельцаў" у аповесці "Вір" — хіба ён не для пасвечаных?

Творы ў танальнасці "не будзь такім, беларус!" выглядаюць асабліва рызыкоўнымі, калі ўлічваць рэаліі працэсаў іх успрымання — менавіта чытач тут займае пазіцыю гаспадара, да якога ў госці завітаў пісьменнік. І ад парога, замест прывітання... Зварот ці заклік па класічных жанравых канонах павінен быць гранічна ёмкім і лаканічным. Расцягнуты ж на стагоддзе набатны звон выглядае, дальбог, надарэчна. Тым больш, што непасрэднага свайго адрасата літаратарам будзіць не трэба, а для непабуджаных у нас неяк не пішуць...

Пісьменнікі, арыентуючыся на "дастойнага" ўспрымальніка, тым самым у нечым спрашчаюць сваю задачу. "Пісьменнік — той жа артыст. Але своеасаблівы. Бо нават у невялікім апавяданні вымушаны іграць некалькі роляў. Сядзі прымушай сябе жыць у часе, пра які пішаш, улазь у скуру герояў, у іхнія душы, выяўляй іх памкненні, жаданні... Несцяровіч нават у натхнёныя часы пісання выдыхаецца за тры-чатыры гадзіны. Ён пасля ўпартага і тым больш удалага пісання нібы выцiснуты лімон" (цытата ўзята зноў жа з аповесці "Вір" Івана Навуменкі). А калі яшчэ неабходна адначасова не вылазіць са скуры малападобнага на цябе чытача, улічваючы яго густы, пажаданні, настрой? Для сябе самога — такога, як ты сам — пісаць, безумоўна, прасцей. Але ж каб пісьменнікі не ведалі, якія сёння беларусы ў масе сваёй...

Чытачу неабходна вярнуць давер і цікавасць да беларускай літаратуры. Вынік можа быць дасягнуты тут дастаткова хутка. Нагадаем пра вопыт У. Караткевіча, прыглядзімся да творчасці маладых нашых аўтараў. Некаторыя з іх прыкметна эвалюцыянуюць менавіта ў дадзеным напрамку. Вось вытрымкі з бліцкрыткі па творах Ю. Станкевіча (матэрыял "Жорсткі тэатр", "ЛіМ", 17 студзеня): "Выглядае, што Станкевіч існуе на памежжы масавай і мастацкай культур. А гэта ўжо тэма для больш грунтоўнай гаворкі... Апошнім часам ён адышоў ад рэалізму, пайшоў не без поспеху ў рэчышча фантастычна-прыгодніцкага кшталту". Толькі пра адно правіла на гэтым шляху неабходна памятаць увесь час: чытачу нельга патураць, яго густы пажадана проста паважаць і ўлічваць. Каб на іх жа ўздзейнічаць.

**Аляксандр ЛАПАТА-ЗАГОРСКІ**

# Трызненні постмадэрніста

Заклік ствараць штосьці новае — надта ж стары і традыцыйны...

Відаць, з часоў стварэння свету ўсталяваўся гэты прынцып, і пакуль ён яшчэ не адменены. І самае смешнае, што прынцып гэты лічыцца перадавым. Прынцып жа наватарскага асваення старых форм, зусім нязвыклы для рэтраградаў і традыцыяналістаў, адрынуты, як рэакцыйны.

Хістанне традыцый — справа як наймага цяснэй звязаная з традыцыяй.

Гэта поступ наперад з павернутай назад галавой.

Каб пазбыцца традыцый, трэба ўсталявацца ў іх і забыць на іх існаванне.

Мысляр, які заняты крушэннем форм, не аддаляецца ад (ці да) фарматворчасці.

Пакуль творца будзе глядзець вонкі, ён не вырвецца з рамак традыцыі.

І самае дзіўнае, што гэта традыцыя (паглядзі вонкі) даходзіць да маніякальнасці. Сведчанне таму — надыходзячая эпоха постмадэрнізму, дзе стварэнне новай формы — шкодная звычка, якая ўжо не патрабуе тлумачэнняў. Гэта звычка заразіла грамадства, і яе ўжо не пазбыцца. Пераможа рэгрэс.

Чалавек, не здольны ў невялікі прамежак часу разбурыць аджыўшае (на яго думку), ліхаманкава прымае на сябе кляймо "пост". Гэта "другое дыханне", якое дасць магчымасць перайсці да новага эстэтычнага арганізма, пакуль не сканаў (хаця ўсяго можна чакаць) стары арганізм.

Асабліва страшэннай (да смеху) выглядае прывіўка постмадэрнізму да беларускага літаратурнага дрэва. Постмадэрнізм, як патаптанне ўсякіх традыцый, аказаўся ўсяго толькі эпігонскім пераняткам заходнееўрапейскай традыцыяй.

Безумоўна, аб адсутнасці традыцый у эстэтыцы постмадэрнізму гаворкі быць не можа. Аднак у постмадэрнізме гаворка можа йсці пра іронію над традыцыяй. Пераняцце культурнага крэда аказалася ўсяго толькі пераняткам іроніяй. Над такой "іроніяй" застаецца зыранізаваць.

Гаворка можа йсці пра разняволенае скарыстанне традыцый, але традыцыі мадэрну ў нас адстунічаюць. Ды і якая можа быць разняволенасць у скарыстанні традыцый у літаратуры, якая так неабгрунтавана анексавана (калі ўвогуле анексія можа быць абгрунтаванай) традыцыяй постмадэрну.

Безумоўна, тыя, хто круціцца ў коле постмадэрновага культу (дарэчы, культуры), лічаць усіх па-за тым колам "адсталымі". Гэту памылку можна параўнаць, ну, напрыклад, з меркаваннем жыхара Лацінскай Амерыкі, што Еўропа сапраўды ў яго пад нагамі. Еўропа сапраўды ў яго пад нагамі, таму цяжка даказаць, што ён стаіць дагары нагамі. Урэшце цяжка сказаць, хто дагары нагамі ў сусвеце, дзе нябачна дна і паверхні. Такое становішча рэчаў дазваляе постмадэрністу быць на вышыні. Хаця б і дагары нагамі. Справа ўрэшце не ў тым, што ён цягне ў бездань зямны шар, а ў тым, што той, хто стаіць з галавой, узнятай у неба, пачынае думаць, што намацвае галавой дно.

**Віталь ПЯТРОЎСКІ**

# Каб думкі знайшлі сябе ў слове...

Мне спадабалася навела У. Сціпана "Пакуль гарыць запалка", надрукаваная ў першым красавіцкім нумары "ЛіМа".

Перш за ўсё таму, што адбор і арганізацыя жыццёвага матэрыялу, праз які аўтар рэалізуе сваю мастацкую задуму, — пераканаўчыя і дакладныя. Сюжэт немудрагелісты, дзесяткі разоў праіграны штодзённым вайсковым жыццём. Два хлопцы: сяржант Папоў і радавы па мянушцы Швідкі. Крыўдзіцель і пакрыўджаны. Аднойчы (гэтае "аднойчы" — рана ці позна — прыходзіць непазбежна) расстаноўка сіл змяняецца. Крыўдзіцель робіцца ахвярай, пакрыўджаны — катам. Вынік сітуацыі — псіхічны надлом, вар'яцтва.

Гэты ненармальны, але звычайны для нашай хворай рэчаіснасці ход падзей, можа, і не заліпіў бы на сабе ўвагу, калі б сутнасць канфлікту двух канкрэтных людзей не выходзіла за межы сюжэтнай плошчы, калі б схема гэтай жыццёвай калізіі не набывала характар універсальны, які мае ўласцівасць праяўляцца на любым узроўні дэфармацыі адносін: пабытавым, міжасабовым, сацыяльна-эканамічным, анталагічным... Гісторыя дае нам няма́ла прыкладаў, калі патэнцыял энергіі разбурэння закамплексаванай, прыгнечанай псіхічна, псіхалагічна ці фізічна асобы набывае татальны маштаб, уплывае на лёсы цэлых народаў ці нават цывілізацый. Узгадаем хаця б Напалеона. Ці Гітлера. Ёсць прыклады і ў больш блізкай нам рэальнасці.

Але вернемся да прадмета нашай кароткай размовы.

Спадабаўся мне і падбор выяўленчых сродкаў, якія ўжывае У. Сціпан: выразнасць мастацкай дэталізацыі, магчымасці якой выкарыстаны нязмушана і натуральна, абгрунтаваны з пункту гледжання псіхалагічнай прычыннасці. Адзіная заўвага — адносна кароткага паралельнага сюжэта, які нечакана з'яўляецца напрыканцы навелы. Праз эфект адвартнага адліку часу аўтар робіць спробу вывесці дзеянне на план эзатэрычны. Фармальна такі прыём, безумоўна, разнастаіць кампазіцыйную будову, але (у дадзеным выпадку) разбурае цэласнасць сэнсавага ўспрымання тэкста. Ды і саму яго архітэктоніку таксама.

І ўсё ж не магу ўзяць на сябе смеласць аспрэчваць мастацкую мэтазгоднасць ці сутнасную дакладнасць такой літаратурнай актуалізацыі. Урэшце, сам выбар аўтарам мастацкага прыёму не выклікае пярэчанняў. Больш таго, імкненне У. Сціпана да новых, некананічных форм засваення рэчаіснасці вартае ўхвалы. Нетрадыцыйныя прастора-часавыя ўяўленні і падступы да віртуальнай рэальнасці хоць і набылі апошнім часам у еўрапейскай (ды і ў нацыянальнай) літаратуры рысы архетыпічныя, але не страцілі тым не менш свайго эксперыментальнага характару. А эксперымент, як вядома, тоіць у сабе і вялікія магчымасці, і вялікую рызыку. Таму менавіта тут, думаю, патрэбна асаблівая пільнасць і ўзважанасць: чым больш смелы ці эпатажны прыём ужывае аўтар, тым больш дасканалай і бездакорнай павінна быць "тэхніка выканання". Важна не спяшацца: не толькі ўнутраная патрэба, але і магчымасць яе мастацкай рэалізацыі павінны выспець спакваля. Папраўдзе, часам бывае прыкра, калі "студыйны", па сутнасці, этап афармлення твора адбываецца навідавоку ў чытача.

Некалькі разоў перачытвала канцоўку навелы. Не разумею. Ні праз пачуццё, ні праз логіку. Ледзь не паставіла сабе несімпатычны дыягназ. Але раптам успомніла, з якім узрушэннем, адчуваннем сапраўднага адкрыцця і пранізлівай мастацкай праўды чытала пару гадоў таму алегорыю Рычарда Баха "Чайка па імені Джонатан Левінгстан", дзе ідзе размова пра рэчы, не менш складаныя для ўспрымання.

Важна, каб думкі знайшлі сябе ў слове.

Важна дбаць і пра супадзенне (хаця б адданелае!) аўтарскіх і чытацкіх асацыяцый. Не збівацца, вядома ж, на шаблон, але і не дапускаць разбурэння камунікатыўнага ланцуга "аўтар-твор-чытач". Бо суб'ектыўнае набывае мастацкую каштоўнасць толькі тады, калі кладзецца на чытацкае ўспрыманне, выкрышталёўвае ў нешта пэўнае ягонае прадчуванне, прадуяўленне, прад-разуменне. Даследчык псіхалогіі літаратурнай творчасці М. Арнаўдаў пісаў: "Найвышэйшая арыгінальнасць уяўляе сабой нешта зусім тыповае, чым і адрозніваецца ад простага арыгінальнічання".

З ім цяжка не пагадзіцца.

**Вераніка СТРАЛЬЦОВА**

ВІНШУЕМ!

# І прозы не цураецца

## Івану КУДРАЎЦАВУ — 75



Іван Фёдаравіч з пакалення, жыццё якога апаліла вайна. За два гады да яе І. Кудраўцаў паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. З прыходам гітлераўцаў мусіў эвакуіравацца з Мінска, некаторы час настаўнічаў у Мардовіі. А пасля былі баі на Заходнім, Варонежскім, І-м і 2-м Прыбалтыйскім і Ленінградскім франтах. Дэмабілізаваўся ў 1945 годзе. Скончыў універсітэт, завочна вучыўся ў аспірантуры, працаваў літаратурным работнікам, загадчыкам літаратурнага аддзела "ЛіМа", адказным сакратаром часопіса "Беларусь". З 1965-га па 1970 год І. Кудраўцаў навуковы супрацоўнік навукова-даследчага Інстытута педагогікі Міністэрства асветы БССР, з 1971 па 1974 год загадваў літаратурнай часткай Беларускай дзяржаўнай філармоніі, а з 1975 па 1988 год быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Мае навуковую ступень кандыдата філалагічных навук.

З 1947 года І. Кудраўцаў выступае ў перыядычным друку з рэцэнзіямі і літаратурна-крытычнымі артыкуламі. Выдаў манаграфію "Кузьма Чорны. Ідэі і вобразы ў творчасці" (1966), літаратуразнаўчы нарыс "Кузьма Чорны. Жыццё і творчасць" (1968).

Працуе І. Кудраўцаў і ў галіне прозы.

З 75-годдзем, шаноўны Іван Фёдаравіч! Зычым вам здароўя, поспехаў!

# На ніве перакладу

## Пятру СТЭФАНОВІЧУ — 75



Вайна прапісалася і ў біяграфіі Пятра Стэфановіча. У 1939 годзе ён скончыў у Ашмянах гімназію, на пачатку 1941 года пачаў працаваць літаратурным супрацоўнікам ашмянскай раённай газеты "Знамя свободы". А ў час вайны ў яго біяграфіі былі курсы малодшых лейтэнантаў у Забайкальскай ваеннай акрузе і курсы "Выстрел" Міністэрства Узброеных Сіл СССР, баі на Паўднёвым і Карэльскім франтах, з якога П. Стэфановіча восенню 1944 года адклікалі і накіравалі ў Войска Польскае, дзе служыў начальнікам аддзела штаба 10-й дывізіі пяхоты. З 1950 года працаваў на будоўлях — прарабам, начальнікам участка, галоўным інжынерам, начальнікам аддзела капітальнага будаўніцтва, з 1969 па 1979 год — інжынерам Беларускага аддзялення Літфонду СССР, затым да 1984 года — літаратурным рэдактарам часопіса "Вожык".

У друку выступае з 1941 года. Вядомы як перакладчык з польскай на беларускую і рускую мовы, з беларускай — на польскую. З'яўляецца складальнікам анталогіі апавяданняў польскіх пісьмен-нікаў "Ад Буга да Одры" (1969) і зборніка гумару і сатыры сучасных польскіх пісьменнікаў "Вясёлы калейдаскоп" (1979).

Віншуем Пятра Францавіча з 75-годдзем! Зычым яму доўгіх год жыцця і ўсялякіх поспехаў!

Уладзімір МІХНО



# “ТУБІК”

АПАВЯДАННЕ

якая кепская хвароба?.. Не, пра гэта не хацелася думаць, дый не было часу. Падышоў аўтобус. А ў бараўлянскім аўтобусе думаць пра нешта іншае, акрамя светлае будучыні ў выглядзе шчаслівага замагільнага жыцця, не выпадае. Моцная, уладарная людская хваля падхапіла хлопца і фатальна панесла ў аўтобус. Зміцер паспеў абачліва прыцiснуць да грудзей цэлафанавы пакет. Там нічога асаблівага: той самы “крамольны” спартовы касцюм, зубная шчотка і паста, мыла, ручнік, шлёпанцы, ды яшчэ кніжка: “Сто дзён да Загаду” і іншыя аповесці Юрыя Палякова. Каторы раз перачытвае. У пакеце — нічога асаблівага, ды шкада пакета: парвуць і не пікнеш. Паспеў прыцiснуць да грудзей пакет і заплюшчыць на ўсякі пажарны вочы. Мабыць, таму і не заўважыў, як завіс між небам і зямлёю ў бітком набітым, нібы селядцы ў бочцы, аўтобусе. Неба адразу ж падалося з аўчынку, дыхнуць не было як, бо два здаравенныя мужыкі сексуальна нахіліліся над яго галавою, ледзьве не да вуснаў прыпалі. Мала таго, у аднаго з рота пасадысцку несла часнаком — хадзіў грып, — Зміцер нават засумняваўся, ці атрымаецца ехаць далей, каб лячыцца. Хутчэй за ўсё, ён мусіць памерці тут жа, стоячы, як і заклікала некалі Далорэс Ібаруры. Шчасце, што ўдалося адносна свабодную рукою намертва ўхапіцца за поручань. Дарога ў бессмяроцце, такім чынам, на нейкі няпэўны час адкладвалася, але ж і дзверы аўтобуса таксама не думалі зачыняцца. Дзверы ўвішна падпірала клубамі дзябёлая кабета — пра такіх кажуць: добрага чалавека павінна быць многа. Кабета адчайна цiснулася ў аўтобус і вішчэла, быццам бы яе насупраць вясны сабраліся свежаваць.

— Заходзьце, калі ласка, спадарыня, — нечакана ветліва, а галоўнае, пабеларуску запрасіў яе вадзіцель праз мікрафон.

У “спадарыні” ад нечаканасці люта адвісла губа, а тоўсты ружовы карак пачаў пакрывацца белымі плямамі, знячэўку яна нават на нейкую хвіліну страціла раўнавагу. Гэтага было дастаткова, каб важкая гаспадарчая сумка, якую жанчына трымала ў руцэ, пацягнула на сябе. Сумка пакуль яшчэ зімавала на вуліцы, кабета, каб не ўпасці, сутаргава ўхапілася свабоднай рукою за штаны маладога хлопца. Хлопец аказаўся не з маўклівых і хуценька ж адрэагаваў:

— Не спешите, женщина, еще не вечер.

Што тут пачалося?! У салоне, хто быў бліжэй і чуў, зарагаталі.

— Бізабразія! — яшчэ болей пранізліва завішчэла небарака, — Празідэнт ня відзіт, бэнэфаўцы няшчасныя. Жалаваць буду... Вадзіцель, січас жа аткрой зад, там у цібя пуста!

І тут не вытрымала ці то ўласнага цяжару, ці то “бізабразія” яе наладаваная сумка: адарвалася ручка, і сумка здзейсніла мяккую пасадку на заледзянелы асфальт. Тут жа з сумкі вываліўся батон кілбасы, гэткі самы тоўсты і чырвоны, як і яго гаспадыня, і гарэзліва пакаціўся па асфальце. З нечаканым спрытам кабета скочыла ўслед за кілбасою, і... дзверы аўтаматычна зачыніліся. Пакуль жанчына, то хапаючыся за сумку, то пагражаючы кулакамі аўтобусу, нешта екатала, той гарэзліва ды пагардліва чмыхнуў параю і крануўся з месца.

— Не туды глядзіць, дык і не бачыць, — звалася, не па тэме сам сабе ўголас уздыхнуў пажылы, відаць было, інтэлігентны чалавек.

— И как вам не совестно так говорить?! — адразу ж падчапіла яго на кручок старэнькая бабулечка, і як яна яшчэ не паспела раскласціся на атамы.

— Успокойся, бабуля, — запратэставала моладзь, — пускай бы, действительно, сам вот так потолкался...

— Ну, что вы, охрана ведь вся в автобус не войдет...

— Да эта женщина, которая с колбасою, не боровлянская. Садятся минчане доехать до Карбышева. Другого транспорта нет, что ли?

— Ясное дело, на халяву, чтобы талон не пробивать...

Зміцер не слухаў. Пачыналася звычайная дыскусія, падчас якой усе станавіліся палітыкамі, сацыёлагамі і псіхолагамі. Брыдка. Адвіслі вушы слухаць. Зараз хацелася думаць пра тое, што яго чакае наперадзе. Бронхаскапія... Слова якое мудрагелістае запісалі ў накіраванні, незразумелае, таемнае. Невядомасць заўсёды пужае. Цяжка дыхаючы, паўзе аўтобус. Шумныя, гаманкія, частыя прыпынкі — прабягаюць, акурат гады яго юнацтва... Маскоўская, Валгаградская, Карбышава, Баравая, Вучгас, раённая бальніца, універмаг, абласная, шпіталь і нарэшце — “Тубік”. Усё да болю знаёмае, роднае, толькі людзей у аўтобусе з кожным прыпынкам усё менее, дый людзі прыцiхлі. Не дзіва, да апошніх прыпынкаў людзі едуць ці то хварэць, ці да хворых у адведкі. Гаротныя едуць людзі. А вось і кароткая сцежка ад аўтобуснага супынку да вялізнага шматпавярховага дыспансера, яна завешца, мабыць, дарогаю адчаю. Адчаю і надзеі. Людзі збочваюць з актыўнага жыцця на гэтую дарогу кожны са сваім горам і надзеяю. Хто сказаў, што надзея памірае апошняю? Паміраюць людзі, а надзея ўсё яшчэ застаецца жыць...

Зміцеру праснілася гэтая дарога. Надоечы нечакана паявілася маці, яго маці, якая памерла пяць гадоў таму. Выйшла яна во з гэтага шматпавярховага будынка — чаго не бывае ў сне! — селі яны, помніць, у чырвоны легкавы аўтамабіль і паехалі, і... прачнуўся ён. І не помніць, і не ведае, ці будзе яшчэ супынак, ці выскачыць ён з таго аўтамабіля, а ці мама павязе яго з сабою назаўсёды? Гэты высакосны год хлопец аніяк не мог адужаць. Не тое дык тое: маладога, апанавалі яго раптам хваробы, і няма сілы ад іх атрэсціся... А пад вясну раптам задушліва-горка стала ў грудзёх, дабівае кашаль, паявілася кроў...

Пульманалогія. Гэта праз прыёмны пакой, па калідоры і — на другі паверх. Хлопец адчыніў дзверы, убачыў першых, што трапіліся, людзей і... зляknуўся. І першым было памкненне выскачыць ізноўку на вуліцу і — бегчы адсюль, бегчы, уцякаць, куды вочы глядзяць. На сухія лясы ўцякаць, толькі далей, далей... Людзі былі падобныя да жыхароў музея мадам Цюссо. Не, яшчэ горш: гэта ўсталі і ходзяць егіпецкія фараоны. На васковых, як свечка, тварах няма ні крывінкі, ні жывінкі. Вочы запалі так глыбока, што і вачэй таксама няма, на іх месцы блішчаць вачніцы, цёмныя, страшныя, але ж колькі ў тых вачніцах адчайнае надзеі і прагі да жыцця! Яны тут ЖЫВУЦЬ...

Усё гэта ён, Зміцер, усвядоміць крыху пасля, калі і сам мусіць атабарыцца тут ІСНАВАЦЬ... А зараз... зараз ён хуценька кінецца да тэлефона, да тога самага грамадскага тэлефона-аўтамата, які адзін на ўвесь дыспансер сіратліва вісіць унізе, на першым паверсе. Кінецца да тэлефона, бо трэба ж распавесці сястры пра свае ўражанні, страшныя ўражанні, а заадно і сказаць, што ён у пульманалогіі, у дванццаць трэцяй палаце, што бачыў ужо нават свайго ўрача, Марыю Андрэеўну Юнак... Юнак... Якое дзіўнае і аптымістычнае для “тубіка” прозвішча. Хіба так бывае? А можа, проста ў яго пачынаюць здаваць нервы. Глядзі, Зміцер, каб часам не “паехаў дах”. Ён кінецца да тэлефона і ўсё роўна, як апёкшыся, хуценька адскочыць — добра, што ніхто не бачыць. Толькі ў самы апошні момант хлопец зразумее: тэлефон, як, зрэшты, і ўсё тут, жывое і нежывое, цяпер таксама становіцца яго страшным ворагам. Першы паверх — плеўрыты, трэці — сухоты. Каварная палачка пільнуе яго, мабыць, на кожным кроку, толькі і чакае, пакуль ён возьме ў рукі слухаўку. Бярэ, ну, зусім, як той чыноўнік на мытні, пра якога распавядаў Маякоўскі “...как бомбу, берет как ежа: как бритву обоюдоострую...” А сястра на тым канцы провада нечакана засмяялася дый кажа:

— А ты што хацеў, каб па “тубіку” бегалі штангісты і легкаатлеты? А слухаўкі дарэмна баішся. Калі б тая палачка так лёгка перадавалася, то ўвесь медперсанал даўно пахварэў бы. Сухоты, мой ты дарагі — хвароба сацыяльная...

Добра ёй, сястры, яна каторы год працуе лор-урачом — прывыкла, на яе, як кажуць, і плююць, і харкаюць, а яна смяецца. Калі перастанеш смяяцца — можна звар'яцець. Жыццё - не санаторый...

Аднак разам са слухаўкай хлопец пакілае на тэлефонным апараце і свой хвілінны адчай, і ўжо зусім з іншым настроем ідзе да сябе ў палату...

Прыйшоў у палату — там Дзед есць кефір. Пра Дзедаву сквапнасць ходзяць па палаце легенды. Кажуць, што ў выхадныя, калі многія сыходзяць дадому — а тут багата мясцовых, дык іх на выхадныя адпускаюць, — Дзед з'ядае па пяць порцый запар, а вячэрні кефір прама з чайнікам хавае да сябе ў тумбачку. Пра чайнік, вядома ж, сачанілі, бо яго ніхто не дасць, а ўсё астатняе, хто ведае, мо і праўда. Ва ўсякім разе, Дзеду да егіпецкай муміі, як дзеждцы да таўкача. Яшчэ расказваюць, нібыта жыве Дзед у сына, удвух п'юць, а закусваць няма чым. Як выхартуецца, просіцца ў бальніцу, хапаецца то за сэрца, то за грудзі, асабліва калі Марыя Андрэеўна пачынае абход. Сачныне пра ўсё гэта Тамусь, невысокі, каржакаваты кавалер, якому гадоў пад сорак, добра скроены, ды, відаць, кепска сшыты. Гарохавы кавалер. А зрэшты, хто яго ведае, бо асабістае ягонае жыццё — далёка за сценамі дванццаць трэцяй палаты, аж недзе пад Клецкам. Не дабяжыш і не праверыш. Бачна толькі тое, што Тамуся хлебам не кармі, дай памяніць языком, і фортачкі на ноч не зачыняй — дай падыхаць свежым паветрам. У Тамуся астма, і таму ён кожны дзень па некалькі разоў гуляе па лесе і жадна дыхае вольным паветрам. Ну, а ўначы, як свет стаіць, ваюець з Дзедам за месца пад сонцам, гэта значыць, за тую самую фортачку. У дзеда ад адкрытай фортачкі прастуда, сэрца і, вядома ж, алергія.

— Алергія ў цябе, Дзед, ад абжорства, — ставіць дыягназ Тамусь і шукае падтрымкі ў трэцяга жыхара палаты — у рыжага Колі.

Коля — высокі малады мужчына, паспеў жаніцца, але так і застаўся бабнікам. Фортачка Колю — як нябожчыку кадзіла, таму што ён тут, лічы, не начуе.

— Ай, Коленька, ай, дарагі, напішу я тваёй жонцы, на які ты курорт сюды прыехаў, — даймае Тамусь.

Расказваюць, прыязджала жонка ў адведкі, гасцінцаў поўна навезла, а мужа так і не ўбачыла. Муж у гэты час з бабамі на першым паверсе зачыніўся. Стукаўся Тамусь, не дастукаўся, давялося ім з Дзедам выкручвацца, манілі, як умелі. Сказалі, нібыта Колю павезлі ў абласную на фібрагастраскапію. А ў тога і сапраўды страўнік — не фантан. Жонка паплакала, пабедавала і, пакінуўшы прадукты, заспяшалася дадому. Разгневаны Дзед, ледзьве толькі зачыніліся за ёй дзверы дэманстратыўна паеў усе гасцінцы, а Коля дачуўся пра жончын ваяж толькі пад вечар, а потым яшчэ доўга па міжгароднім тэлефоне наладжваў са сваёй слабою паловаю дыпламатычныя адносіны.

— Ну, а ты скуль узяўся, “Бэнэф”? — ухапіўся за новенькага Тамусь, як повар за бульбіну, зірнуўшы на яго арыгінальны спартовы касцюм. “Крамольныя” колеры на касцюме ішлі цераспалосіцай праз усё правае прадплечча і вельмі добра вылучаліся на агульным чорным фоне. Зміцер смяяўся часам, мауляў, колеры гэтыя праз сэрца ідуць.

— Цьфу ты, пустамеля. Не слухайце яго, малады чалавек, язык — што анучa, — уступіўся Дзед.

Аднак мянушка адразу і моцна прыліпла да хлопца, тым болей, што неўзабаве Зміцер загаварыў. Гаварыў ён чысцютка па-беларуску, ды так прыгожа, складна, а галоўнае, пераканаўча ў яго выходзіла, што рэдка хто рызыкаваў яму запярэчыць, хоць і пагдядалі з апаскаю. А калі аднаго разу Зміцер разгарнуў чытаць кніжку, тыя самыя “Сто дзён да Загаду” і з яе выпала “закладка” — маленечкая кніжачка, на вокладцы якой мужыкі вычыталі: “Зміцер Кадровіч “Вершы”, хлопец стаў сапраўдным аўтарытэтам. У яго пыталіся парады, з ім, студэнтам, спрачаліся, асабліва любіў спрачацца Дзед, які лічыў сваім маральным абавязкам настаўляць моладзь “на путь истинный”, нарэшце, яго, Кадровіча, паважалі...

Увечары ў дванццаць трэцюю палату заваліў хлопец гадоў васемнаццаці. На выгляд, праўда, можна было б яму і меней даць: бледны з твару, хударлявы. Але былі дарослымі вочы, можа, таму, што яны ўваліліся, абраслі паўцёмнымі кругамі, яны нездарова блішчэлі. Але гэта былі разумныя, добрыя і дарослыя вочы.

— Як жысць, мужыкі? — хлопец, не спытаўшы, упэўнена ўсеўся на табурэтку, быццам бы ён тут заўсёды і быў.

— Як сажа бяла, — застагнаў Дзед і ўхапіўся за сэрца.

— Чаго ты, Дзед, за сэрца хапаешся? — усміхнуўся хлопец. — Марыя Андрэеўна ж абход ужо зрабіла.

“Яшчэ адзін клоун”, — падумаў быў Зміцер. Але “клоун” тут жа ашчаслівіў увагаю і яго самога.

— Новенькі? — падышоў да яго бліжэй, падаў руку, — Я. — Віталь...

— А я Зміцер...

— Хіцер Зміцер, дый Саўка не дурань, — уставіў свае тры лапці Тамусь, — а чаму не Дзімка? У вас, “бэнэфаў”, усё не па-людску, імёны і тыя...

— Падавіся, астма, а то фортачку прыкрыю, дай з чалавекам пагаварыць, — агрызнуўся Віталь. — Ты адкуль будзеш? З Мінска?

— Вучуся.

— Слухай, а я твой “фэйс” дзесьці бачыў... О, ес, ты ж той самы “вораг народа”. Ну, помніш Пухавічы? Гарэлец помніш? Вы — студэнты, мы — п'янтосы мясцовыя. Ты яшчэ, помню, нам палітыку чытаў. А што нам палітыка, з ёю ж не пераспіш, нам бутэлька трэба і баба. А потым, памятаеш, мы з табою Марынку не падзялілі і настаўлялі адзін аднаму гузоў. А я тады быў мацнейшы!..

— Не можа быць?

— Што, худы і кашляю? Дык на гэтым курорце не папраўляюцца...

Непамысна! Гэты худзенькі і бледны хлопчык тры гады таму быў здаравенным валацугаю, супроць якога Зміцеравы кулакі здаваліся дзіцячымі. Ну, не прабіць яго было... Не памысна! Уражлівы “паэт” нават пусціў слязіну. Не хацеў, а яна і пацякла па шчацэ. Яны радаваліся сустрэчы гэтаксама, як у войску радуюцца сустрэчы з земляком. Нават абняліся.

А потым у Віталя пайшла з носа кроў.

— Што з табою? — спалохаўся Зміцер.

— Ды так, нічога. Галава закружылася, — і зарагатаў, — Проста Марынку ўспомніў...

— А што Марынка?

— Ад вінта. Паказала нам з табою дулю і выйшла замуж.

— Усе яны, бабы, аднолькавыя, — уздыхнуў Тамусь.

— Асабліва для цябе, — не вытрымаў Коля, — чаму не жэнішся?

— Тваю жонку чакаю, пакуль прыедзе, — той паспрабаваў перавесці на жарт, але яго ніхто не слухаў.

— Не, я сур'ёзна пытаюся, што з табою, Кавальчук? Ды там, у Гарэльцы, табе роўных не было, і раптам во... кроў з носа...

— Ерунда, часовы збой механізма. Ты не думай, Кадровіч, я тут доўга затрымлівацца не збіраюся. Дні праз два Марыя Андрэеўна абяцала бронхаскапію. Нічога не знойдуць і — на міны. Сеяць хутка. На майго сталёвага каняку ніхто іншы, акрамя мяне, хамут не надзене. Як там вашы паэты пішуць — будзем сеяць, беларусы...

— Чаму нашы, а не вашы?

— Здаюся, здаюся. Бо ізноўку будзеш лекцыю чытаць... пра шкоду шавінізму...

— Во-во, пад іхнім бел-чырвонабелым сцягам Гітлер, кажуць, ваяваў, — ухмыльнуўся Тамусь, — а яны з ім носяцца, як чорт з бубнам.

*(Працяг на стар. 14—15)*

## ЧАСАПІС

### Да 900-годдзя Пінска



Мастак-кераміст Мазырскай фабрыкі мастацкай керамікі Міхаіл Васькоўскі заняты распрацоўкай узору піўнога кубка да 900-годдзя Пінска. Свята будзе адзначацца летам, і да гэтага часу неабходна падрыхтаваць дзве тысячы вырабаў.

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

### Фестываль харавой музыкі

У Мінску ў Чырвоным касцёле адбыўся фестываль духоўна-харавой музыкі "Белых кветак вянок духоўны", у якім удзельнічала восем калектываў і асобныя выканаўцы.

На фестывалі прагучалі творы П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, П. Часнакова, А. Архангельскага, І. Баха, А. Ласа, Й. Гайдна, Г. Гендэля і іншых.

Нельга не адзначыць прафесійнае майстэрства ўзорных дзіцячых хораў "Сонейка" Палаца культуры прафсаюзаў, "Дружба", хору хлопчыкаў "Каравэла" Палаца культуры дзяцей і моладзі, мужчынскага квінтэта пад кіраўніцтвам К. Міхальскага.

П. ГАРДЗІЕНКА

### "Мастацтва" пра ...мастацтва

Чацвёрты нумар штомесячніка "Мастацтва" адкрываецца чарговым артыкулам М. Крукоўскага з цыкла "Бацька" ўсяго існага". А далей ідуць публікацыі, "Беларускі арт-рынак, сацыяльнае самаадчуванне мастака" Я. Леўяроўскай, "Вады нальём потым..." В. Трыгубовіч, "Паўлінка ўсіх часоў" С. Пазняк, "У пошуках героя" Т. Катовіч, "...Заслужаная артыстка аўтазавода..." І. Сабалеўскай, "Шукальнік музычных скарбаў" Т. Мушынскай, "Трагедыя страсцей чалавечых" Г. Куляшовай, "На фестывалі ў Пардубіцэ" Н. Ксёнц, "Песня варажскага госця" В. Буйвала, "Памкненні сэрца і душы" Т. Гаранскай, "Паміж мінулым і будучым" А. Прускага, "Мазаіка з тканіны" В. Казлова, "Славянская міфалогія ў кантэксце беларускай культуры" У. Конана, "Трэці год пад лістападам" А. Бабковай, "Рэха "Лістапада" ў сучаснай культуры" Н. Фральцовай, "Дыялог пра смерць карціны" Ю. Барысевіча, "Гуляем у Беларусь" Г. Багданавай і іншыя.

### Юная майстрыха



Сапраўднай майстрыхай адчувае сябе другакласніца Хрысціна Дзівіна. Гэтую упэўненасць яна набыла ў лепельскім Доме рамёстваў, дзе многія дзеці райцэнтра пад кіраўніцтвам вопытных педагогаў і народных майстроў асвойваюць ткацтва і вышыўку, разьбу па дрэве і ганчарства, далучаюцца да цудоўнага.

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

---

ЗГАДКІ

# Вобразы перажытага

***Вядомаму кампазітару, народнаму артысту рэспублікі прафесару Генрыху Вагнеру спаўняецца 75 гадоў. Аўтар некалькіх балетаў, першай на Беларусі тэлеоперы, многіх вакальна-сімфанічных і камерных твораў, музыкі да драматычных і радыёспектакляў, кінафільмаў, ён і сёння плённа працуе ў самых розных жанрах. Творчы шлях Г. Вагнера пачаўся яшчэ ў дні вайны, калі ён быў удзельнікам франтавога тэатра...***



**— Пры якіх абставінах вы, Генрых, трапілі ў гэты тэатр? — папрасіў я распавесці сябра-кампазітара, завітаўшы да яго днямі.**

— Спачатку нагадаю, як я ўвогуле стаў жыхаром Беларусі. Бо нарадзіўся ў невялікім польскім гарадку, каля Варшавы, у музычнай сям'і. Рана асвоіў фартэпіяна, шаснаццацігадовым юнаком паступіў у Варшаўскую кансерваторыю. Але, калі ў 1939 годзе гітлераўцы напалі на Польшчу, вымушаны быў шукаць ратунак на зямлі Беларусі, дзе знайшоў для сябе другую радзіму. Неўзабаве мне далі магчымасць прадаўжаць вучобу на фартэпіянным факультэце Беларускай кансерваторыі ў класе вядомага педагога Рыгора Ільіча Шаршэўскага. І тут раптам грымнула Вялікая Айчынная вайна — з мірным жыццём давялося надоўга развітацца. У армію не ўзялі, бо я тады яшчэ не паспеў атрымаць савецкае падданства. Таму разам з тысячамі мінскіх бежанцаў рушыў на ўсход, далей ад фашысцкай навалы...

Пасля доўгіх блуканняў па рускіх гарадах малады музыкант апынуўся ў сталіцы Таджыкістана — Душанбе. Хутка ўладкаваўся на працу канцэртмайстрам рэспубліканскай філармоніі. Аднойчы нехта яму сказаў, што фарміруецца Першы франтавы тэатр Таджыкскай ССР пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Расіі Георгія Менглета, які ў той час працаваў у трупе мясцовага рускага драмтэатра імя У. Маякоўскага. Іншага зручнага выпадку трапіць на фронт наўрад ці можна было чакаць. А ў душы Г. Вагнера нарастала лютая нянавісць да фашыстаў, якія знішчылі ягоных бацькоў і ўсю радню ў Польшчы.

— Калі я звярнуўся да мастацкага кіраўніка з просьбай прыняць мяне ў новы тэатральны калектыў у якасці піяніста, — працягвае кампазітар, — Менглет адразу ж спытаў: "А вы на акардзоне ўмееце граць?" Я не разгубіўся і тут жа адказаў: "Пры наяўнасці інструмента гатовы вельмі хутка яго асвоіць". "Ну, калі так, — сказаў Менглет, — то прызначым вас загадчыкам музычнай часткі франтавога тэатра. Будзеце акампанаваць спевакам, танцорам, а заадно разам з кампазітарам Анатолем Лепіным возьмецеся за музычнае афармленне спектакляў".

**— А раней, Генрых, даводзілася самому пісаць музыку ці пажаданне Менглета заспела вас знянацку?**

— Першыя мае спробы ў кампазіцыі аднясяцца да пачатку 1942 года. Менавіта тады эвакуіраваная ў Душанбе студыя "Саюздзетфільм" здымала сатырычную карціну "Швейк супраць Гітлера". Па просьбе знакамітага кінарэжысёра Сяргея Юткевіча, які ведаў мяне па рабоце ў філармоніі, я ўпершыню напісаў да адной з навел гэтага фільма музыку вострa гратэскавага характару. Прыкладна ў той жа час з'явілася і вельмі дарагая для мяне з ранніх твораў "Калыханка" на словы Акубжанава. Аднак па-сапраўднаму старанна і ўдумліва заняўся кампазітарскай творчасцю ў франтавым тэатры.

**— Раскажыце, калі ласка, што сабой уяўляў гэты творчы калектыў, чым ён адрозніваўся ад звычайных канцэртных брыгад, якія тады часта абслугоўвалі байцоў дзеючай арміі.**

— У склад нашай трупы ўваходзілі не толькі драматычныя акцёры, але і салісты оперы, філармоніі, выканаўцы таджыкскіх народных песень і танцаў. Больш за два месяцы працягвалася напружаная праца над спектаклем-канцэртам "Салом, сябры!". Яго пастаноўшчык С. Юткевіч, аўтары літаратурна-драматычнага матэрыялу Б. Ласкін і В. Ражноў, вядомы мастак і рэжысёр М. Акімаў імкнуліся стварыць своеасаблівае тэатралізаванае прадстаўленне, якое несла б франтавікам эмоцыі радасці і весялосці, высокія патрыятычныя пачуцці. Пэўную ролю тут адыгрывала нават адзенне артыстаў (белыя сукенкі ў жанчын і парадныя касцюмы ў мужчын).

---

НОВАЕ

# У музыцы — Індыя

## НЕАЦЭННЫ ДАР ПАСОЛЬСТВА

Музычная навука ў наш час набывае шмат кірункаў, здатных вывесці даследчыкаў на новы, сучасны ўзровень асэнсавання складаных працэсаў сусветнага музычнага мастацтва. Адна з такіх галін сучаснай музычнай навукі — індалогія — звязана з вывучэннем музычнай культуры Індыі, адной з найбольш старажытных і адначасова вельмі ўплывовых у разнастайнай панараме музычных традыцый свету. Сфарміраваная на пачатку XX стагоддзя дзейнасцю прадстаўнікоў ангельскай, французскай, галандскай школ, якія заклалі падмурак музычна-індалагічнай навукі, яна набыла сёння сапраўды міжнароднае распаўсюджанне. За апошнія гады як у самой Індыі, так і ў краінах Еўропы, ЗША, Канадзе, Аўстраліі выдадзены сотні навуковых артыкулаў, зборнікаў, манаграфій на гэтую тэматыку.

На жаль, музычная навука на Беларусі стаяла ўбаку ад усеагульнай цікавасці да музыкі Індыі, як і наогул музычных культур свету — шмат у чым з-за недахопу інфармацыі. Але ж усе мы ведаем, пад якім уплывам разнастайнай музычнай прадукцыі знаходзіцца наша грамадства і асабліва моладзь, якая прагне падчас сур'ёзна разабрацца ў тым, што яна чуе. І патрэба ў адпаведных ведах узрастае. Тым болей, што і наша вышэйшая школа сёння імкнецца пашыраць змест адукацыйных курсаў і праграм.

Дык вось, прыемная навіна. Пасольства Рэспублікі Індыі на Беларусі перадало Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь дар неацэннай каштоўнасці: кнігі па праблемах індыйскай культуры, музыкі, танца, напісаныя як уласна індыйскімі, так і замежнымі аўтарамі. Усе кнігі ўбачылі свет у апошнае дзесяцігоддзе і, такім чынам, адлюстроўваюць сучаснае становішча музычнай індалогіі. Пагадзіцеся, гэта падзея, без перабольшвання, — своеасаблівы прарыў у той інфармацыйнай ізаляцыі, што "атуляла" нашу навуковую прастору.

Вылучаецца зборнік артыкулаў, прысвечаных разнастайным праблемам сучаснай індыйскай культуры, сучасны стан развіцця якой вельмі дакладна адлюстроўвае агульная назва: "Чароўны паўлін" (The Divine Peacock. Understanding Contemporary India. Ed. K. Satchidananda Murty. ICCR). New Delhi: Wiley Eastern, 1995.—XV, 187 p. Тут сабраныя артыкулы выдатных індыйскіх навукоўцаў, прысвечаныя разнастайным аспектам навукі, культуры, праблемам тэхналогіі, правоў чалавека, міжнародным адносінам, філасофіі, сацыялогіі, якія паўстаюць напярэдадні XXI стагоддзя перад гэтай вялізнай краінай ва ўсёй іх паўнаце. Знаёмства з матэрыяламі кнігі дае рэальнае ўяўленне пра актыўнае духоўнае, культурнае, сацыяльнае развіццё індыйскай рэчаіснасці.

Безумоўна, шырока зацікавіць усіх, хто займаецца праблемамі індыйскай музыкі і ўвогуле мастацтва, пяцітомнае выданне пад назвай "Даследаванні індыйскай музыкі і роднасных відаў мастацтва" (Studies in Indian Music and Allied Arts.Ed.by Omcherry, D. Omcherry Bhalla.) Delhi: Sundeep prakashan, 1990. In. 5 vols. Тут прадстаўлены шэраг артыкулаў, прысвечаных разнастайным праблемам менавіта мастацтва: музыкі, танца і г. д. Артыкулы належаць індыйскім аўтарам, яны насычаны разнастайнай інфармацыяй і дасканала ўводзяць чытача ў досыць спецыфічны матэрыял.

Індолагам-музыказнаўцам добра знаёмая кніга аднаго з найбольш аўтарытэтных знаўцаў класічнай паўночнаіндыйскай вакальнай музыкі Ваманрао Дэшпандэ (Indian Musical Traditions: an Aesthetic Study of the Gharanas in Hindustani Music. By V.H.), Deshpande. Bombay: Popular Drakashan, 1987—XIX, 222 p. Яна выйшла ў свет ужо другім выданнем і прысвечаная дэталёваму даследаванню феномена гараны — творчага накірунку, ці "школы", функцыяванне якой у межах паўночнаіндыйскай класічнай музыкі характэрна для XVIII—XIX стст.

Імкненнем пераасэнсаваць такія фундаментальныя канцэпцыі індыйскай класічнай музыкі, як рага (меладычнае разгортванне) і тала (метрарытм), па-новаму падысці да раскрыцця іх сутнасці і яшчэ больш наблізіць іх да сучаснага еўрапейца, пазначаныя адразу два выданні (Evolution of Rāga and Tāla in Indian music. By M. R. Gautam. New Delhi: munshiram Man., 1993.-XVI, 291 p. і Ragasin Indian classical music. By M. Anupam. — New Delhi: Gian Publ. House, 1989.-138 p.

Асобны даследчыцкі жанр, дарэчы, вельмі папулярны і актуальны ў навуковай традыцыі нашага часу, прадстаўлены працай французскага музыказнаўцы-індолага Патрыка Мутала, аўтара шэрагу даследа-

**— А ці памятаеце, Генрых, першыя выступленні тэатра на прыфрантавых магістралях, ва ўмовах ваеннай абстаноўкі?**

— Вядома. Гэта было ўлетку 1943 года. Наш тэатр прыехаў у толькі што вызвалены ад ворага Курск. Далей цягнік не йшоў, бо зусім блізка была лінія фронту. Чулася моцная артылерыйская кананада. Першы спектакль-канцэрт мы павінны былі паказаць у размяшчэнні штабнога пункта камандуючага Цэнтральным фронтам Ракасоўскага. Ледзь толькі наш грузавік у суправаджэнні маёра-праваднiка выехаў да месца прызначэння, як нас спынілі байцы танкавага корпуса. Відаць, нехта падказаў, што на машыне артысты, і таму франтавікі рашуча запатрабавалі: "Давайце канцэрт!" Нам нічога іншага не заставалася, як проста ў полі, сярод стагоў сена, паставіць пераносныя шырмы-дэкарацыі і распачаць сваё прадстаўленне. Трэба было бачыць, з якой цеплынёй і шчырасцю сустракалі гвардзейцы-танкісты кожную песню, кожную жартоўную сцэнку, што напаміналі ім пра даваенны мірны час.

Такім чынам да камандуючага фронтам тэатр трапіў толькі на другі дзень. На гэты раз выступалі ў лесе, у закрытым памяшканні часовага клуба, сабранага з драўляных шчытоў. Спевакам я акампанаваў на піяніна (не ведаю, адкуль яго прывезлі), што вельмі ўзрадавала мяне і ўсіх выканаўцаў. Пасля канцэрта генерал арміі Ракасоўскі прыйшоў за куліcы, каб выказаць падзяку ўсяму творчаму калектыву. Пры гэтым ён, помню, сказаў: "Добра, што на сцэне не страляюць. Мы гэта робім лепш. Затое такая вясёлая, аптымістычная праграма натхняе, уздымае настрой".

**— На вашу думку, што прымушала артыстаў у той грозны час, забываючыся на страх і небяспеку, ехаць на перадавую да франтавікоў, каб парадаваць іх лірычнай песняй, мастацкім словам?**

— Перш за ўсё — пачуццё высокага патрыятычнага абавязку перад Радзімай. Я лічу, што і мы, артысты, музыканты, спевакі, таксама мужна змагаліся супраць фашыстаў пафасам свайго мастацтва. Знаходзячыся бышчам у салдацкім страі, калектыў франтавога тэатра нярэдка выступаў у бліндажах і зямлянках на пярэднім краі абароны. Прыгадваю, як аднойчы глыбокай восенню 1943 года мы давалі канцэрт у акопах, размешчаных ад ворага на адлегласці ружэйнага стрэла. Каб не стаць жывой мішэнню і не прыцягнуць увагу фашыстаў, артысты мусілі выконваць песні, іграць скетчы, ледзьве не ўкленчыўшы, нізка прыгнуўшыся да зямлі...

Пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх захопнікаў Г. Вагнер, прадоўжыўшы вучобу на фартэпіянным факультэце Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (а пазней і па класе кампазіцыі ў прафесара А. Багатырова), неаднаразова выступаў у канцэртах разам з майстрамі беларускага мастацтва перад воінамі Савецкай Арміі. Такія канцэртныя выступленні адбыліся ў маі і кастрычніку 1945 года ў Кёнігсбергу і ў Патсдаме.

**— Як вядома, Генрых, многае з перажытага ў дні ваеннага ліхалецця знайшло потым сваё ўвасабленне ў вашай музыцы...**

— Мяне даўно хвалявала думка пра стварэнне вялікай аркестравай партытуры ў гонар вечнай памяці тых, хто загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Але толькі ў 1959 годзе я, нарэшце, здолеў ажыццявіць сваю задуму — у вакальна-сімфанічнай паэме "Вечна жывыя" для аркестра і жаночага хору. Коратка яе можна характарызаваць як рэквіем ахвярам фашызму і гімн невядомым героям. Сродкамі музычнай вобразнасці і з дапамогай знойдзенай тэмы беларускай народнай песні "Павей, ветрык" я імкнуўся адлюстраваць гвалтоўны ўгон людзей у фашысцкую няволю, іх пратэст і смерць ад рук бязлітасных забойцаў. Паэме "Вечна жывыя" было наканавана доўгае канцэртнае жыццё: яна з поспехам выконвалася ў многіх гарадах былога Саюза і за мяжой. Наступная мая паэма "Героям Брэста" (на вершы Р. Барадуліна), напісаная для аркестра, змяшанага хору, меццa-сапрана і чытальніка, услаўляе неўміручы подзвіг абаронцаў Брэсцкай цытадэлі.

Генрых Вагнер прысвяціў ваеннай тэме двухактовую оперу "Сцяжынаю жыцця" (паводле аповесці В. Быкава "Воўчая зграя"), якую ў 1980 г. паставіў наш оперны тэатр і падчас гастроляў у Маскве паказаў на сцэне Вялікага тэатра. Чацвёртая сімфонія кампазітара, прэм'ера якой адбылася летась падчас фестывалю "Беларуская музычная восень", пабудаваная на фальклорным матэрыяле. Яна нясе ў сабе пачуцці любові да роднага краю, асэнсаванне нацыянальнай годнасці беларускага народа.

Паводле слоў Г. Вагнера, мінулае, якое б не было яно цяжкае і нават трагічнае, гэта — наша гісторыя, пра што заўсёды трэба помніць. І таму незабыўныя вобразы мінулага, драматычныя падзеі бурлівага XX стагоддзя знайшлі такі натхнёны і пераканаўчы водгук у шматграннай музычнай творчасці кампазітара.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

# Досвед, даражэйшы за поспех

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна, — акурат як гэты раз. Хто б з прафесійных людзей даў веры, што Сяргей Курыленка працяглы час не быў заняты ў спектаклях... так шчыльна, як цяпер? Што адмысловая, заўважная ва ўсіх сэнсах "Дацкая гісторыя" ў пастаноўцы рэжысёра Генадзя Мушперта (тады яшчэ не галоўнага рэжысёра тэатра ў Гродне) будзе вымагаць акцёрскага паразумення, моцных сцэпак, ансамблевасці ў класічным сэнсе гэтага слова, бо трымаецца не на двух-трох асноўных выканаўцах, а на ўсіх і кожным, занятым у ёй?! Сяргей Курыленка мяркуе, што "Дацкая гісторыя" шчыра ўсхаляхнула трупу, зрабілася падзеяй для тэатра і... пунктам адліку найноўшага часу ў ім, Гарадзенскім драматычным. Гісторыя Брыдкага качаняці, якое мае крылы і лятае насуперак патрэбам, зацікаўленням, разліковаму розуму, трактуецца трупаю ды рэжысёрам як гісторыя творчай асобы: тая заўжды будзе вылучацца і ніколі не будзе дапасоўвацца або ўпісвацца... Куды б там ні было. Найноўшы час відавочна надае гэтай гісторыі аб'ёму ды вартасцяў, якія хіба толькі меліся на ўвазе, калі яе ставілі за савецкім часам....

Такім чынам, Певень у "Дацкай гісторыі" выпрабаваў усе творчыя магчымасці акцёра Сяргея Курыленкі: на сцэне спраўдзілася асоба баявітая, задзірыстая, не надта мудрая і зусім не разумная, пэўна прасталінейная, але па-свойму сумленная і нават з вымогаю справядлівасці ад свету! Асоба, якая часам нават узлятае...

Са спектакляў, якія сталіся каштоўным досведам для Сяргея Курыленкі, са спектакляў, якія вымагалі і ўзлёту, і ўзлунання, акцёр перад усімі называе пастаноўку Ганны Каменскай "Успамін". Якраз тады тэатр чарговы раз мяняў галоўнага рэжысёра, і таленавіты спектакль суправаджаўся невялікім, але прыкрым вэрхалам самасцвярджэння новага кіраўніка; не прымала яго і старэйшая частка трупы. З цеплынёй і павагай адгукаецца Сяргей Курыленка пра пастаноўку М. Гавядзінава "А ўсё-такі яна круціцца". Шмат распавядае пра "Дарагую Алену Сяргееўну", дзе сыграў ролю Валодзі, галоўнага паскудніка, завадатара адмысловага здзеку з уласнай настаўніцы, маладога дэмагога, здатнага абразіць, прынізіць, падначаліць... Але не ўсіх, як высвятляў спектакль. Высвятляў, дарэчы, ледзь не легендарна: расказваюць, як на гастролях у Вільні (працавалі ў Доме культуры, не ў тэатры нават, зала, між тым, выдавала на аншлагавую) на сцэну выбег глядач і закрычаў, што паказваць такое няможна, паказваць такое яны проста права не маюць!

У прастоі, у прыкрыя месяцы незанятасці Сяргей Курыленка працаваў са студэнтамі. Не, не звыкла выкладаў ім акцёрскае майстэрства, наадварот, падобна, што дасканаліў сваё... "Ведаеце, — удакладняў акцёр, — у Мінску нядаўна быў фестываль студэнцкіх тэатраў эстрадных мініяцюр. Гродзенскі тэатр "Канкан" атрымаў гран-пры. І летась ён таксама атрымаў гран-пры. Дык вось, гэта мой тэатр. Кірую ім студэнт, які запрасіў мяне дапамагчы. Як рэжысёра. А праца са студэнтамі (зусім не будучымі акцёрамі) — гэта перадусім паказ, каб зачапіць іхняе ўяўленне, каб праз гэта яны хутчэй зразумелі, што ад іх патрабуецца. Тым больш у сціслы тэрмін падрыхтоўкі чарговай праграмы". Так, гэта тыпова па-акцёрску: лягчэй ды трапней паказаць, як распавесці ды пераканаць у тым, што варта было б рабіць на сцэне ў ролі...

Акцёрскім уменнем, намаганнем, патрабавальнаю прафесійнасцю, дарэчы, жывы і спектакль. Пра пастаноўку рэжысёра Чарнышова "Дарагая Алена Сяргееўна" доўга дбалі самі акцёры (Харламава, Красікава, Капранаў, Шаўкаплясаў): штораз, напрыклад, паўтаралі з асвятляльнікамі светлавую партытуру перад паказам... Сяргей Курыленка з усмешкаю згадвае: гэта была першая работа, дзе ён прынцыпова высвятляў дачыненні з рэжысёрам: "Можа быць, — мовіў Чарнышоў яму ў адказ, — можа быць, ты і маеш рацыю, але рабіць будзеш тое, што я сказаў". У выніку — паўнюткія залы і... сяброўства з пастаноўшчыкам. Працяглае і далікатнае. Пасля якога, напэўна, і захацелася штокольвек высвятляць на сцэне самому? "Са студэнтамі, вядома, — пагаджаецца Сяргей. — Аднак са сваімі акцёрамі, з калегамі — не. Я іх... баюся чапаць сваёй рэжысураю". Затое Генадзь Мушперт, пачуўшы гэта выпадкова, адрэагаваў своеадметна: "Затое з Курыленкам працаваць — асалода. Ён гнуткі, разманіты, інтэлігентны, ніколі не палезе па адказ у кішэню і прапануе дзесяць варыянтаў вырашэння рэжысёру на выбар. Так што мая роля часам бывае сціплаю..."

Вядома, трэба зважыць на тэатральны жарт, тым больш жарт прафесійны. "Акцёру так важна не страціць адчування рэчаіснасці і... адчування тэатральнасці!" — адказвае на жарт Сяргей Курыленка. Але выпрацаваць іх... Як? У маленькім гарадку Смаленскай вобласці, дзе бацька аднакласніка стварыў драмгурток з "Чыпалінам", "Бурацінам" ды "Цёркіным"? Аднакласнікі, цяпер смаляне, нават у Віцебск аднойчы прыехалі, каб паглядзець на Сяргея Курыленку ў ролі на гастролях. Балазе, мовіць Сяргей, яны чыгуначнікі, скарысталіся з магчымасці бясплатнага праезду. А якім натхненнем здужаў Курыленка сцэну сыходжання ў пекла (спектакль "Камедыя..." У. Рудава паводле К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча)? Ягоны персанаж, Жыд Давідка, здымае з сябе апранашкі, выварочвае кішэні, памінае дзетачак, пакідае дзетачкам спадчыну, якая змясцілася ў кішэнях ды кішэньках... Заціты Курыленкаў Прафесар у "Разбойніку" К. Чапека пільнуе дачку ад любога ўплыву або судакранання са светам, — дзіця могуць неспадзявана абразіць, прынізіць, пакрыўдзіць. Ён не здатны навучыць яе адстойваць сябе, абараняцца, змагацца, але можа замкнуць у камфартабельных пакоях пад наглядам аканомкі... Здатны дзеля душэўнай раўнавагі маладошай ніколі не памінаць пра старэйшую, — хіба толькі прывід яе рамантычнага кахання цвеліць у ім запозненае шкадаванне... Што не навучыў супраціву, не растлумачыў дзіцяці жыццёвай небяспекі... Небяспекі паспяхова шукае на сваю галаву герой булгакаўскага "Дурнаватага Журдэна" маркіз Дарант у адметна вытанчаным выкананні Сяргея Курыленкі, — вытанчанасць гэтая зусім у духу булгакаўска-мальераўскага героя: манернасць, якая робіцца стылем жыцця, ды хваравітая хлуслівасць, — праўда, сцэнічнаму маркізу яна толькі надае абаяння...

Вось яно што! Абаянне! Абаянне акцёра і ягоных герояў. Сцэнічны досвед назапашваецца спакваля і толькі ўзмацняе гэтае абаянне досведу (вялікага і дробнага), які акцёру, паводле яго самога, даражэйшы за поспех.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

ванняў, прысвечаных рагам паўночнаіндыйскай музыкі. Тут даецца індэкс бібліяграфічных спасылак на згадкі пра рагі ў санскрыта- і хіндзімоўнай літаратуры, — праца можа быць карыснаю для прафесійных знаўцаў (Patrick Moutal. Hindustani raga-s Index: Bibliographical references on descriptions, compositions and vistara-s of Hindustani raga-s.. New Delhi: Munshiram Manoharlal, 1991).

Другі ж прыклад, які таксама можна аднесці да жанру кампендыума (альбо слоўніка-тлумачальніка), прычым разлічанага на шырокае кола чытачоў і ўгрунтаванага ў выканальніцкую традыцыю, як зазначае сам аўтар у прадмове да выдання, — кніга вядомага сучаснага індыйскага музыказнаўцы, чые працы ўжо даўно атрымалі міжнародную вядомасць, Ашока Ранадэ "Ключавыя паняцці і канцэпцыі музыкі хіндустані" (Keywords and concepts. Hindustani classical Music. By Achok Ranade. New Delhi: Promilla, 1990. — XII, 160 p.).

Апошнім часам у агульнай галіне даследаванняў музычнай культуры Індыі пазначылася асобная галіна, звязаная з адвочным у музычнай навуцы паваротам да вывучэння музыкі не толькі класічнай, але таксама іншых яе пластоў. Даследаванні такога кшталту адпавядаюць высокаму стану развіцця сучаснай этнамузыкалогіі і музычнай культуралогіі і ствараюцца нярэдка на перакрыжаванні ўласна індыйскага матэрыялу і заходніх метадаў ягонага аналізу. Адным з найбольш цікавых выданняў гэтай серыі падаецца кніга Р. Саркара "Баулы Бенгаліі" (Bauls of Bengal: in the quest of man of the heart. By R. M. Sarkar. New Delhi: Gian Publ. House. 1991.- XX, 292 p.). У ёй дэталёва апісаная і аналізуецца адна з найбольш цікавых (і, дарэчы, сусветна вядомых) рэлігійных камун, дзейнасць якой на працягу стагоддзяў разгортвалася менавіта ў Бенгаліі. Гаворка ідзе пра баулаў — рэлігійных прапаведнікаў, якія рэгулююць сваё духоўнае, сацыяльнае, творчае жыццё, карыстаючыся вельмі строгімі і шматлікімі абмежаваннямі. Гэтае унікальнае ў сваім родзе комплекснае даследаванне, заснаванае на працы, якую сам аўтар вёў, знаходзячыся непасрэдна ў адной з такіх суполак; метадалагічна ж ён абапіраецца на тэорыі і метады, выпрацаваныя школай культурнай антрапалогіі. Гэтая кніга без сумнення зацікавіць антрапалагаў, сацыёлагаў, рэлігіязнаўцаў, філосафаў, даследчыкаў фальклору, сучасных духоўных плыняў, этнамузыколагаў.

І, нарэшце, — пра перавыдадзеную ў Індыі (першае выданне выйшла ў ЗША) кнігі вядомай даследчыцы індыйскай класічнай музыкі, якая выкладае яе шмат гадоў у вядомым універсітэце Берклі (Каліфорнія) Бонні Уэйд "Музыка ў Індыі: класічныя традыцыі" (Music in India: the classical traditions. New Delhi: Munshiram). Manoharlal, 1994, — XVIII, 252 p.). Тут абагульнены і разгорнута пададзены вопыт разумення, успрымання і асэнсавання індыйскай музыкі, які на працягу нашага стагоддзя (і асабліва другой яго паловы) фарміраваўся па-за самой Індыяй, у краінах Еўропы і ЗША, дзе, як вядома, яна вось ужо колькі дзесяцігоддзяў карыстаецца вялізнай папулярнасцю і попытам. Як піша ў прадмове сама Б. Уэйд, кніга стваралася ў разліку на еўрапейца (ці амерыканца) — прадстаўніка заходняй культуры, які знаёміцца з ідэямі, прынцыпамі і музычнымі сістэмамі дзвюх асноўных традыцыяў індыйскай класічнай музыкі.

**Алена ГАРАХАВІК**

# "Лялька" — дзецям

Прэм'еру вясёлай гульні-казкі "Бука" па п'есе Міхаіла Супоніна здзейсніў тэатр "Лялька" ў Віцебску. Першымі яе гледачамі сталі хлопчыкі і дзяўчынкі, якія адпачываюць у аздараўленчых лагерах Віцебскай вобласці. Спектакль вельмі спадабаўся дзецям, якія цёпла віталі яго стваральнікаў.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА**



ЛіМ ЧАСАПІС

## На выставе — дзіцячая творчасць



**У дваццаць пяты раз адкрылася штогадовая выстава дзіцячай тэхнічнай творчасці і рамёстваў у Віцебску. Каля 200 работ прадставілі выхаванцы студый і гурткоў абласнога цэнтра. Сярод твораў юных — разьба і роспіс па дрэве, малюнкі, мадэлі катэраў, вышыўка і пано, вырабы з керамікі і іншыя.**

*На здымку: знаёмства з экспазіцыяй выставы.*

*Фота Аляксандра* **ХІТРОВА, БЕЛТА**

## Для выканаўцы — падзея, для слухачоў — адкрыццё

**Першы сольны канцэрт для выканаўцы — гэта падзея, для слухачоў — адкрыццё. Менавіта так і было ў канцэртнай зале тэатральна-музычнай гасцёўні У. Галубка, калі тут выступала студэнтка пятага курса Беларускай акадэміі музыкі Laліта Каласоўская (сапрана). Праграма канцэрта маладой спявачкі складалася з твораў, розных па стылі і жанры, і гэта дало магчымасць выканаўцы раскрыць сваё творчае аблічча досыць поўна і ярка.**

**Маладая вакалістка прадэманстравала сваю прафесійную падрыхтаванасць. Прыгожы голас з шырокім дыяпазонам і яркай тэмбравай палітрай, тонкае адчуванне музычнага вобраза і артыстызм, — усё гэта дапамагло ёй перадаць настрой і характар выканаых твораў.**

**"Выканаўчае майстэрства Лаліты Каласоўскай заслугоўвае пэўнай увагі, — так характарызуе сваю вучаніцу дацэнт Акадэміі музыкі Любоў Каспорская. — У маладой спявачкі цудоўны голас, якім яна добра валодае і які здатны тонка перадаць нюансіроўку вакальнага твора. Да таго ж, яна здольная актрыса. Але, у той жа час, даволі сціплая і высокапатрабавальная да сябе, і гэта, у пэўнай ступені, замінала ёй раней больш поўна раскрыць свае творчыя здольнасці".**

**У выкананні Лаліты Каласоўскай мы пачулі рамансы і арыі з опер Моцарта і Чайкоўскага, Вердзі і Глінкі, Гліэра і Касэнкі. У канцэрце прагучалі і малавядомыя творы: Раманс Сен-Санса "Навошта пасвіць авечкі", песні Фрымля і Вольфа. Прыемна адзначыць, што маладая спявачка здолела пранікнуць у настрой лірычных вобразаў і з тонкім адчуваннем перадаць яго ў вакальнай інтэрпрэтацыі. І ў гэтым, у пэўнай ступені, ёй дапамагла другая ўдзельніца канцэрта — піяністка Таццяна Ткачонак, якая ў той вечар была дастойным партнёрам Лаліты Каласоўскай. Публіка шчыра вітала выканаўцаў.**

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ, навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага музея гісторыі тэатра і музыкі Беларусі**

ВІНШУЕМ!

# Бацькоўскаму краю адданы

Споўнілася 70 гадоў Савелію Антонавічу Акулічу — мастаку-афарміцелю, графіку, мастацтвазнаўцу, краязнаўцу. Многія, пэўна, памятаюць ягоную кнігу "Лагойск" (1979, з Б. Сасноўскім), шматлікія артыкулы пра сам Лагойск і Лагойшчыну, яе славутых людзей, якія публікаваліся ў 60—80-я гады. Гэта цяпер, калі ўжо шмат напісана пра вядомых людзей гэтага краю, чытач ведае пра іх даволі многа. А тады працы С. Акуліча былі адкрыццём многіх старонак іхніх біяграфій, творчых дасягненняў, іх укладу ў беларускую навуку, гісторыю, мастацтва, у духоўную культуру свайго народа.

У творчай спадчыне С. Акуліча вылучаюцца некалькі галоўных тэм. Найперш гэта матэрыялы пра зямлю яго бацькоў, ды і яго самога, "беларускую Швейцарыю" — Лагойшчыну, людзей гэтага кутка Беларусі. З душэўным узрушэннем, з гонарам за землякоў піша ён пра даследчыкаў матэрыяльнай і духоўнай культуры роднага краю, археолагаў, гісторыкаў, фалькларыстаў і этнографаў, краязнаўцаў, заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі братоў Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў з Лагойска. Цікавымі фактамі, расшуканымі ў бібліятэках і архівах Мінска, Вільні, Львова, Масквы, Ленінграда, вылучаюцца артыкулы С. Акуліча пра лагойскі музей братоў Тышкевічаў, дзе яны сабралі калекцыі беларускіх старажытнасцей, вялікі збор мастацкіх твораў замежных і мясцовых мастакоў, багатую бібліятэку, дзе былі унікальныя ўзоры старажытнага беларускага кнігадрукавання. Частку гэтых экспанатаў браты пасля ахвяравалі Віленскаму музею старажытнасцей, які заснавалі ў 1855 г. Надзвычай цікава было даведацца, куды ж падзеліся пасля задушэння паўстання 1863—1864 гг. экспанаты (іх было сабрана каля 66 тысяч) Віленскага музея старажытнасцей. Аказваецца, было вывезена каля 800 экспанатаў: барэльефы Р. Слізеня, аўтапартрэт Я. Рустэма, шматлікія творы "тышкевічыяны", гравюры, партрэты прыватных асоб, 203 карціны на гістарычныя сюжэты, цэхавы сцяг Вільні і многае іншае. Значная частка экспанатаў засталася ў Вільні і цяпер захоўваецца ў Гісторыка-краязнаўчым музеі Літвы. Некаторыя экспанаты рознымі шляхамі трапілі ў Львоў і зберагаюцца там. У 1919—1920 гг. шмат твораў з лагойскага музея было вывезена ў Варшаву. У 1864—68 гг. К. Тышкевіч перадаў Румянцаўскаму музею ў Маскве (цяпер Расійскі гістарычны музей) шматлікія экспанаты, а таксама ў музеі Польшчы. На жаль, цяпер ніякія праграмы "Вяртанне" не ў стане вярнуць іх нашаму народу.

Вельмі пазнавальны матэрыял сустракаў чытач у публікацыях С. Акуліча пра пісьменнікаў-землякоў Я. Купалу, З. Бядулю, Ядвігіна Ш., Л. Родзевіча, Н. Гілевіча, І. Пташнікава і інш., якія тут нарадзіліся, жылі, тварылі. Расказаў ён і пра наведванне ядвігінскай Карпілаўкі ў 1916 г. М. Багдановічам, калі класік нашай літаратуры жыў у Мінску і разам з Зоськай Верас прыязджаў у карпілаўскі дзіцячы прытулак, якім кіравала дачка Ядвігіна Ш. Ванда. Шмат невядомага даведаліся чытачы і з артыкулаў С. Акуліча пра Ігната Шыдлоўскага, пісьменніка, перакладчыка, рэдактара віленскіх польскіх часопісаў, таксама ўраджэнца Лагойшчыны, які на пачатку XIX ст. публікаваў беларускія народныя песні, сабраныя ў 1800—1802гг. яго бацькам у Гаенскай парафіі.

Яшчэ адна ўлюбёная тэма С. Акуліча — Смалявіччына і наваколле. Тут ён нарадзіўся на хутары Сакалі паблізу вёскі Антанопаль, дзе жыў з 1940 г. з бацькамі, тут скончыў у 1946 годзе сямігодку.

З замілаваннем піша ён пра Смалявічы, іх старажытную гісторыю, іх навейшыя дзеі пра славутых землякоў са Смалявіччыны: акадэміка Г. Ціхава — астранома з сусветнай славаю, астрабатаніка, даследчыка Марса; акадэміка В. Купрэвіча — беларускага батаніка і фізіёлага раслін, у 1952—69 гг. прэзідэнта Акадэміі навук Беларусі; археолага А. Ляўданскага, лінгвіста, этнографа, географа Э. Пякарскага, член-карэспандэнта, ганаровага акадэміка АН СССР, аўтара "Слоўніка якуцкай мовы".

Нарэшце, і гэта, відаць, адна з магістральных тэм С. Акуліча — даследчыка — аналіз шляхоў развіцця беларускай кніжнай графікі XVI—XIX стст., мастацтва беларускай кнігі, яе афармлення, пачынаючы ад рукапіснай, а таксама ад першых друкаваных выданняў сльннага нашага першадрукара Францішка Скарыны, яго шрыфтоў, арнаментаў, ксілаграфій. Калі працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі, С. Акуліч удзельнічаў у мастацтвазнаўчых экспедыцыях на Магілёўшчыне, Гомельшчыне, Міншчыне, Гродзеншчыне і інш. Сабраныя матэрыялы ўваходзілі ў ягоныя навуковыя даследаванні, рэцэнзіі, артыкулы. Дасюль помняцца яго артыкулы пра беларускія габелены, творчасць адмысловага майстра беларускага партрэта Валенція Ваньковіча, нясвіжскага гравёра Гершку Ляйбовіча, які рыхтаваў унікальны альбом роду Радзівілаў, і іншыя ягоныя мастацтвазнаўчыя працы, што друкаваліся ў навуковых зборніках, газетах "Літаратура і мастацтва", "Звязда", "Чырвоная змена", "Голас Радзімы", часопісах "Помнікі гісторыі і культуры Беларусі", "Беларусь", "Маладосць" і інш.



Пішучы пра пісьменніка-земляка Івана Пташнікава, у адным са сваіх артыкулаў С. Акуліч цытуе вядомыя радкі В. Дуніна-Марцінкевіча:

***Што мне пекны Парыж,***
***Рым прыгожы і слынны,***
***Што швейцарскія горы, старыя Афіны,***
***Што мне Вена, Мадрыд,***
***што мне Лондан туманны,***
***Больш за ўсё я бацькоўскаму краю адданы!***

Гэтыя радкі можна аднесці і да яго са-мога — сціплага энтузіяста, захопленага краязнаўца і мастака, даследчыка, які нясе ў сваёй душы шчырую любоў і пашану да свайго краю, яго людзей, яго гісторыі і культуры.

**Янка САЛАМЕВІЧ**

# Як дзень пасля ночы...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

таму па іх загадзе з'езд быў салдатамі разагнаны. Аднак працэс адраджэння беларускай дзяржаўнасці спыніць было ўжо немагчыма.

У сакавіку 1918 г. была абвешчана незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. А 1 студзеня 1919 г. у процілегласць БНР тыя ж бальшавікі, што не далі ўтварыць аўтаномную Беларускую Савецкую Рэспубліку, вымушаны былі абвясціць аб утварэнні Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусі. Аднак ужо ў лютым 1919 г. па рашэнні ЦК РКП(б) Беларускую ССР ліквідуюць, аб'яднаўшы яе з Літвой у адзіную Літоўска-Беларускую Савецкую Рэспубліку, якая затым таксама была зліквідавана.

Аднак, затрымаўшы працэс адраджэння беларускай дзяржавы, летам 1920 г. ЦК РКП(б) вымушаны быў зноў дазволіць утварэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі.

31 ліпеня 1920 г. была выдадзена "Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі", у якой гаварылася, што "пры дапамозе доблеснай Расійскай Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі... і ў поўнай згодзе з Чырвонай Арміяй і Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Заходняга фронту" рабочыя і сяляне "абвяшчаюць незалежную Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусі".

Тэрыторыя Беларускай ССР у 1920—1923 гг. складалася ўсяго з 6 паветаў былой Мінскай губерні, бо Заходняя Беларусь была акупавана Польшчай, а ўсходнія раёны Беларусі заставаліся ў складзе РСФСР. Хаця БССР у 1920 г. абвяшчалася "незалежнай", але фактычна яна заставалася на правах аўтаноміі ў складзе РСФСР.

Пасля заключэння 16 студзеня 1921 г. дагавора аб ваенным і гаспадарчым саюзе з РСФСР рэспубліка заняла "прамежкавую прыступку" паміж аўтаноміяй і дагаворнай саюзнай рэспублікай. Пасля ўтварэння СССР 30 снежня 1922 г. Беларуская ССР стала раўнапраўнай саюзнай рэспублікай, але вельмі хутка яе прававое становішча ў складзе СССР было значна паніжана. Разам з тым у 1924 і 1926 гг. у склад Беларускай ССР былі вернуты многія ўсходнія раёны Беларусі былых Віцебскай і Гомельскай губерняў. У 1939 г. у склад Беларускай ССР была вернута Заходняя Беларусь, але без Вільні і Віленскай акругі, якія Сталін падараваў летувісам. Аб'яднанне беларускіх тэрыторый у складзе Беларускай ССР наблізіла яе выхад на самастойны гістарычны шлях.

У 1941 г. гітлераўская Германія захапіла Беларусь і зліквідавала Беларускую дзяржаву, тым самым хочучы павярнуць ход гістарычнага працэсу ў адваротным накірунку, але пацярпела поўнае паражэнне, а Беларуская дзяржава працягвала сваё развіццё. У лютым 1944 г. БССР атрымала права самастойна ўдзельнічаць у міжнародных зносінах, што дазволіла рэспубліцы ўдзельнічаць у працы па ўтварэнні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, а потым і ў рабоце міжнародных арганізацый.

Падчас так званай хрушчоўскай "адлігі" 1954—1964 гг. правы Беларускай ССР былі значна пашыраны. Пасля адхілення Хрушчова ад улады быў узяты курс на абмежаванне правоў рэспублік і ўмацаванне бюракратычнай цэнтралізацыі, што ў сваю чаргу прывяло да застою ў эканоміцы і заняпаду ўсёй сістэмы.

Пачатак перабудовы бюракратычна цэнтралізаванай сістэмы і падрыхтоўка новага Саюзнага дагавора выклікалі страх у найбольш зацятых сталіністаў, якія ўтварылі змову супраць прагрэсіўных пераўтварэнняў і абвясцілі аб пераходзе ўсёй улады да Дзяржаўнага Камітэта па надзвычайным становішчы (ГКЧП). Аднак іх спробы затрымаць ход гістарычных падзей закончыліся поўным правалам, у выніку чаго развалiўся ўвесь Савецкі Саюз, і ўсе саюзныя рэспублікі абвясцілі аб сваім дзяржаўным суверэнітэце і поўнай незалежнасці.

Прыведзены агляд гістарычнага шляху Беларускай дзяржавы дазваляе зрабіць выснову, што ў цяперашні час наша дзяржава знаходзіцца ў пачатковай стадыі свайго ўзвышэння і яе далейшы шлях не залежыць ад волі або пажаданняў тых ці іншых людзей, палітычных дзеячаў. Сутнасць заключаецца толькі ў тым, што хто разумее агульны ход гісторыі і дзейнічае ў тым жа накірунку, заслугоўвае пашану, а калі гэта ўплывовы кіраўнік, то ён нават можа стаць нацыянальным правадыром; а хто дзейнічае насуперак ходу гісторыі, той можа пацярпець паражэнне і апынуцца ў становішчы "жабы ў каляіне", якая намервалася перакуліць воз гісторыі.

Графічна гістарычны шлях беларускай дзяржаўнасці можа быць пададзены ў наступным выглядзе:




З гэтага графіка відаць, што выхад Беларусі на сусветны гістарычны шлях такі ж заканамерны працэс, як і многіх іншых нацыянальных дзяржаў, што выйшлі на самастойны гістарычны шлях раней за Беларусь (Балгарыя, Польшча, Фінляндыя, Чэхаславакія), або нават пазней (Нігерыя, Харватыя, Македонія), і ён не можа быць павернуты ў адваротным накірунку.

Усё гэта сведчыць аб тым, што адраджэнне беларускай дзяржавы — гэта непазбежны агульнагістарычны працэс, які не залежыць ад волі людзей. Гэты ход гісторыі ідзе з такой жа паслядоўнасцю, як дзень пасля ночы, або вясна пасля зімы.

# Мужчыны, жанчыны і ўлада

## У РАМКАХ МІЖНАРОДНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ЖАНОЧАГА КІНО, ЯКІ НЯДАЎНА ЗАКОНЧЫЎСЯ, АДБЫЎСЯ "КРУГЛЫ СТОЛ" ПАД НАЗВАЙ: "ЖАНЧЫНА І МАРАЛЬНАСЦЬ У КАНТЭКСЦЕ ПЕРАХОДНАГА ПЕРЫЯДУ".

АДНА З АРГАНІЗАТАРАЎ фестывалю Эла Мілава сказала: "Тыя, хто робіць кіно, вельмі зацікаўлены жыццём, а значыць, ім неабходны стасункі, сустрэчы з людзьмі мастацтва, навукі, дзяржаўнай і грамадскай практыкі. У крызісныя перыяды сацыяльных зрухаў мяняецца шкала грамадскіх каштоўнасцей: у сённяшнім хаосе ўжо варыцца, канцэнтруецца новае разуменне асноў чалавечага існавання. Магчыма, жанчына больш адчувальная да новых тэндэнцый. Ці не жанчына павінна ўтрымаць той узровень інтэлекту і гуманізму, які дасць чалавецтву магчымасць выжыць?"

Каб пашукаць адказ на гэтае пытанне, у будынак Саюза кінематаграфістаў прыйшлі не толькі беларускія і замежныя ўдзельніцы фестывалю, але і пісьменніца Святлана Алексіевіч, эканаміст і палітык Людміла Гразнова, гісторык Ірына Чакалава, а ў ролі вядучай выступіла сацыёлаг Алена Гапава.

Замежныя ўдзельніцы фестывалю добрасумленна спрабавалі ўнікнуць у сутнасць праблем, якія абмяркоўваліся, — вострых і хваравітых для нас, і настолькі ж архаічных і малазразумелых для жыхарак краін са стабільнай дэмакратыяй.

Па словах С. Алексіевіч, самалёт, на якім прыляцелі да нас замежныя госці, аказаўся машынай часу, што адкінула іх на энную колькасць гадоў назад.



*Фота Віт. Амінава*

### СПАЧАТКУ — ПРА ЖАНЧЫН

На думку Алены Гапавай, пол адыгрывае велізарную ролю ў пераасэнсаванні нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў, якія церпяць пастаянную душэўную пакуту і задаюць сабе хваравітыя пытанні: хто мы, адкуль, дзе мы? Трагічнасць сітуацыі ў тым, што на стадыі канструявання нацыі мы пазбаўлены (ці пазбавіліся па ўласнай віне) палітычных спосабаў нацыянальнай рэалізацыі. Застаецца міфалагізаваць мінулае, а гэта глеба няўстойлівая.

Мы атрымалі незалежнасць без уласнага намагання. Нашы мужчыны амаль прайгралі Беларусь і ў глыбіні душы адчуваюць уласную слабасць. Больш за тое: іх слабасць бачаць і жанчыны. Нездарма на адной з жаночых дэманстрацый неслі плакат: "Мужыкі, падыміцеся з каленяў! Мы любім герояў, а не халуёў!"

А. Гапава перакананa: каб аднавіць самапавагу, нашаму мужчыне хочацца аднавіць традыцыйнае патрыярхальнае размеркаванне роляў: моцны мужчына ў пары са слабой жанчынай. Што цікава, аналагічную тэндэнцыю мы бачым і ў Расіі: імперыя распалася, неімперскай нацыянальнай ідэалогіі не выпрацавана, у выніку — тое ж пачуццё паражэння і надзея на "моцнага мужыка". Нездарма ў час перадвыбарчай агітацыі Мікіта Міхалкоў сказаў: "Ельцын — мужык, а Расія — назоўнік жаночага роду".

На афіцыйным узроўні ўсё больш прапагандуецца вяртанне жанчыны ў сям'ю, а ў якасці галоўнай жаночай грамадзянскай задачы прапаноўваецца быць біялагічнай вытворцай нацыі. Пры гэтым грамадства, на жаль, не ўспамінае, што ў краінах, дзе стабільна дзейнічаюць дэмакратычныя інстытуты, не лічаць мужчынскую сілу і жаночую слабасць асновай існавання нацыі — там дамінуе канцэпцыя грамадзянства для мужчын і жанчын як паўнапраўных членаў грамадства. У нас жа жанчына-маці — вось увасабленне велічы цывілізацыі, пік гармоніі прыроды, мадонна з палотнаў апявальніка яснавокіх і пышнацелых славянак Аляксея Кузьміча. Нездарма наш дарагі прэзідэнт, наведаўшы выставу жывапісца, сказаў нешта накшталт наступнага: шлях славянаў да ачышчэння — пакланенне перад жанчынай-маці.

Як бачым, ідэалогія братняга яднання і панславізму цудоўна суседнічае з кананізацыяй жаночай слабасці, цярпення, сціпласці, чысціні. А калі жанчына — сімвал нацыі, то вышэйпералічаныя, прыемныя для кожнага дыктатара дабрачыннасці распаўсюджваюцца на ўсю краіну. Узяўшы на ўзбраенне гэтую няхітрую канцэпцыю, зручна маніпуляваць жанчынай, патрабуючы ад яе цярпення і паслушэнства без межаў, усіх і ўсялякіх ахвяр у імя дзяржавы. І вось ужо выгнаная з працы, даведзеная да жабрацтва жыхарка Беларусі робіць усё, што хоць часткова брала на сябе савецкая сціплая служба быту: мые, шые, беліць, клеіць, толькі яшчэ боты не шые, — усё гэта моўчкі і пакорліва.

Але не забудзем вядомы выраз: рабыня нараджае раба! Дык ці можа зарыентаваная на пакорлівасць жанчына выхаваць барацьбіта?

У масе сваёй жанчыны па-ранейшаму ўяўляюцца як пасіўны аб'ект, як палітычна маргінальная група, закліканая абслугоўваць мужчынскую кар'еру. Возьмем савецкія стэрэатыпы, памножым на традыцыйную патрыярхальнасць і — забудзь, жанчына, пра роўныя магчымасці!

Гэта арыгінальная, але, канешне ж, не бясспрэчная канцэпцыя выклікала шэраг бурных каментарыяў.

Паэт Валянцін Тарас, у прыватнасці, не згодны з правамернасцю вычлянення мужчынскай і жаночай духоўнасці. Тым больш, што жанчына ўсё часцей заяўляе пра сябе як самастойная і свабодная асоба.

### ДАЛЕЙ — ПРА ЖАНЧЫН І НАРОД

"Свабоду, дэмакратыю і фемінізм нельга завезці да нас з Захаду як швейцарскі шакалад", — зноў працытуем С. Алексіевіч. Адносна перамен, якія ў нас адбываюцца, на Захадзе ёсць ілюзіі, бо не трэба думаць, што існуе вялікая бездань паміж жыццём да і пасля перабудовы. Мы бачым больш чаканняў, чым рэальных перамен.

"Як гуманітарый я адчуваю сябе бяссільным чалавекам", — сказала Алексіевіч. Кніга "Зачараваныя смерцю" напісана пасля двух гадоў перабудовы, яна — сведчанне, што людзі не разумелі і не прымалі таго, што адбываецца. І вельмі часта смерць, суіцыд рабіліся пратэстам супраць нарастаючага адчування хаосу ва ўмовах перавернутага свету.

Адна з апытаных жанчын прызналася: калі б я не засынала, як стомленая жывёліна, я пачала б задаваць сабе пытанне: чаму я, чаму **мы** так жывём?

Пераход ад калектыўнага да ўласнага цяжка даецца былому савецкаму чалавеку, ён не ўмее заглыбіцца ва ўнутраны свет і жыць "унутры сябе".

Нашы гістарычныя шляхі, вайна таксама не асэнсаваны з пункту гледжання жанчыны, няма асобнай жаночай гісторыі. У Другой сусветнай вайне ўдзельнічала больш за мільён жанчын, але калі пісьменніца прыйшла на нейкі завод, каб атрымаць дадзеныя пра франтавічак, яна пачула ад дырэктара: "А што, у нас мужчын не хапае?"

Пісьменніца гаварыла пра тое, што кожная новая кніга даецца ўсё цяжэй. І ўсё-такі яна перакананa: неабходна працаваць, бо інтэлігенцыя нясе адказнасць за свой народ і не мае права назіраць за ўсім, што адбываецца, збоку.

Характэрна, што ўдзельніцы дыскусіі імгненна забылі пра сябе і пра ўласныя праблемы, як толькі гаворка зайшла пра народ. Што можа канкурыраваць з гэтай тэмай! О, народ! Народ, які не жадае слухаць, цаніць і паважаць сваю эліту. Які галасуе не за тых, які шукае вінаватых за ўласнае жабрацтва сярод загнанай у кут апазіцыі. І бедная інтэлігенцыя больш за сотню гадоў, з часоў расійскай імперыі (адзін з рускіх комплексаў, якім мы заразіліся) прадаўжае кідацца ад абагаўлення народа да поўнай пагарды да гэтага "натоўпу", які прапіў мазгі".

"Далоў народ!" — плакат, з якім на вуліцы Масквы выходзіла Навадворская — самы яскравы прыклад крайняй стадыі інтэлігенцкага расчаравання, выказанага хлёстка, з рускім размахам, які не ведае меры.

Беларуская эліта, вядома ж, больш талерантная. Але што хаваць, інтэлігенцыю крайне засмучае наш "несвядомы" народ, які, падобна пеўню з байкі, адкінуў жамчужнае зерне незалежнасці і пакорліва, паныла дзяўбе той убогі корм, што кідае яму ўлада.

І гэтым разам на адрас жыхароў Беларусі прагучаў шэраг жорсткіх, але зусім справядлівых характарыстык з вуснаў парламентарыя Людмілы Гразновай у яе развагах на тэму — эканоміка і духоўнасць. Не прывык наш народ і не жадае сумленна працаваць, пры гэтым ірацыянальна ставіцца да сябе, адчуваючы гіпертрафічныя настальгію і беспадстаўныя надзеі. Не нацэлены беларус на дзяржаўнае вырашэнне праблем, замест гэтага перажывае (дакладней — перажоўвае) мінулае і спадзяецца на будучыню, што з поспехам эксплуатуюць асобы пры ўладзе.

На шчасце, Людміла Гразнова не заклікала байкатаваць народ, мяркуючы, што калі людзі апынуліся ў цёмным пакоі, сталі ад беспрасветнасці злымі і агрэсіўнымі, то абавязак палітыка, інтэлігента пастарацца іх з цемнаты вывесці. І невыпадкова гаворка зноў вярнулася да тэмы — інтэлігенцыя і ўлада.

Маральны выбар патрабуе смеласці і пэўнай гатоўнасці да ахвяр. Але не кожны мае мужнасць выйсці на вуліцу перад шчытамі АМОНа. І няма ў цяперашняй інтэлігенцыі родавых маёнткаў. Затое ва ўсіх ёсць дзеці, якіх, натуральна, трэба карміць. Але ці азначае гэта, што можна з салодкімі ўсмешкамі танцаваць пад фанаграму на "дажынках" і іншых сходах "лукамола"? Дзе мера і межы? Дзе грань паміж мастацтвам для мастацтва, мастацтвам супраць таталітарызму і мастацтвам у ролі дзяўчынкі па выкліку?

### СВАБОДА Ў СВАБОДНЫМ ГРАМАДСТВЕ

Украінскі кінакрытык Людміла Лемешава расказала пра вопыт кіно ў часы хрушчоўскай адлігі і замаразкаў, якія хутка паследавалі. Парадаксальна, але гэты вопыт можа падацца карысным і для нас, жыхароў "адмарожанай" краіны.

Людміла Лемешава перакананa, што 60-я гады ў былым СССР былі святам вызвалення ад татальнага страху і хлусні, і эйфарыі яго хапіла на некалькі дзесяцігоддзяў.

У процівагу афіцыйнаму кінематографу, які абслугоўвае ўладу, на Украіне пачалося адраджэнне нацыянальнай культурнай традыцыі, вызваленне думкі з паўвекавога палону. У фільмах Параджанава, Кіры Муратавай, Рамана Балаяна і іншых даследуецца духоўны свет чалавека ў яго непаўторнасці і індывідуальнасці.

Ідэалогіі гвалту, лічыць Л. Лемешава, можна супраціўляцца па-рознаму. Ёсць гучнае супраціўленне, адкрытае і актыўнае, ёсць ціхае, як бы пасіўнае — унутранае. Для другога — гераічная воля зусім неабавязковая. Сутнасць паэтыкі "дзяцей адлігі" ў "натуральнасці і легкадумнасці, як тайнай свабодзе, у агідзе на эстэтычным узроўні да хлусні і фальшу". Пры гэтым апазіцыя інтэлектуальная, маральная і эстэтычная можа стаць стылем жыцця на гады і дзесяцігоддзі. А значыць, пазбягаючы гучных дэкларацый, можна карпатліва працаваць, адваёўваючы ў таталітарызму "свабодную прастору ў душы", што і дазволіць у канчатковым выніку вывесці людзей з "цёмнага пакоя".

**Таццяна ПАЛЯКОВА**

## Жыве ў Глуску мастак



**У мастацкім салоне Глускага РДК прадстаўлена персанальная выстава самадзейнага мастака Мікалая Ячмянькова.**

**На выставе можна ўбачыць ілюстрацыі да твораў К. Крапівы, М. Скрыпкі, Э. Валасевіча. Звяртае на сябе ўвагу серыя малюнкаў "Зямля і людзі".**

**Трывожаць памяць графічныя працы М. Ячмянькова на тэму Айчыннай вайны. Востры малюнак, кантрасты святла і ценяў ствараюць яркія эмацыянальныя вобразы, экспрэсіўна перадаюць настрой таго суровага часу.**

**На выставе прадстаўлена больш за сотню прац самадзейнага мастака.**

**Васіль ЛАЎРЫНОВІЧ**

## Адлюстраванне жыцця



**У музеі прыватных калекцый у Віцебску адкрылася выстава графікі Алены Бабарыкі "Адлюстраванне". Віцябчанам яна знаёма не толькі як мастак. Алена — лаўрэат пяці конкурсаў выканаўцаў польскай песні.**

*На здымку: Алена Бабарыка на адкрыцці выставы.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Балтыйскі бераг, берасцейскі дзед...

**На Балтыйскі міжнародны фестываль флатоў "Ветразі Надзеі", прысвечаны 300-годдзю Вялікага Пасольства Пятра Вялікага, быў запрошаны нядаўна Берасцейскі абласны тэатр лялек. Свята адбывалася ў Калінінградзе. Тэатр паказваў "Дзеда і Жорава" паводле В. Вольскага (на адкрытай пляцоўцы) і "Машаньку і Мядзведзя" паводле В. Швэбергера. І першую і другую пастаноўку прыхільна сустрэлі балтыйскія гледачы.**

## У запоўненай зале

**Творчы вечар паэта Леаніда Дранько-Майсюка і кампазітара Анатоля Мядзведзева адбыўся днямі ў Брэсцкім тэатры лялек. У запоўненай зале, шчыра, прыязна доўжылася сустрэча — з песнямі названых аўтараў, з зацікаўленай гутаркай, з новымі знаёмствамі ды заўсёднай у такіх выпадках раздачай аўтографаў. Здаецца, за час усяе вечарыны сталічны госць ды мясцовы музыка зусім не стаміліся...**

**І. Х.**

БЫЛО...

УРАДЖЭНЕЦ Беларусі, вядомы гісторык, этнограф, фалькларыст прафесар Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі пераехаў з Баку на пастаяннае жыхарства ў Мінск увосень 1925 г. У публікацыях аб вучоным адзначаецца, што запрасіў яго рэктар Белдзяржуніверсітэта У. Пічэта, яго вучань. У. Пічэта шмат увагі надаваў таму, каб сабраць у першай навучальнай установе рэспублікі як мага больш беларускіх навукоўцаў, якіх рэвалюцыя і вайна раскідалі па розных кутках краіны, і такую прапанову сапраўды мог унесці. Але ўсё ж больш дакладным здаецца сцвярджэнне кіраўніка таварыства гісторыкаў-марксістаў В. Сярбенты ў працы "Гісторыя Беларусі" (1931 г.), што запрашэнне прыслаў тагачасны намеснік наркома асветы БССР... так толькі ўяўлялася. Як было прынята ў тыя гады, праца М. Доўнар-Запольскага "Гісторыя Беларусі", якую вучоны вельмі жадаў бачыць надрукаванай, была перададзена на заключэнне палітычнаму рэдактару выдавецтва В. Сярбенту. В. Сярбента як ніхто іншы падыходзіў для выканання гэтай задачы, бо адначасова працаваў намеснікам загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б. Уражанне ад кнігі склалася такое, што рэцэнзент палічыў "сваім партыйным абавязкам" неадкладна паставіць пытанне аб магчымасці далейшай працы яе аўтара ў Белдзяржуніверсітэце на разгляд камісіі ЦК КП(б)Б па інтэлігенцыі, аб кнізе і лёсе яе аўтара наогул у Беларусі — на абмеркаванне бюро новленном порядке; размножив, разослать членам и кандидатам Бюро, председателю ЦКК.

3. Считать необходимым подвергнуть широкой критике книгу Довнор-Запольского в целях развертывания идеологической борьбы против национального демократизма.

Поручить тов. Сербента внести предложения по этому вопросу на следующее заседание бюро 4 февраля".

З гэтага дня і да ліпеня 1926 г. пытанне аб Доўнар-Запольскім стала прадметам штомесячных абмеркаванняў у бюро ЦК КП(б)Б. 4 лютага, у выкананне даручэння, дадзенага Сярбенту, прымаецца ругое рашэнне:

# Выгнанне

### ДА 130-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ М. ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКАГА

мове на красавіцкім (1931 г.) аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б аб тым, што запрашэнне паслаў тагачасны намеснік наркома асветы БССР А. Баліцкі, і менавіта ён абяцаў вучонаму хутка выдаць яго працу "Гісторыя Беларусі" ў Белдзяржвыдавецтве, падначаленым наркамату асветы. Той жа Сярбента ў рэцэнзіі, напісанай на гэтую кнігу ў канцы студзеня — пачатку лютага 1926 г., паказвае, што абяцанне выдаць "Гісторыю Беларусі" было галоўнай прычынай пераезду М. Доўнар-Запольскага ў Мінск.

Як бы там ні было, у кастрычніку 1925 г. вучоны быў зацверджаны на пасадзе прафесара на кафедрах гісторыі Беларусі і гісторыі народнай гаспадаркі Белдзяржуніверсітэта, а 25 кастрычніка прачытаў першую адкрытую лекцыю, якую і студэнты, і выкладчыкі ўспрынялі з вялікай цікавасцю і захапленнем. Адначасова, з улікам яго ведаў і вопыту, М. Доўнар-Запольскі быў прыцягнуты да працы ў Дзяржплане БССР, потым — у Археаграфічнай камісіі Інстытута Беларускай культуры. Белдзяржвыдавецтва пачало падрыхтоўку да выдання яго кнігі, якой было аддадзена шмат гадоў працы.

Здавалася, усё складвалася як нельга добра. Пасля доўгіх бадзянняў у трохкутніку Кіеў—Харкаў—Баку, згубы двух сыноў на франтах грамадзянскай вайны ў Чырвонай Арміі, сямейных нeладоў вызначыліся, нарэшце, месца жыхарства і працы на радзіме, перспектывы навуковай і выкладчыцкай дзейнасці, знойдзены душэўны спакой. Але ЦК КП(б)Б.

Абмеркаванне на закрытым пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б адбылося 28 студзеня 1926 г. Дакладваў В. Сярбента. Галоўным у дакладзе быў вывад, які затым атрымаў разгорнутае абгрунтаванне ў рэцэнзіі, падпісанай ім 6 лютага: "прадстаўленая да друку праца праф. Доўнар-Запольскага з'яўляецца больш ці менш паслядоўна аформленым і абгрунтаваным эканамічным фактарам пунктам гледжання нацыянал-дэмакратызму, па-першае, і па-другое, мяркуючы па цытатах, прыводзімых ніжэй, памылковым асвятленнем гістарычных фактаў і свайго роду здзекам над практычным правядзеннем дыктатуры пралетарыяту і савецкай улады". Таму, па заключэнні дакладчыка і рэцэнзента, "нельга даць магчымасць беларускаму нацыянал-дэмакратызму атрымаць ідэалагічнае афармленне. Кнігу нельга дазволіць да друку".

Бюро ЦК КП(б)Б прыняло па кнізе наступную пастанову:

"1. Признать, что книгу Довнор-Запольского издавать нельзя, как выражающую позицию белорусского национального демократизма и в корне искажающую историю Белоруссии.

2. Рукопись взять в собственность Белгиза, юридически оформив, передать на хранение в Бюро секретариата, тов. Кавцевичу поручить принять у тов. Сербента рукопись для использования в порядке секретного материала в уста-

"Слушали: О комиссии вокруг "теории" Довнор-Запольского.

Постановили: 1. Поручить тов. Сербента написать в газеты серии статей в течение двух месяцев для систематического опровержения белорусского национал-демократизма по книге Довнор-Запольского.

2. В течение ближайших 2-х месяцев обязать тт. Червякова, Адамовича, Чарота, Гессена и Оршанского поместить в газетах статьи на темы по личному выбору из книги Довнор-Запольского, согласовав с тов. Сербента, для опровержения".

Такім чынам, для крытыкі навуковай працы вучонага прыцягваліся шырокавядомыя ў рэспубліцы партыйныя работнікі: старшыня ЦВК БССР А. Чарвякоў, загадчык аддзела друку ЦК КП(б)Б А. Адамовіч, рэдактар газеты "Савецкая Беларусь" пісьменнік Міхась Чарот (М. Кудзелька), загадчык АПА ЦК КП(б)Б С. Гесэн, рэдактар газеты "Октябрь" (выходзіла на яўрэйскай мове) Б. Аршанскі. У гэты ж дзень ЦК КП(б)Б зацвердзіў даклад Камісіі ЦК па інтэлігенцыі. Асобным пунктам у ім фракцыі Наркамасветы даручалася зняць Доўнар-Запольскага з працы ў БДУ.

На пачатку сакавіка паведамленне аб Доўнар-Запольскім на зачыненым пасяджэнні сакратарыята ЦК КП(б)Б (зацвярджалася бюро ЦК) зрабіў загадчык АПА і член бюро ЦК С. Гесэн. Прынятая пастанова набыла

# "ТУБІК"

(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)

— А во назола, — зняцэўку закіпеў Віталь, — чые б цяляты рыкалі, толькі б твае маўчалі. Гітлер, між іншым, яшчэ і штаны насіў. І як мы не дадумаліся штаны забараніць!

— А халера вас разбярэ. То вы за чырвоных, то за белякоў, — плюнуў Тамусь, — сарока сароку бачыць здалёку.

— Тамусь, не піскай, — зарагатаў Кавальчук, — мы за шэра-бура-малінавых, але супраць блакітных.

— Табе вось, дзядзька, паветра не хапае, дык ты фортачку адчыняеш, — цярпліва пачаў тлумачыць Кадровіч, — у цябе ўдушша, хвароба, што зробіш. А я, дзядзька, не хачу хадзіць удушлівым па зямлі па сваёй. Я не хачу з заткнутым ротам і з кіслародная падушкаю. Я малады яшчэ, а ў мяне ўжо мову адабралі, дык я не збіраюся немчуром хадзіць...

— Хто ў цябе мову адабраў? Вярзеш ты нешта, хлопец...

— Хто-хто, чорт у паліто... Ты і адабраў, і да цябе падобныя. Чорт пахваліўся, а дурань жаніўся. Прагаласавалі за "двухмоўе"...

— Э, хлопец, тут я з табой не сагласен тожа, — зацікавіўся і Дзед, — рускі язык нада знаць. Мы з Расіяй заадно ваявалі...

— Гэдак "знаць", як ты, Дзед? Каб ні ў пяце, ні ў галаве? — засмяяўся Віталь. — Два языкі, Дзед, толькі ў гадзюкі, за гэта яна і сіпіць усё жыццё.

— Ды хто ж супроць рускай мовы? У вас яе нехта адбірае? Каб жа двухмоўе сапраўднае... — Зміцер аж сціснуў ад роспачы кулакі. — У сваёй краіне беларусу жыць няма як, мову яго ў кут загналі, самі з яе пацяшаюцца і дзяцей у школе калечаць...

— Ат! Якая там мова! Некрасівая. Рускія словы, ды на мужыцкі шурпаты язык...

— Э, не дзед, у дурнога пеўня дурная песня, а хоць у латаным, абы не ў хватаным, — запярэчыў Віталь.

— Некрасівая...

***О, так, як цьмы, як спуджаны вароны!..***<br>
***І слухаем і нюхаем тут, там:***<br>
***Які павеяў вецер на загоны, —***<br>
***Заходні, ўсходні, ці ад нас, ці к нам?***

***З кійком жабрачым так мы,***<br>
***паўналеткі,***<br>
***Брыдзём, паўзём у свет —***<br>
***скрозь неўпапад.***<br>
***І прысягаем, клічам Бога у сведкі,***<br>
***Што мы — не мы,***<br>
***што нехта вінават...***

— Кінь ты, Зміцер, усё роўна не зразумеюць... Яму гавары, а ён дагары. Слухай, а давай на дванццаць пятага ў Мінск махнём, пагуляем...

— Спачатку дажыць трэба.

— Не хныч, Кадрык, жыве Беларусь! А да Абрама на піва ніколі не позна. Ну, а з табою ўжо што здарылася?

— Таксама бронхаскапія, — падказаў Дзед, які ўзяўся ўжо за новую вячэру: апетытна ўпісваў кавалак хлеба ў прыкуску з дамашнім салам. — Ты, хлопец, не бойся, не баліць, мне два разы рабілі, ну, кроўю крыху пахаркаў.

— А ты, Дзед, ад голаду не памрэш, — хітравата прыжмурыў вока Тамусь, — пікава, як яны да тваёй гарлянкі дабраліся? Гэта ж усядно як кабана асвежаваць.

— Каб табе язык адсох!

Ізноў схапіліся. Каб не лаяліся ды не жартавалі, кожны, вядома, думаў бы пра свае хваробы, і тады хваробы, мусіць, адужалі б іх. Але ж у чалавека выпрацоўваецца імунітэт, каб не думаць лішняга, каб не памерці загадзя.

З таго вечара Кадровіча і Кавальчука паасобку не бачылі. Калі Віталя зранку доўга не было, Зміцер хваляваўся, месца сабе не знаходзіў і, ледзьве толькі заканчваўся абход, бег да сябра. Тут жа прыбягаў Кавальчук, кідаў недаўменны позірк на пусты Зміцераў ложак, пытаўся:

— Дзе мой Кадрык?

— Ай-ай-ай, у калідоры размінуліся, — з'едначаў Тамусь, — мо сісю табе знёс?

І бронхаскапію абодвум прызначылі на адзін дзень, на дванццатага. Навошта гуму цягнуць, усё роўна, пакуль не абследуюць, Марыя Андрэеўна ніякага лячэння хлапцам не прызначала, уголас абзывала іх лайдакамі, валацугамі і дармаедамі, пыталася, ці хутка трэба высылаць ім паслужныя лісты. Было за што: адобва сябры паспелі аблазіць увесь "тубік", пазнаёміліся з тутэйшай моладдзю. А маладзі тут — хоць гаць гаці. Ёй, жанчыне спрактыкаванай, якая век свой тут адпрацавала і прывыкла, здавалася б, да ўсяго: да людскіх слёз, да хваробаў, якія падкрадваліся ціхутка і непрыкметна, а з'ядалі чалавека імгненна і цалкам, прывыкла бачыць у людскіх вачах надзею і просьбу аб дапамозе, і ўмела сама надзею запаліць; ёй непамысна, аднак, было бачыць у родным "тубіку" столькі моладзі. Як ні прывучала сябе, усё роўна душа пратэставала, не магла пагадзіцца з гэтай вышэйшай на свеце несправядлівасцю. Хвалявалася Марыя Андрэеўна і за абодвух юнакоў, спрытных, разумных, вясёлых, далейшы лёс якіх павінен выра-

больш "практычны" характар:

"1. Признать диспут по книге Довнор-Запольского нецелесообразным.

2. Организовать в ближайшее время отъезд Довнор-Запольского из пределов БССР, не прибегая к административным мерам.

3. Поручить тов. Карпу провести соответствующий разговор с Довнор-Запольским.

4. В дополнение к прежним решениям Бюро ЦК обязать тов. Сербента организовать издание статей в печати по книге Довнор-Запольского".

Галоўнае ў гэтай пастанове — "арганізаваць ад'езд вучонага з БССР, не ўжываючы, аднак, мер адміністрацыйнага прымушэння. Правесці з вучоным "адпаведную размову" даручалася С. Карпу, які працаваў намеснікам старшыні СНК БССР і кіраўніком Дзяржплана рэспублікі. Як адзначалася вышэй, М. Доўнар-Запольскі быў прыцягнуты да працы ў планавых органах. С. Карп, аднак, пярэчыў, спасылаючыся на тое, што Доўнар-Запольскага як кваліфікаванага спецыяліста ў галіне народнай гаспадаркі трэба захаваць у рэспубліцы; акрамя таго, не ён запрашаў яго і не яму займацца выдаленнем. У сувязі з гэтым бюро ЦК КП(б)Б вымушана было 11 сакавіка 1926 г. змяніць прынятае раней рашэнне і даручыць правесці размову з Доўнар-Запольскім наркому асветы БССР А. Баліцкаму.

Тым не менш, патрабаванне сакратарыята ЦК КП(б)Б аб "арганізацыі" ад'езду М. Доўнар-Запольскага "з межаў БССР" заставалася нявыкананым, і 2 красавіка бюро ЦК КП(б)Б зноў вяртаецца да гэтай праблемы. Цяпер паведамленне "Аб прафесары Доўнар-Запольскім" зрабіў нарком асветы А. Баліцкі. Рашэнне было прынята з двух пунктаў:

"1. Признать, что профессор Довнор-Запольский должен выехать из пределов БССР не позже 1-го июня 1926 г.

2. Библиотеку Довнор-Запольского поручить тов. Балицкому закупить в советском порядке".

На працягу мая кіраўнік Дзяржплана С. Карп і, магчыма, кіраўніцтва універсітэта і Інбелкульта зрабілі новую спробу адмяніць рашэнні бюро ЦК КП(б)Б. Больш настойлівым быў С. Карп, які 9 чэрвеня 1926 г. накіраваў на імя другога сакратара ЦК КП(б)Б М. Галадзеда наступную запіску:

"Прошу вторично обсудить вопрос об использовании проф. Довнор-Запольского. Прошу пригласить меня на заседание бюро ЦК при обсуждении этого вопроса.

С ком. приветом Карп

9/6".

11 чэрвеня пытанне было пастаўлена ў парадак дня закрытага пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б у фармулёўцы: "Прапанова тав. Карпа аб пераглядзе рашэнняў бюро ЦК аб Доўнар-Запольскім". Прапанова С. Карпа была адхілена: "Лічыць зусім немагчымым перагляд рашэнняў бюро ЦК аб Доўнар-Запольскім". На пасяджэнні прысутнічалі: Галадзед, Чарвякоў, Карклін, Калнін, Ігнатоўскі, Барушка, Зяньковіч, Бенэн, Віленстовіч, Муратава, Сярбента. Не было першага сакратара ЦК А. Крыніцкага, які падпісаў усе папярэднія пастановы. Не запрасілі і аўтара прапановы.

Да рашэння прыкладзена запіска старшыні ІБК і члена бюро ЦК У. Ігнатоўскага:

"Т-шч Галадзед!

Была, як я памятаю, пастанова Бюро ЦК купіць бібліятэку Доўнар-Запольскага. Васілевіч не дае грошы. За гэтым наркамфінаўскім бюракратызмам свету не бачу, аб чым і даводжу да Вашага ведама.

З кам. прыв. У. Ігнатоўскі.

1926. 10.VI.

P. S. Паміж іншым, у Дзяржплане Доўнару нічога не сказана, і ён лічыць, што яму магчыма аставацца на Беларусі.

У. І."

І. Васілевіч — тадышні нарком фінансаў БССР. Як вырашыўся лёс бібліятэкі вучонага, матэрыялы бюро ЦК КП(б)Б не паказваюць.

Абставіны для М. Доўнар-Запольскага склаліся так, што ў верасні 1926 г. ён вымушаны быў падаць заяву аб звальненні з Белдзяржуніверсітэта, прапрацаваўшы ў ім няпоўны навучальны год. Далейшыя гады яго жыцця звязаны з Масквой. Увесну 1929 г., калі адзначалася 45-годдзе яго навуковай дзейнасці, група вядомых маскоўскіх вучоных паставіла перад прэзідыумам АН СССР пытанне аб вылучэнні Доўнар-Запольскага "імя якога як гісторыка гаспадаркі добра вядома і ў СССР, і за мяжой", у склад акадэміі. Адзін з ініцыятараў вылучэння прафесар А. Пятроў у водзыве на працы Доўнар-Запольскага, прысланым у Мінск для падтрымкі, пісаў: "Масква прыцягнула яго зноў шырокай магчымасцю навуковай працы. У Маскве ён з'яўляецца прафесарам Ціміразеўскай сельскагаспадарчай акадэміі, Інстытута народнай гаспадаркі імя Пляханава (чытае гісторыю гандлю), правадзейным членам Інстытута гісторыі, старшынёю секцыі гісторыі народнай гаспадаркі савецкага Усходу Навуковай асацыяцыі ўсходазнаўства пры ЦВК СССР. М. Доўнар-Запольскі прымае актыўны ўдзел у навуковым, даследчым і грамадскім жыцці Савецкага Саюза, уносячы сваю долю ў агульнае сацыялістычнае будаўніцтва...

Усё тут правільна, за выключэннем таго бясспрэчнага факта, што Мінск вучонага прымусілі пакінуць, свядома і мэтанакіравана "арганізаваўшы яго ад'езд". Масква прыняла яго як сусветна вядомага вучонага. Лонданскае "The Slavonic Rewiew" пісала на пачатку 1929 г.: "З беларускіх вучоных, з якімі навуковаму свету Славонікі ўжо даводзіцца сур'ёзна лічыцца, упамянем праф. У. Пічэту, М. Доўнар-Запольскага, У. Ігнатоўскага, Піятуховіча, Некрашэвіча, братоў Лёсікаў".

У матэрыялах аб Доўнар-Запольскім, дасланых у БелАН у сувязі з вылучэннем у склад саюзнай акадэміі, ёсць ацэнка развіцця поглядаў вучонага ў асэнсаванні гістарычнага працэсу, якая з самага пачатку яго навуковай дзейнасці ішла ў "рэчышчы гістарычнага матэрыялізму". У пацвярджэнне прыводзіцца ўступная лекцыя на тэму "Гістарычны працэс рускага народа ў рускай гістарыяграфіі", прачытаная 20 верасня 1901 г. у Кіеўскім універсітэце. У той час, зазначае А. Пятроў, калі з улоння марксізму збеглі Струве, Булгакаў, часткова Туган-Бараноўскі, калі Струве заклікаў моладзь ісці "да Канта", М. Доўнар-Запольскі заклікаў сваіх слухачоў вяртацца "назад, да Маркса". Лекцыя закончылася захопленай авацыяй студэнцкай аўдыторыі і "магільным маўчаннем прафесарскай калегіі". Рэктар універсітэта прафесар Фарцінскі зрабіў лектару заўвагу: "Ваша права быць якіх пажадаеце перакананняў, але выступаць з такімі радыкальнымі думкамі публічна — вельмі неасцярожна для пачынаючага".

Такіх пасажаў у дасланых у Мінск водзывах шмат. Аднак ні яны, ні пералічэнне навуковых заслуг вучонага, у тым ліку і ў даследаванні гісторыі Беларусі і яе народнай гаспадаркі, ні спасылкі на яго талент як арганізатара навукі, на загінуўшых у барацьбе за Савецкую ўладу сыноў, якога-небудзь уздзеяння на свядомасць партыйных кіраўнікоў рэспублікі не аказалі. 14 чэрвеня 1929 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б па інфармацыі У. Ігнатоўскага аб вылучэнні Доўнар-Запольскага ў склад АН СССР была прынята адназначная пастанова: "Паведаміць ЦК УсеКП(б) аб тым, што ЦК КП(б)Б катэгарычна супраць кандыдатуры Доўнар-Запольскага акадэмікам у Акадэмію навук СССР".

Пачатак 1929 г. у гісторыі Беларусі — перыяд шумнай і жорсткай барацьбы супраць нацыянал-дэмакратызму, які газета "Звязда" ўлетку абвясціла праявай правага апартунізму і галоўнай небяспекай у нацыянальна-культурным будаўніцтве. У ходзе разгорнутай палітычнай кампаніі выкрываліся сацыяльная сутнасць нацыянал-дэмакратызму, яго палітычныя мэты, гістарычныя карані. Гістарычныя карані звязвалі з працамі шэрагу вучоных-гісторыкаў, сярод якіх на першае месца ставілі М. Доўнар-Запольскага. Першы сакратар ЦК КП(б)Б К. Гей на пленуме ЦК 20—25 кастрычніка 1930 г., на якім старшыня ДПУ БССР Р. Рапапорт паведаміў аб раскрыцці контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі інтэлігенцыі пад назвай "Саюз вызвалення Беларусі" (СВБ), так, напрыклад, ацэньваў погляды Доўнар-Запольскага на Кастрычніцкую рэвалюцыю і ролю ў ёй сялянства: "Гэта пункт гледжання нават не той дробнай буржуазіі, якая пры капіталістычным ладзе знаходзіцца, як правіла, пад кіраўніцтвам буржуазіі, але за кіраўніцтва якой пралетарыят можа паспяхова змагацца і на пэўных этапах рэвалюцыйнага развіцця вырваць гэта кіраўніцтва з рук буржуазіі. Ідэі, якія развівае Доўнар-Запольскі, гэта пункт гледжання буйной буржуазіі і тых пластоў дробнай буржуазіі, якія арганічна звязаны з капіталам, з буйной буржуазіяй, з прыватнай уласнасцю на сродкі вытворчасці". На шчасце, зазначыў Гей, "працы гісторыка Доўнар-Запольскага не ўбачылі свету, не былі надрукаваны"

У рэзалюцыі "Аб становішчы на гістарычным фронце ў БССР і задачах таварыства гісторыкаў-марксістаў", прынятай 14 лістапада 1930 г. па дакладзе старшыні таварыства В. Сярбенты, М. Доўнар-Запольскі названы ўжо "тыповым прадстаўніком буржуазна-памешчыцкай плыні ў поглядах на гісторыю Беларусі", якая змыкаецца з "расійскім вялікадзяржаўніцтвам і нават часткова з вялікадзяржаўным клерыкальным чарнасоценствам". У пасляваеннай савецкай гістарыяграфіі і энцыклапедычных даведніках М. Доўнар-Запольскі застаўся ў больш мяккай фармулёўцы "беларускага буржуазнага гісторыка". Яго кніга "Гісторыя Беларусі" (у перакладзе з рускай мовы), на якой у 20—30-я гады столькі зламана коп'яў, нарэшце, вызвалена са спецхрана і ў 1994 г. убачыла свет. Чытач цяпер сам можа ацаніць яе вартасці і недахопы, як і тое, якіх поглядаў трымаўся аўтар працы.

Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі памёр 30 верасня 1934 г. Апошнія гады яго жыцця — час простага чалавечага выжывання, калі ва ўмовах пастаянна нарастаўшага ў грамадстве ідэолага-палітычнага дыктату пра многія ідэі, планы і мары, што былі пранесены праз увесь жыццёвы шлях, прыйшлося проста забыць. Як справядліва заўважаюць біёграфы вучонага, заўчасная смерць выратавала яго ад тых пакут, якія несла ў сярэдзіне 30-х гадоў бязлітасная машына сталінскага палітычнага тэрору.

**Расціслаў ПЛАТОНАЎ,**
**доктар гістарычных навук**

---

шыцца неўзабаве. Што пакажа бронхаскапія?..

Толькі падвечар перад заўтрашняй аперацыяй Зміцер стаміўся змагацца з сабою. Усярэдзіне нешта надламілася, напала хандра, і колькі не падбадзёрваў яго сябар, нічога не атрымалася. Хлопец доўга ляжаў, уталопіўшы вочы ў столь. Настрой яго перадаўся іншым, мужыкі ў палаце прыціхлі таксама, нават Тамусь не закідваў болей сваіх жартачкаў. Але неўзабаве хлопец падняўся, не сваімі нагамі паклыпаў у ардынатарскую, папрасіўся ў Марыі Андрэеўны, каб адпусціла на ноч да сястры — дадому. Тая здзіўлена паціснула плячыма, аднак дазволіла, папярэдзіла адно:

— Раніцай каб у восем гадзін быў як штык, каб у роце с самага сённяшняга вечара ні гарэлкі, ні закускі, ні макавай расінкі не было...

Хлопец з удзячнасцю ўсміхнуўся, хацеў нават пажартаваць, што ён, далібог, пакуль не алкаголік і не наркаман. Але не жартавалася.

Безвач ехаў дадому, безвач вяртаўся назад. Сустрэча з роднымі не прынесла жаданае палёгкі, а можа, яшчэ і падліла алею ў агонь, які з новаю сілаю разгараўся, бушаваў у збалелай, зняверанай хлапечай душы. Няўжо фініш! Няўжо так і не ўбачыць болей нават вясны, якая неўзабаве абавязкова наступіць, прагнаўшы надзвычай лютую і доўгую, лічы, паўгадавую зіму. Няўжо!.. Ехаў і не заўважыў, паэт называецца, што на вярбе тым часам ужо набухаюць пупышкі.

Ізноўку — кароткая дарога з аўтобуснага супынку да "тубіка", па якой ступаеш, нібы ў замагілле...

А ў "тубік" прыйшоў зусім іншым чалавекам. Зміцер весела смяяўся, спрабаваў жартаваць, у палаце, праўда, хутка "раскусілі" гэтую яго "весялосць" і не дзівіліся. Узяў з сабою на "сечу" стары бацькаў гадзіннік маркі "Перамога". Гадзіннік пяцьдзесят пятага года, служыў бацьку, служыць яму вераю і праўдаю, можа, яшчэ, бог дасць, і ўнукам паслужыць. Ён — талісман. Да аперацыйнай, на пяты паверх, падымаліся разам з Віталем, на ліфце. Вялізарны такі транспартны ліфт. Дамовіліся з сябрам: першага, хто ідзе "пад нож", другі прывозіць у палату. Каталкі з сабою прывезлі. Як толькі прачынаецца з наркозу другі, першы ўжо стаіць ля яго ложка і радуе шчаслівай навіною. Абавязкова шчаслівай!

Зміцер пайшоў першым. Ён заўсёды першым хадзіў адказваць на экзаменах. А гэта быў, можа, самы галоўны экзамен у яго жыцці.

Хлопец быў не хрышчоным. Бацькі ў яго настаўнікі, а тады было з гэтым строга, вось і пабаяліся. Пасля ж... пасля Зміцер не адчуваў асаблівай патрэбы ісці на паклон да бога. Можа, што крыўдаваў на яго: чаму дачасна забраў на той свет бацькоў. А можа, проста маладому — маладое ў галаве. І толькі зараз, перад тым, як легчы на аперацыйны стол, ён раптам успомніў пра бога і ўсё яшчэ сарамліва, хаця б не пачулі ды не смяяліся, прашаптаў як умеў:

***Божа! Уратуй і зберажы***
***Іменем і славаю***
***Крыжа твайго жыццядайнага!***
***Божа! Уратуй і зберажы,***
***У імя айца і сына,***
***І святога духа,***
***Амінь...***

Помніў, як перакладвалі на каталку, але зусім ачуняў толькі на ложку. Ачуняў, здавалася, усяго праз імгненне пасля таго, як закрыў вочы. Ці то наркоз аказаўся слабы, ці то проста так падалося. І пакуль яшчэ галава была стопудовая, пакуль не хацела адрывацца ад падушкі, пакутліва стараўся ўспомніць, як усё было. Вось яго ўкалолі. Вочы адразу ж заплылі, засціла дыхаць. Людзі над ім пра нешта коратка, адрывіста гаварылі, але ён не чуў. У вушы нібы хто ваты напхаў. Апошняе, пачуў, як у роце раптам апынулася штосьці воглае, цвярдое. Дыхаць стала немагчыма зусім, і ён адключыўся. Першае, што ўлавіла свядомасць, задаволены голас урача:

— Бронхі чыстыя!

Ногі яшчэ хадзілі п'янымі, але ў галаве пасвятлела, знік некуды цяжар. Галава адарвалася ад падушкі, ногі самі ўсунуліся ў шлёпкі і паклыпалі да дзвярэй.

— Дах ад'ехаў? — асцярожна, нават лагодна пацікавіўся Тамусь. — Людзі паўдня падняцца не могуць, а ён праз дзесяць хвілін паўзе да баб.

Слабаю рукою намацаў дзверы, адчыніў, патэпаў па калідоры ў суседнюю палату...

Кавальчук пакуль яшчэ быў пад наркозам. Вочы сябра няўцямна ўставіліся ў адну кропку. Зміцер пастаяў ля яго ложка і, баючыся, каб не спужаць, не нашкодзіць, ціхенька падаўся да дзвярэй. На калідоры залавіла Марыя Андрэеўна, пляснула рукамі:

— Божухна! Ходзіць... Ну, кадр... — і ўсміхнулася. — Жыць будзеш, Кадровіч, сто гадоў.

— А Кавальчук? — трывожна праклекатаў хлопец сасмяглым, балюча параненым горлам.

Ён раптам убачыў, як балюча скрывіўся яе твар, заўсёды такі лагодны, светлы — сама дабрыня. Убачыў і ўсё зразумеў...

А праз два дні Кадровіча выпісалі з бальніцы. Марыі Андрэеўне ён падарыў вялікі букет чырвоных цюльпанаў і сваю маленькую кніжачку.

Той самай дарогаю вяртаўся да аўтобуснага супынку — да жыцця. Якая цяпер кароткая і жаданая была гэтая дарога! Хлопец другі раз нарадзіўся на свет. Раптоўна стала цёпла, нібы прарвала, пабеглі ручаіны, запахла вясною. Любімая яго пара года. Цяпер ён нарэшце пачуў вясну, убачыў яе, можна было з палёгкаю ўздыхнуць, але на сэрцы ляжаў камень...

Праз два дні Кавальчука павезлі на даследаванне ў НДІ анкалогіі.

А дваццаць пятага сакавіка Кадровіча ізноўку бачылі ў Мінску, на мітынгу. Ён стаяў з непакрытаю галавою пад "крамольнымі" штандарамі і радасна крычаў, не шкадуючы параненага горла:

— Жы-ве Бе-ла-русь! Жы-ве Бе-ла-русь!

І магутны яго голас, здавалася, гучаў яшчэ мацней, зліваючыся з галасамі сяброў яго і паплечнікаў:

— Жыве Беларусь! Жыве Беларусь! — скандзіраваў шматтысячны натоўп, які, прыйшоўшы на пляц, стаў народам.

Зміцер так і не навучыўся насіць шапкі, таму і не меў патрэбы здымаць яе перад "сильными мира сего"...

Бачылі яго ў сталіцы і дваццаць шостага красавіка, і дваццаць сёмага ліпеня, і, нягледзячы ні на якія забароны, дзевятнаццатага кастрычніка, і на Дзяды, у Курапатах, і на пляцы Незалежнасці, падчас слотнага лістападаўскага тыдня супроцьстаяння, калі, здавалася б, не засталося ўжо аніякае надзеі...

О, гэты пакутліва доўгі высакосны год...

І толькі дваццаць чацвёртага, сярод асірацелых, закалянелых пад першым зімовым завірушшам пікетчыкаў Зміцера Кадровіча не было. Казалі, паехаў на Пухаўшчыну... развітацца з сябрам...

***Божа! Уратуй нас і зберажы***
***Імем і славай***
***Крыжа твайго жыццядайнага!***
***Божа! Уратуй нас і зберажы,***
***У імя айца і сына,***
***І святога духа,***
***Амінь...***

ВІНШУЕМ!

# Пільным вокам... аб'ектыва



*Уладзімір КРУК (справа) з Андрэем МАКАЁНКАМ, 1972 г.*

Семдзесят у гэтыя чэрвеньскія дні споўнілася Уладзіміру Круку. Я наўмысна не ўдакладняю — знакамітаму фотамайстру, бо ўпэўнены, што і так яго імя добра вядома тысячам аматараў літаратуры, тэатра, мастацтва, культуры.

Першыя яго здымкі з'явіліся ў "ЛіМе" яшчэ ў пачатку 50-х гадоў. І з таго часу публікаваліся і публікуюцца з нумара ў нумар. Так, і цяпер публікуюцца. Бо няма сярод нацыянальных фотамайстроў другога, хто б меў такую багатую, без перабольшання — унікальную! — фотатэку, як ён. Пільнае вока аб'ектыва Уладзіміра Андрэевіча, занатавала для нашчадкаў ці не ўсе больш-менш значныя падзеі з літаратурнага і культурнага жыцця Беларусі за апошнія сорак з гакам гадоў. І калі якому-небудзь перыядычнаму выданню тэрмінова патрэбна фота вядомага пісьменніка, акцёра, мастака, супрацоўнікі рэдакцыі тэлефануюць У. Круку. Ведаюць — такі здымак у яго ёсць.

Ён даўно стаў яркім летапісцам хуткаплыннага і несупыннага творчага жыцця рэспублікі, што яскрава засведчылі і шматлікія фотавыставы, якія ў розны час ладзіліся ў Доме літаратара з нагоды юбілеяў пісьменнікаў, у сувязі з чарговымі з'ездамі літаратараў, пленумамі. Сярод выстаў была адна, асабліва адметная. На ёй фотамайстра сабраў партрэты вядомых, сталых і маладых пісьменнікаў з... аўтографамі адлюстраваных творцаў. Некалькі работ У. Крука з той выставы сёння — перад табой, шаноўны чытач. Яны ўжо — гісторыя. І яны ж — згадка аб здзейсненым Майстрам...

З юбілеем, дарагі Уладзімір Андрэевіч!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

### *Уладзіміру Круку*

***Ці бачыце: дзесяткі лет і зім***
***Пасталі, неадступныя,***
***за ім.***

***А ён той самы, стройны і прамы,***
***Як у альбомах —***
***маладыя мы.***

***Мы ўсе яго героі, як адзін,***
***І нас ужо не страшыць***
***часу млын.***

***Няхай жыццё віруе і бяжыць —***
***Заўжды на фотаплёнцы***
***будзем жыць...***

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**



Дарагому
Уладзіміру Круку

*Мы з табой калісь рабілі*
*У рэдакцыі адной.*
*Нас лаялі і білі —*
*Мы вялі сустрэчны бой.*

*Не любіў здымаць ты бяздар,*
*Кар'ерыстаў і манюк.*

*І ад з'езда і да з'езда*
*Шліфаваў майстэрства Крук.*

*Мы свае расцілі кадры,*
*Мы любілі родны "ЛіМ"...*
*Нам параіў крытык далікатны:*
*"Газеце "ЛіМ"*
*Патрэбен падхалім".*

Кастрычнік 1988 г. Пімен ПАНЧАНКА



*Пільнае вока ,*
*Валодзі Крука —*
*На светлае заўтра —*
*Зарука.*

Васіль БЫКАЎ. 1988



*22 гады назад*
*Шчоўкнуў фотаапарат —*
*І дагэтуль я Круку*
*Цісну горача руку.*

Ніл ГІЛЕВІЧ. 15.XI.88.



*Чым жанчына*
*прыгажэйшай*
*Атрымаецца ў Крука,*
*Тым сяброўства іх —*
*даўжэйшым*
*Ці бясконцым, як рака.*

*Вось чаму і ўсе паэткі,*
*Пачынаючы ад Лось,*
*Ля яго — нібыта кветкі,*
*Да яго — гарнуцца скрозь.*

Кастрычнік 1988 г.
Вольга ІПАТАВА


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Міхась ЗАМСКІ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фота-карэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-667**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 26.6.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 3679/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12